30 ліпеня 2021 | № 29 (737)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

«Літаратурная Беларусь»
Стар. 7–18



Фота Анастасіі Рубанавай

# Самы просты план перамогі

**Чым бліжэй 9 жніўня, тым больш рэфлексій і аналітыкі пра тое, што здарылася год таму, што атрымалася, а што не, і што рабіць цяпер. Адказ на пытанне «што рабіць?» асабліва актуальны на фоне масавых рэпрэсій, выпальвання і выціскання ўсяго жывога і нацыянальнага з Беларусі.**

У наступных нумарах мы яшчэ вернемся да гэтай тэмы, а пакуль прапануем развагі **Ганны Севярынец**, якімі яна падзялілася на сваёй старонцы ў фэйсбуку:

«Сказаць па праўдзе, яшчэ ўвосень я думала, што самым жорсткім, але і самым педагагічна правільным варыянтам развіцця падзей мусіць быць варыянт, калі грамадства акажацца адзін на адзін з уладай, без гэтай танюткай праслоечкі быццам бы нармальнага жыцця — незалежнай прэсы, грамадскіх арганізацый, крэатыўных прастораў — усяго таго, што стварала як бы міраж, Фата Маргану нармальнасці навокал.

Цяпер большасць з нас не тэарэтычна, а на практыцы спасцігне тое, што раней ведала толькі меншасць: што і на працу возьмуць не кожнага і не паўсюд, і рот закрыюць, і па тэлефоне не ўсё скажаш, і добрага спецыяліста цяпер хіба ў зуме знойдзеш. І ў тэатр асабліва не сходзіш, і на канцэрт. Цяпер тое, што раней рабілі адзінкі — мянялі свядомасць грамадства — мусіць рабіць кожны.

Ну, альбо не рабіць.

І я хачу сказаць, што гэта — той самы адзіна правільны шлях, які толькі і ёсць у народа ў напрамку "людзьмі звацца". Гадаваць унутры сябе чалавека, які ўсё адно, без дапамогі звонку, жыве па сумленні і па законах дабра.

Гадаваць, песціць, люляць унутры сябе беларуса, які ведае свае карані, сваю гісторыю, удумліва аналізуе, дашукваецца нашых агульных памылак і месцаў сілы, які пакрысе вывучае сваю гаспадарку, які ведае ў сваёй хаце кожны куток і чуе, як пяюць пад нагамі дошкі падлогі. "Яны прайгралі, бо не мелі плану". А мы, кожны, мелі план?

А план гэты просты для кожнага з нас. Мяняць жыццё навокал да лепшага. Быць сумленнымі. Не трансляваць у свет нянавісць. Быць упартымі ў праўдзе. Бараніць сваё. Памятаць сваё. Гадаваць дзяцей у сумленні і любові. Я па сёння сустракаю людзей, нібыта прыхільнікаў перамен, якія лёгка ідуць на фальсіфікацыі на працы, альбо выганяюць з калектываў нелаяльных, хай сабе і эфектыўных супрацоўнікаў, альбо не хочуць вызваляць утульнае начальніцкае крэсла. Цяпер самы час перагледзець свае жыццёвыя каштоўнасці і спытацца ў самога сябе: а я — вольны ад хібаў старога свету? І калі не вольны пакуль — пачаць вызваляцца.

А яшчэ — чакаць, і дачакацца».

Можна хіба дадаць, што гэты перыяд трансфармацыі з тутэйшага ў беларуса павінен прайсці кожны! Трэба пераасэнсаваць сябе, краіну і гістарычна-сацыяльныя падзеі, каб з вусеня нарадзіўся матылёк! Чужымі рукамі, як кажуць, не атрымаецца. Наша жыццё назаўжды падзялілася на ДА 2020 года і ПАСЛЯ!

І пакуль жывы хоць адзін сумленны беларус, жыве Беларусь!

# Цяжкія часы для грамадзянскай супольнасці

**Тыдзень у Беларусі адзначыўся глабальнай зачысткай арганізацый грамадзянскай супольнасці, у якіх спачатку адбылісяператрусы, а цяпер іх ліквідуюць. Чым яшчэ жыла краіна — у нашым дайджэсце.**

Ва ўзросце 103 гадоў 20 ліпеня памерла Эльжбэта Радзівіл (у замужжы Тамашэўская), дачка апошняга гаспадара Нясвіжскага замка — Альбрэхта Радзівіла і англічанкі Дораці Паркер Дзікан. Эльжбета Радзівіл некалькі разоў наведвала незалежную Беларусь, у тым ліку Нясвіж, у якім раней бывала дзяўчынкай. Апошні яе візіт адбыўся ў 2009 годзе.

У нямецкім Вормсе прайшла цырымонія ўручэння прэміі імя Марціна Лютэра «Бясстрашнае слова» за 2021 год. Лаўрэатамі стала «жаночае трыа» з Беларусі, якое ўзрушыла выбарчую прэзідэнцкую кампанію ў 2020 годзе — Марыя Калеснікава, Святлана Ціханоўская і Вераніка Цапкала. У заяве аргкамітэта прэміі гаворыцца, што Вераніка Цапкала, Марыя Калеснікава і Святлана Ціханоўская «выступалі за мірную рэвалюцыю, новыя выбары і дэмакратычную будучыню сваёй краіны, рызыкуючы пры гэтым падвергнуцца пераследам, пазбаўленню волі, катаванням і дэпартацыі».

З 21 ліпеня ў Беларусь прыбываюць вайсковыя эшалоны з Расіі. Войскі будуць удзельнічаць у сумесных стратэгічных вучэннях «Захад–2021». Вучэнні пройдуць на палігонах дзвюх краін з 10 па 16 верасня. Іх тэма — прымяненне групаў войск (сіл) у інтарэсах забеспячэння ваеннай бяспекі Саюзнай дзяржавы. Вучэнні серыі «Захад» праводзяцца на тэрыторыі Беларусі раз на чатыры гады. Папярэднія манеўры ў 2017 годзе былі аднымі з найбуйнейшых у гэтым стагоддзі. Тады ў якасці «верагоднага праціўніка» была абраная заходняя частка тэрыторыі Беларусі, па плане вучэнняў — дзяржава «Вейшнорыя». На знак пратэсту таго, што частку тэрыторыі Беларусі ваенныя ўспрынялі як ворагаў, беларусы пачалі масава запісвацца ў «вейшнорцы». Была нават створана віртуальная краіна з адпаведнымі пашпартамі, грашыма, і нават сталіцамі.

Беларусь плануе да 2030 года стварыць сховішча адпрацаванага ядзернага паліва. Адпрацаванае паліва, згодна з існуючымі дамоўленасцямі, будзе накіроўвацца на перапрацоўку ў Расію з наступным захоўваннем нізкаактыўных і сярэднеактыўных элементаў гэтага паліва ўжо на тэрыторыі Беларусі.

У Мінску 27 ліпеня аднавіўся суд над палітвязнем Сцяпанам Латыпавым. Перапынак у судзе быў зроблены 10 чэрвеня на час правядзення стацыянарнай судова-псіхіятрычнай экспертызы. Яе прызначылі пасля таго, як 1 чэрвеня Латыпаў проста ў клетцы ў зале суда праткнуў сабе горла асадкай. Перад гэтым ён заявіў, што супрацоўнікі ГУБАЗіКа пагражалі завесці крымінальныя справы ў дачыненні да яго сваякоў і суседзяў, калі ён не прызнае віну.

Па АНТ паказалі беларускага кікбаксёра Аляксея Кудзіна. Ён заявіў, што «жывы-здаровы» і знаходзіцца ў СІЗА № 1 Мінска. Ён дадаў, што падтрымлівае дзеючую беларускую ўладу і не падтрымлівае беларускія апазіцыйныя сілы, «якія спрабуюць разбурыць маю краіну і хочуць навесці нейкую смуту ў маёй краіне». Таксама спартовец плануе папрасіць аб памілаванні Лукашэнку. Раней стала вядома, што Расія выдала Беларусі Кудзіна насуперак забароне ЕСПЧ, і ён знаходзіцца ў СІЗА №1 у Мінску. Кудзіна абвінавачваюць у тым, што ён ужыў сілу ў дачыненні да супрацоўніка міліцыі на адной з акцый пратэсту ў жніўні 2020 года. Спартоўца затрымалі ў Маскве ў студзені 2021 года па запыце Беларусі.

У ноч на 24 ліпеня памёр гродзенскі грамадскі актывіст Мікалай Салянік. Яму было 66 гадоў, ён — сябар Беларускага Нацыянальнага Кангрэсу. Інвалід II групы па хваробе сэрца. Быў вядомы ў Гродне сваімі перформансамі. Мікалая неаднаразова затрымлівалі і судзілі, пасля затрыманняў ён часта трапляў у шпіталі з гіпертанічным крызам.

Украінскі бок не пагодзіцца на аднаўленне вочнага фармату перамоваў трохбаковай кантактнай групы па Данбасе ў Мінску. Пра гэта распавёў дарадца ўкраінскай дэлегацыі ў ТКГ Аляксей Арастовіч, каментуючы адпаведную прапанову Расіі.

Эстонія накіруе ў Літву каля 100 кіламетраў калючага дроту для ўмацавання мяжы з Беларуссю. Раней Вільня прыпыніла будаўніцтва плота на мяжы з Беларуссю з-за адсутнасці патрэбных матэрыялаў. Практычна кожны дзень літоўскія памежнікі затрымліваюць дзясяткі мігрантаў. У асноўным гэта ўцекачы з Ірака.

Галоўны рэдактар «Нашай гісторыі» Андрэй Дынько пасля 13 сутак у нялюдскіх умовах на Акрэсціна выйшаў на волю. Сваё зняволенне ён параўнаў з перабываннем «на тым свеце». Андрэй Дынько застаецца пад падпіскай аб неразгалошванні, яго падазраюць па двух крымінальных артыкулах. Таксама 23 ліпеня на волю выйшаў журналіст Алесь Дашчынскі, а 26 ліпеня пасля 10 сутак затрымання вызвалілі журналістаў Іну Студзінскую, Алега Груздзіловіча і Ігара Ільяша. Усе яны, акрамя Іны Студзінскай, пад падпіскамі.

Цяпер мерапрыемствы, якія ладзяць дзяржаўныя органы і арганізацыі Беларусі, дыпламаты краін — чальцоў ЕС і НАТО могуць наведваць толькі па запрашэнні або з пісьмовага дазволу МЗС. Еўрапейскі саюз



Андрэй Дынько пасля 13 сутак на Акрэсціна

Фота www.telegra.ph

назваў рашэнне МЗС Беларусі аб абмежаванні наведвання для дыпламатаў дзяржаўных мерапрыемстваў, у тым ліку судоў, як тыя, што «замінаюць нармальнай дыпламатычнай працы».

Уладальнікаў 21vek.by, «Юркас» і «Модум» вінавацяць у нявыплаце падаткаў. Пра гэта стала вядома з сюжэта БТ. На дзяржаўным тэлеканале паказалі допыты сузаснавальнікаў кампаніі «Трыавіст» (ёй належыць 21vek.by) Паўла Матусевіча і Сяргея Вайніловіча. Сюжэт змантаваны так, быццам бы яны прызнаюць сваю віну: бізнесмены нібыта фіктыўна прадавалі іпэшнікам часткі маёмасці фірмы, а затым гэтую ж маёмасць бралі ў арэнду, каб знізіць падаткі. Сцвярджаецца, што дзяржаве недаплачана 172 тысячы рублёў.Ператрусы і затрыманні ў офісе найбуйнейшай інтэрнэт-крамы Беларусі адбыліся 22 чэрвеня.

Заснавальнікі ініцыятывы «Умовы для мовы» Ігар Случак і Аліна Нагорная звярнуліся да кіраўніцтва мінскай фабрыкі «Слодыч» з просьбай дадаць беларускую мову на пакункі з гатовай прадукцыяй. А ў выніку атрымалі нахабны адказ па-руску пра тое, што моўныя актывісты «сваёй беларускай мовай іх дыскрымінуюць». Ігар Случак і Аліна Нагорная абскардзілі непрыхавана грэблівы адказ у пракуратуру і адміністрацыю Партызанскага раёна Мінска. У выніку пракуратура абавязала кіраўніцтва «Слодыча» адказаць па-беларуску і прыцягнуць супрацоўніка да дысцыплінарнай адказнасці, а раённая адміністрацыя склала пратакол і перадала справу ў суд.

Беларусь знаходзіцца на першым месцы ў Еўропе па колькасці вязняў на 100 тысяч чалавек, вынікае са статыстыкі, апублікаванай стамбульскай Акадэміяй крымінальнага права. Паводле яе, у Беларусі — 345 зняволеных на 100 000 чалавек. На другім месцы — Турцыя (335 чалавек на 100 000), на трэцім — Расія (331 чалавек на 100 000). Зусім няма зняволеных у Ватыкане, найменш — у Сан-Марына (6 на 100 000).

Сусветныя кампаніі Becker Group, Liebherr, Danfoss і Yokohama адмовіліся ад супрацоўніцтва з БелАЗам і БМЗ.

22 ліпеня ў Беларусі было ліквідавана як мінімум 56 арганізацый грамадзянскай супольнасці. У Мінскім гарадскім і ў Вярхоўным судах у бліжэйшыя дні запланавалі каля 20 працэсаў па ліквідацыі фондаў і грамадскіх аб'яднанняў. Сярод іх — ПЭН-цэнтр, «Беларуская асацыяцыя журналістаў», Рух «За Свабоду» і шэраг іншых арганізацый.

26 ліпеня ў судзе Фрунзенскага раёна Мінска агучылі прысуд па крымінальнай справе па ч. 1 арт. 289 Крымінальнага кодэкса («Акт тэрарызму») супраць 26-гадовага мінчука Ягора Міхайлава. Яго абвінавацілі ў падпале танка Т-72 на чыгуначнай станцыі ў Сцяпянцы шляхам кідка ў яго «кактэйлю Молатава» з надпісам «ОГСБ» уначы 31 студзеня. Відэа палаючага танка з'явілася ў інтэрнэце ў пачатку лютага, але дзяржСМІ назвалі яго фэйкам, а Мінабароны прадэманстравала непашкоджаны і цэлы танк. Паводле версіі абвінавачання, у выніку дзеянняў Міхайлава ўзнікла «аб'ектыўная небяспека гібелі людзей», хаця патрулюючыя вайскоўцы ў ноч падпалу нават не заўважылі ўзгарання. Некаторыя дазналіся пра інцыдэнт з інтэрнэту.

Генеральны пракурор Беларусі Андрэй Швед заявіў аб падрыхтоўцы звароту ў суд дзеля прызнання нацыянальнага сцягу «экстрэмісцкім». Ён паведаміў, што яго ведамства, маўляў, сабрала новыя пацверджанні таго, што бел-чырвона-белую сімволіку нібыта выкарыстоўвалі падчас Другой сусветнай вайны карныя батальёны як абавязковы элемент уніформы. Паводле слоў Андрэя Шведа, у Беларусі выяўлена больш за 100 новых месцаў масавых пахаванняў, у некаторых ляжаць 15–20 тысяч беларускіх грамадзян.

Палітолага Валерыю Касцюгову вінавацяць па тых жа артыкулах, што Калеснікаву, Зянковіча і Фядуту — «Заклікі да захопу ўлады і змова». Ёй пагражае да 12 гадоў. Валерыю Касцюгову затрымалі 30 чэрвеня.

## Шосты месяц запар. У Беларусі працягваюць падаць рэальныя пенсіі

**Рэальныя пенсіі, якія разлічваюць з папраўкай на рост цэн на тавары і платныя паслугі, падаюць шосты месяц запар. Гэта вынікае з даных Белстата. У чэрвені зніжэнне склала 0,7% да траўня. Падзенне рэальных пенсій адбываецца на фоне разагнанай інфляцыі, паведамляе Zerkalo.io.**

Калі ўзяць даныя за апошнія 12 месяцаў, то рэальныя пенсіі выраслі толькі ў ліпені, жніўні і снежні 2020-га, а ў астатнія месяцы — падалі. Рост быў звязаны з павышэннем працоўных пенсій у ліпені і снежні.

Сярэдні прызначаны памер пенсій складае 483,4 рубля (у параўнанні з траўнем гэты паказчык не змяніўся). На канец чэрвеня ў Беларусі пражывалі 2 мільёны 454,5 тысячы пенсіянераў.

Чыноўнікі не першы год спрабуюць падняць суадносіны сярэдняй пенсіі па ўзросце і сярэдняй зарплаты да 40%, але выканаць гэта калі і атрымліваецца, то ў асобныя месяцы.

У Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва раней распавялі, што фінансаванне пенсій і дапамог са сродкаў бюджэту фонду ў студзені-чэрвені рабілі своечасова і ў поўным аб'ёме. Выдаткі фонду склалі 9 334,1 мільёна рублёў, а даходы — 9 486,2 мільёна рублёў. Субвенцыі з рэспубліканскага бюджэту былі за гэты перыяд на ўзроўні 829,2 мільёна рублёў.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Краіна тэрарыстаў і экстрэмістаў?

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Статыстыка бывае розная. Збольшага мы аперуем у матэрыялах лічбамі Белстата. Але на тыдні лічбы даваў генпракурор Беларусі — і яны ўражваюць. А за гэтымі лічбамі — рэальныя людская лёсы.**


Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

Генпракурор Андрэй Швед, такім чынам, паведаміў нам праз афіцыйныя сродкі масавай інфармацыі, што ў Беларусі распачата больш за 4200 крымінальных спраў, звязаных з экстрэмізмам і тэрарызмам. «На сённяшні дзень распачата больш за 4200 крымінальных спраў, звязаных з гэтымі антыграмадскімі праявамі. У суды ўжо накіравана 803 крымінальныя справы ў дачыненні да 1116 чалавек, разгледжана 704 крымінальных спраў у дачыненні да 955 асоб», — цытуе Шведа БелТА.

Экстрэмізм і тэрарызм — гэта асобныя артыкулы Крымінальнага кодэкса. Гэта не звыклыя нам «масавыя беспарадкі» ці «супраціў супрацоўнікам міліцыі».

Удумайцеся ў гэтую лічбу: больш за тысячу тэрарыстаў у Беларусі, у дачыненні да якіх крымінальныя справы ўжо (!) накіраваныя ў суд. Але пры гэтым у краіне апошнім часам не адбывалася тэрактаў, не сыходзілі апошнім часам з рэек цягнікі, не гучала выбухаў на вуліцах, не было страляніны, не былі спаленыя машыны і гэтак далей… Дзякуй Богу, канешне, але ў нас не было нічога такога, што ў цывілізаваным свеце асацыюецца з тэрактамі.

Дзіўна, праўда? Тэрарыстаў і экстрэмістаў — прычым, вызначаных адмыслоўцамі, спецыялістамі, Генпракуратурай — больш за чатыры тысячы! Як такое можа быць?

Адказ нам можа даць Крымінальны кодэкс. А канкрэтна — артыкул 393, які называецца «Прыцягненне ў якасці абвінавачваемага заведама невінаватага».

Якім чынам узнікла такая маштабная тэрарыстычная групоўка? Пра гэта распавяла журналістка Іна Студзінская, якая раней працавала на «Радыё Свабода» і была затрыманая ў выніку «зачысткі журналістаў» 16 ліпеня. Яна 10 дзён знаходзілася на Акрэсціна, абвінавачанне ёй так і не прад'явілі ды падпіску пра неразгалошванне не ўзялі. Па яе словах, справа, па якой яна была арыштаваная, заведзеная па артыкуле аб арганізацыі масавых беспарадкаў у перыяд (увага!) з 14 ліпеня 2020 года і аж да 12 студзеня 2021 года. Прычым, справа заведзеная на «нявызначаных асоб».

«Мне далі азнаёміцца са спісам следчай групы, ён быў старонак на 50. Я запыталася: тут усе следчыя, што ёсць у краіне? Мне следчая кажа: амаль усе», — расказала журналістка.

Пры гэтым генпракурор Швед пахваліўся і адзначыў шэраг станоўчых тэндэнцый. За паўгода знізілася на 5% колькасць забойстваў, на 6% — разбояў, на 11% — прычыненняў цяжкіх цялесных пашкоджанняў, амаль на 20% — згвалтаванняў. Колькасць пацярпелых ад злачынных замахаў, паводле генпракурора, скарацілася на 14%.

Спадарства! Калі ўсе следчыя краіны занятыя адной маштабнай палітычнай крымінальнай справай, зразумела, што на іншыя справы ў іх часу не застанецца! А таму «статыстычнае» зніжэнне крымінагеннай абстаноўкі тлумачыцца проста: некаторыя злачынствы проста не трапляюць у статыстыку!

А яшчэ спадар Швед ацаніў урон, які Беларусі нанесла фашысцкая Германія ў часы Другой сусветнай вайны. Паводле разлікаў яго ведамства, у сучасных коштах гэта 500 мільярдаў долараў. Пакуль вызначэнне гэтай шкоды неабходнае, як казаў Швед, «для бягучых мэтаў, гэта неабходна, каб паказаць маштаб».

І яшчэ раз дзякуй Богу, што генпракурор устрымаўся ад наўпроставага выстаўлення рахункаў сучаснай Германіі за тую шкоду Сінявокай. І, спадзяюся, у далейшым пра яе згадваць ніхто не будзе. Таму што ў часе Пастдамскай канферэнцыі ў жніўні 1945 года было дасягнутае пагадненне аб задавальненні рэпарацыйных прэтэнзій СССР за кошт спагнання сродкаў з Усходняй зоны Германіі, а таксама за кошт нямецкіх актываў у Балгарыі, Фінляндыі, Венгрыі, Румыніі і Усходняй Аўстрыі. У СССР былі вывезены значныя аб'ёмы рознай маёмасці: ад транспартных сродкаў да абсталявання, а таксама худоба, збожжа, прадукты. Савецкі Саюз перастаў спаганяць рэпарацыі з ГДР толькі ў 1954 годзе.

І таму, калі спадар Швед выставіць рахунак сённяшняй ФРГ, нямецкі бок можа паказаць на Расію як на пераемніцу СССР са словамі: «Мы заплацілі ім, з іх і спаганяйце». І атрымаецца, што паўтрыльёна долараў мы павінны спаганяць з «найбліжэйшага саюзніка». Будзе няёмка і непрыгожа. Не кажучы ўжо пра тое, што падобны прэцэдэнт з нашага боку можа падштурхнуць, напрыклад, Польшчу выставіць рахунак за аперацыю ўз'яднання ў верасні 1939-га ўжо Беларусі.

У нас увогуле вельмі цікавае заканадаўства. Вы можаце ўявіць, як да крымінальнай адказнасці прыцягваюць дырэктара прадпрыемства за тое, што яго прадпрыемства сумленна расплачвалася са сваімі пастаўшчыкамі?

Як паведамляе Камітэт дзяржкантролю, мясакамбінат у Мінскай вобласці на працягу трох гадоў цалкам расплачваўся з сельгасвытворцамі па пастаўках прадукцыі. Аднак сельгасвытворцы ў нас, зразумела — у запазычанасцях з ног да галавы. Таму мясакамбінат павінен быў утрымліваць частку сродкаў і пераводзіць на рахункі па іх запазычанасцях. Праўда, сельгасвытворцы ў большай частцы пра свае запазычанасці проста не паведамлялі, але КДК вырашыў, што дырэктар прадпрыемства павінен быў чытаць думкі сваіх партнёраў і ведаць, што ў іх ды як. У выніку за тры гады набегла сума ў больш за 7 мільёнаў рублёў. Цяпер кіраўніцтву мясакамбіната, які сумленна плаціў сваім пастаўшчыкам, можа пагражаць крымінальная справа.

Гэта — не анекдот. Гэта Беларусь, дзетка. Краіна для жыцця.

Не дзіўна, што ў краіне з такой сістэмай заканадаўства працаваць мала хто адважваецца. А тыя, хто наважыліся, вельмі хутка расчароўваюцца. За першае паўгоддзе толькі ў Мінску спынілі сваю дзейнасць больш за 13 тысяч індывідуальных прадпрымальнікаў. І гэта — згодна з афіцыйнай статыстыкай Белстата.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Андрэй Скурко



**Палітвязень і кіраўнік аддзела рэкламы і маркетынгу «Нашай Нівы» Андрэй Скурко трапіў у медчастку СІЗА.**

Паведамляецца пра структурныя змены ў лёгкіх, а камера, дзе ён знаходзіўся, адпраўленая на каранцін. Калегі зазначаюць, што ў Андрэя — дыябет першага тыпу. Ён інсуліназалежны — чатыры разы на дзень яму трэба рабіць уколы.

Скурко затрымалі 8 ліпеня пасляператрусу дома і ў рэдакцыі паводле падазрэння ў арганізацыі групавых дзеянняў, якія груба парушаюць грамадскі парадак — паводле ч. 1 арт. 342 Крымінальнага кодэкса. Праз 10 дзён яго затрымалі паўторна на трое сутак па ч. 2 арт. 216 КК (прычыненне маёмаснай шкоды без прыкмет крадзяжу, здзейсненае групай асоб па папярэдняй змове альбо ў буйным памеры), а па заканчэнні трох сутак узялі пад варту.

Увесь гэты час Скурко сядзеў у ізалятары часовага ўтрымання без зменнай бялізны, дадатковай ежы і пітва, мінімальных гігіенічных сродкаў, нягледзячы на спёку, якая стаяла тымі днямі. Яму, як і іншым затрыманым супрацоўнікам «Нашай Нівы», не выдавалі матрацы і пасцельную бялізну, спалі яны на падлозе ці голых шконках.

22 ліпеня Скурко перавялі ў СІЗА №1 на Валадарскага.

## Марфа Рабкова



**Палітзняволеная праваабаронца Марфа Рабкова страціла прытомнасць падчас прагулкі ў СІЗА. Гэта адбылося 25 ліпеня.**

Артэрыяльны ціск у Марфы быў 80/60, урач СІЗА таксама зрабіў ёй кардыяграму. Цяпер Марфа знаходзіцца на пасцельным рэжыме і адчувае сябе вельмі слабай.

Раней, каля месяца таму, Марфа ўжо губляла прытомнасць у камеры з-за духаты. Акрамя таго, ужо каля двух месяцаў ёй патрабуецца стаматалагічнае лячэнне, якое не праводзяць турэмныя стаматолагі, было пададзена хадайніцтва, каб у СІЗА дапусцілі «вонкавага» стаматолага для лячэння Марфы, але следчы адмовіў.

Марфа Рабкова была каардынатаркай валанцёраў праваабарончага цэнтра «Вясна», знаходзіцца ў зняволенні з 17 верасня 2020 года. Яе затрымалі па абвінавачанні ў фінансаванні масавых беспарадкаў (ч. 3 арт. 293 КК). У лютым стала вядома, што Марфе прад'яўленыя яшчэ два абвінавачанні — у распальванні сацыяльнай варожасці ў адносінах да прадстаўнікоў улады (ч. 3 арт. 130 КК) і ва ўдзеле ў злачыннай арганізацыі (ч. 2 арт. 285 КК). Цяпер ёй пагражае да 12 гадоў пазбаўлення волі.

У СІЗА Марфа, як і многія іншыя палітвязні, стаіць на ўліку як схільная да экстрэмізму. У чэрвені ёй працягнулі меру стрымання ў выглядзе заключэння пад варту адразу на тры месяцы — да 17 верасня.

## Наталля Хершэ



**Наталля Хершэ, асуджаная за сарваную балаклаву, амаль два месяцы правяла ў штрафным ізалятары ў калоніі, дзе нават не выдаюць пасцельную бялізну. Так яе пакаралі за адмову шыць форму сілавікам.**

Цяпер Наталля знаходзіцца ў памяшканні камернага тыпу. Гэта камера з больш строгім рэжымам утрымання. «Яе можна назваць мяккім карцарам. Там ёсць ложак, стол, крэсла. Можна замаўляць кнігі з бібліятэкі, дазволены паўгадзінныя шпацыры на паветры кожны дзень. У ПКТ Наталля адна. Яна кажа, што для яе гэта лепш, чым у атрадзе, бо можна не працаваць. Псіхалагічны стан у яе такі, што ёй хочацца пабыць адной, адпачыць. Паводле слоў адваката, выглядае яна ныдрэнна», — расказаў яе брат Генадзь.

Цяпер Наталлі дазволена ліставанне, але спатканні забароненыя. У пакупках яна абмежаваная — у краме жанчына можа патрацідь адну базавую велічыню на месяц (29 рублёў).

«Дадаткова раз на месяц я магу замовіць для яе праз інтэрнэт-краму пасылку з садавінай да 10 кілаграмаў. Гэта апельсіны, лімоны, яблыкі, таматы і цыбуля. Наталля казала, што да яе тройчы прыходзілі з пытаннем, ці будзе яна пісаць прашэнне аб памілаванні. З розных установаў, у тым ліку з адміністрацыі калоніі. Яна адмовілася, бо лічыць, што пісаць прашэнне — значыць прызнаць сябе вінаватай».

Азбука паліталогіі



Сяргей НІКАЛЮК

# У пошуках аўтараў праектаў «анты-Расія» і «анты-Беларусь»

**У публічнай прасторы Саюзнай дзяржавы неалагізм «анты-Расія» быў рэанімаваны Пуціным у артыкуле «Аб гістарычным адзінстве рускіх і ўкраінцаў», апублікаваным 12 ліпеня на сайце Крамля.**

На аўтарства, аднак, маюцца прэтэндэнты. У прыватнасці, пісьменнік-фантаст Леў Вяршынін, які цяпер жыве ў Іспаніі. Яму і дадзім слова: «Я быў першы, хто ўвёў гэтае паняцце ў мову блогаў. Так атрымалася, што я прыдумаў «анты-Расію», але не магу паставіць на яе капірайт, магу толькі напісаць у сваім ЖЖ: а я ж казаў! Хто я такі на фоне Пуціна? Проста апошнія 17–18 гадоў я кармлю сваю сям'ю тым, што нядрэнна адгадваю, што потым будзе адбывацца».

Дзякуй за прызнанне. Вось бы мне здольнасць ведаць, што ў прыкупе! Жыў бы ў Сочы, ці хаця б у Іспаніі.

У артыкуле Пуціна я налічыў восем згадак лінгвістычнага ноу-хау! Абмяжуюся першым: «Крок за крокам Украіну ўцягвалі ў небяспечную геапалітычную гульню, мэта якой — ператварыць Украіну ў бар'ер паміж Еўропай і Расіяй, у плацдарм супраць Расіі. Непазбежна надышоў час, калі канцэпцыя "Украіна — не Расія" ўжо не задавальняла. Спатрэбілася "анты-Расія", з чым мы ніколі не змірымся».

Узяты ў двукоссе фразеалагізм «Украіна — не Расія» адсылае да бестсэлера экс-прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы. У Беларусі кніга з аналагічнай назвай пакуль не напісаная, але разважаў на тэму выкарыстання рэспублікі-партызанкі ў якасці плацдарма супраць Расіі хапае.

Дзе карані гэтакай прапагандысцкай актыўнасці? Першае тлумачэнне ляжыць на паверхні. Вобраз ворага з'яўляецца той печкай, ад якой скачуць дзяржаўныя прапагандысты. Інакш выкідаць пераканаўчыя каленцы не атрымліваецца.

Але ўяўленне пра Захад як пра ворага, а пра Беларусь — як пра яго патэнцыйную ахвяру мае патрэбу ў тлумачэнні. Беларусы — людзі на балоце, а беларускія балоты — лёгкія Еўропы. Каштоўнасць балот у стагоддзе масавай заклапочанасці экалогіяй бесперапынна ўзрастае. Аднак здольнасць нашых балот забяспечваць Еўропу кіслародам ад жадання беларусаў абараняць свой суверэнітэт не залежыць. Які ж тады сэнс бразгаць зброяй на нашых межах?

Ой, не кажы, кума… А падлётны час? За намі Масква! Гэтыя, з NATO, — яны ж спяць і бачаць, як прысунуць свае пускавыя ўстаноўкі бліжэй да Белакаменнай.

Расія не з'яўляецца Беларуссю ў тым сэнсе, што яе багацці балотамі не абмяжоўваюцца. Ахвочых жа паквапіцца на прыродныя багацці Расіі, якія ўтрымліваюць усю табліцу Мендзялеева, на думку прапагандыстаў, хапае.

### У сібірскія балоты па страты

Колькасць ахвочых «накласці лапу на чалавечыя і матэрыяльныя рэсурсы нашых дзяржаў» расце, нібы на дражджах. На шчасце, не перавяліся яшчэ тыя, хто не маўчыць, а дзень і ноч працуе над умацаваннем адзінства і пашырэннем супрацоўніцтва ў Саюзнай дзяржаве.

На гарызонце гэтай і школьніку зразумелай карцінкі тым не менш фармуецца воблачка: чаму ахвочыя разбагацець за чужы кошт канцэнтруюць сваю актыўнасць на ядзернай дзяржаве? У свеце хапае дзяржаў, якія валодаюць значнымі запасамі карысных выкапняў, але не здольных супрацьстаяць ваеннай моцы NATO. Ці не прасцей было б накладаць лапы на гэтыя дзяржавы?

Аднак вернемся да пісьменніка-фантаста, які зарабляе на свой хлеб надзённы ды на тоўсты пласт сметанковага масла да яго здольнасцю нядрэнна адгадваць, «што потым будзе адбывацца»: «Ён (Пуцін. — С. Н.) упэўнены, што краіны Захаду і сапраўды рэалізуюць такі праект супраць Расіі: Расія — гэта не краіна, не дзяржава, а нейкая цывілізацыйная мадэль. Ёсць выразная тэндэнцыя: развaліць і разарваць на кавалкі гэтую мадэль. Пра гэта яшчэ дзядуля Бжэзінскі казаў. Будучы адарванымі адзін ад аднаго, яны асуджаны згасаць. Украіна, зыходзячы з гэтай логікі, не можа быць нічым, акрамя як таранам і молатам супраць Расіі».

Выкарыстанне Украіны ў якасці тарана дазволіць змагарам за агульначалавечыя каштоўнасці дабрацца да прыродных багаццяў Расіі, галоўным з якіх з'яўляецца нафта. Дабрацца яны, канешне, — выкажам здагадку —дабяруцца. Але баюся, што пасля калькуляцыі выдаткаў на ваенную аперацыю і будучых даходаў ад нафты, сілавыя прадпрымальнікі расчаруюцца.

Па тлумачэнне прапаную звярнуцца да аўтарытэтнага расійскага спецыяліста нафтагазавага рынку Міхаіла Круціхіна. Паводле яго інфармацыі, у Расіі каля 180 тысяч свідравін, пры гэтым сярэдняя свідравіна дае ўсяго 9,5 тоны нафты на суткі (свідравін, якія б'юць фантанам, не больш за 2%). У Саудаўскай Аравіі практычна той жа аб'ём здабычы нафты забяспечваюць каля 900 свідравін. Адчуваеце розніцу!




Дык які сэнс амерыканцам і іх саюзнікам па NATO лезці ў сібірскія балоты? Усё, што сёння кім бы і дзе б ні выраблялася, танней купіць. Не трэба блытаць нешта з чымсьці. Гэта ў часы Сярэднявечча, калі галоўнай крыніцай багацця былаворная зямля (зразумела, разам з сялянамі-аратымі) пашырэнне ўласнай тэрыторыі за кошт тэрыторыі суседа магло быць эканамічна апраўдана, дый тое не заўсёды.

А ў нашы дні? Колькі жыццяў Крэмль паклаў за ўтрыманне Чачні ў сферы свайго ўплыву! Але за тыя драбкі, якія ўрэшце былі адваяваны, штогод расійскія падаткаплацельшчыкі плацяць даніну (напрыклад, каля $1,4 мільярда ў 2020 годзе).

### Праблема схопленая дакладна

Слова старшыні Пастаяннай камісіі па міжнародных справах Палаты прадстаўнікоў Андрэю Савіных: «Ёсць такі жарт. Пытаюцца: што такое вышэйшая адукацыя ў ЗША? Даецца смешны адказ: гэта рускі прафесар, які навучае кітайскіх студэнтаў матэматыцы.

Захад высмоктвае таленты з перыферыі — прапаноўвае ім больш высокі ўзровень жыцця, больш высокія даходы, фактычна не ствараючы ўласнага інтэлектуальнага прадукту. Гэта парадокс, але ў ЗША больш за 50% патэнтаў выдаецца асобам, якія прыехалі ў ЗША менш за 5 гадоў таму. Гэта сусветны трэнд».

**Здольнасць нашых балот забяспечваць Еўропу кіслародам ад жадання беларусаў абараняць свой суверэнітэт не залежыць. Які ж тады сэнс бразгаць зброяй?**

На жаль, запярэчыць мне няма чаго. Праблема схопленая дакладна. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. І не толькі чалавек. Калі на прадметным століку мікраскопа злучыць дзве кроплі з амёбамі водным мастком і асвятліць адну з іх, то праз некаторы час амёбы з асветленай кроплі перамесцяцца ў прыцемненую.

Чаму яны гэта робяць? Інтэрнэт падказвае: таму што валодаюць раздражняльнасцю. Гэтай жа характарыстыкай надзелены многія беларусы. У першую чаргу, маладыя і адукаваныя.

Калі беларускую мадэль злучыць транспартным калідорам з краінамі — удзельніцамі Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР), то і без дадатковага асвятлення пачнецца працэс перамяшчэння разумных і адукаваных.

Нічога новага і незвычайнага ў гэтым няма. Глабальныя міграцыйныя працэсы назіраліся на працягу ўсёй гісторыі чалавецтва. Цікаўным прапаную пачытаць пра «Вялікае перасяленне народаў».

### Табліцай Мендзялеева прафесараў не ўтрымаць

Рэакцыю на раздражненне — не ліквідаваць і не аслабіць. Раздражняльнасць — фундаментальная ўласцівасць жывога. Але магчымы іншы шлях, і палягае ён у ліквідацыі крыніцы раздражнення. Свой рэцэпт ёсць і ў дэпутата Савіных: «Калі мы ствараем свой уласны макрарэгіён і сваю ўласную эканамічную прастору, то мы гэты трэнд можам спыніць. Я думаю, што гэта рашэнне».

Наколькі прапанова дэпутата рэалістычная? Скіруем свой позірк на постсавецкую прастору. Толькі 3 з 15 постсавецкіх рэспублік набылі сяброўства ў Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця — Літва, Эстонія і Латвія. Па ВУП (па парытэце пакупніцкай здольнасці) у доларах ЗША ўсе яны прыкметна апярэдзілі Расію і Беларусь: 38824, 37745, 31509 vs. 27930 і 20187.

Самая багатая з балтыйскай тройцы — Літва, што не перашкодзіла ёй за перыяд з 1990 па 2020 год страціць чвэрць насельніцтва. Рыба шукае, дзе глыбей, а чалавек — дзе лепш. Ад савецкага "дна" не так проста адштурхнуцца і падняцца да сярэдняга еўрапейскага ўзроўню.

Табліцай Мендзялеева рускіх прафесараў не ўтрымаць, а кітайскіх студэнтаў да сябе не прывабіць. Аналагічнае гісторыі Вялікай дзяржавы ад часоў Пятра I, якая ці тое ўстае, ці тое ўжо ўстала з каленяў. Тут самы час працытаваць прафесійнага гісторыка і вядомага дзеяча расійскай рэвалюцыі Паўла Мілюкова: «Коштам спусташэння Пётр зрабіў Расію вялікай дзяржавай».

***

Можна па-рознаму ставіцца да мудрацоў, якія разважаюць наконт праектаў «анты-Расія» і «анты-Беларусь», але гэтыя праекты існуюць. Аднак пошукі іх аўтараў будуць марнымі — праекты, як у нас прыняць гаварыць, ідуць «ад жыцця».

Свет імкліва пераходзіць ад індустрыяльнай эканомікі (індустрыяльнага грамадства) да постіндустрыяльнай эканомікі (постіндустрыяльнага грамадства). А з нязменнай уладай такога пераходу не здзейсніць.

# «Самае галоўнае — гэта быць вольным»

Вікторыя ЧАПЛЕВА

**Пра валанцёрку «Вясны» Жэню Бабаеву беларусы даведаліся, калі яе кінулі за краты ў той жа дзень, што і некаторых праваабаронцаў. І хоць Жэня — грамадзянка Расіі, аднак гэта не перашкодзіла ёй дапамагаць пацярпелым ад рэпрэсій беларусам. «Ёсць рэчы, на якія заплюшчыць вочы немагчыма», — перакананая Жэня.**

У ізалятары Яўгенія прабыла трое сутак. Яе адпусцілі, бо дзяўчына падпісала пагадненне аб супрацоўніцтве са следствам. Адразу пасля гэтага яна з мужам Вячаславам пакінула краіну. У гутарцы з НЧ Яўгенія распавяла, як яе лёс аказаўся знітаваным з лёсамі тысяч беларусаў.

***— Жэня, у Беларусі вы пражылі пяць гадоў. Чым займаліся ў Мінску да жніўня 2020 года?***

— Маё жыццё заўжды было звязанае са спортам. Па прыездзе ў Беларусь я намагалася прабіцца ў федэрацыю па лёгкай атлетыцы, але не атрымалася. У Расіі можна трэніравацца, калі ў цябе няма прафесійнай спартыўнай адукацыі, у Беларусі — усё інакш. Маіх званняў было недастаткова, таму я пайшла вучыцца. Таксама трэніравала ў фітнес-клубе, займалася аздараўленчай фізкультурай... А пасля, нарэшце, зразумела, што хачу працаваць настаўніцай фізкультуры ў звычайнай школе, выстаўляць каманды на спаборніцтвы... Гэта якраз было летась, перад выбарамі. Я пільна сачыла за той школай, дзе мне прапанавалі працу: адсочвала даныя з дапамогай платформ «Голас» і «Зубр». На жаль, праўдзівы пратакол камісія не вывесіла.

***— Але чаму вам, грамадзянцы іншай краіны, было не ўсё адно, у якой школе працаваць?***

— Я згодная, што на самай справе палітычная сітуацыя Беларусі, магчыма, нас і не тычыцца. Але, калі вакол пануе хлусня, беззаконне, то няважна, ці з'яўляемся мы грамадзянамі гэтай краіны. Ёсць рэчы, на якія заплюшчыць вочы немагчыма. Я — за шчырасць і справядлівасць. Я зразумела, што ў школе, дзе сфальсіфікавалі падлік галасоў, працаваць не змагу. Такія рэчы ідуць уразрэз з маімі жыццёвымі прынцыпамі.

***— Вы маглі з'ехаць з Беларусі ўжо тады, аднак гэтага не зрабілі...***

— Складанае пытанне. Тут было некалькі фактараў. Я бачыла, колькі людзей сядзіць у турмах, і падумала, што калі з'едзем, то я кіну іх усіх... А як можна кінуць таго, хто сядзіць за нас, хто праявіў смеласць за іншых людзей? Я разумела, што, прынамсі, нейкімі дзеяннямі іх трэба падтрымліваць. Да таго ж у мяне пастаянна была вера ў тое, што яшчэ крышку — і ўсё памяняецца.

***— Родныя не ўгаворвалі вярнуцца?***

— У жніўні яны былі занепакоеныя. А пасля сваякі звычайна проста цікавіліся, ці ў парадку мы.

***— Як вы прыйшлі да праваабарончай арганізацыі «Вясна»?***

— У канцы жніўня затрымалі двух нашых сяброў. Абодва пайшлі шпацыраваць у цэнтр Мінска. Мы не маглі нідзе іх знайсці, бо ніхто не даваў пра іх аніякай інфармацыі. Быў толькі акт затрымання — і ўсё. Калі мы прайшлі праз гэта, то зразумелі, што няведанне, дзе знаходзіцца твой блізкі, — гэта сапраўднае катаванне. Мне захацелася проста дапамагчы іншым людзям, каб яны не перажывалі так моцна, калі іх родных затрымалі, каб у іх галаве быў нейкі алгарытм, што рабіць у такіх сітуацыях...



Я стала шукаць інфармацыю, якім чынам я магу дапамагчы родным затрыманых. І наткнулася на абвестку, што праваабарончая арганізацыя «Вясна» шукае валанцёраў, якія б маглі хадзіць на судовыя пасяджэнні. Я тады ўжо хадзіла ў суды, і прыкладна разумела, што ад мяне патрабуецца, таму пагадзілася. Гэта быў пачатак верасня. Я хадзіла ў суды, глядзела, у якога суддзі і калі будуць разглядацца справы, сядзела на саміх працэсах... Сваякі часта не прыходзілі на працэсы да сваіх блізкіх, бо яны наўпрост не ведалі, дзе і калі тыя адбываюцца! З сакавіка ўжо асабліва не было масавых затрыманняў. Затое пачаліся судовыя працэсы па крымінальных справах.

***— Не баяліся?***

— Спачатку не. Але недзе ад лютага абстаноўка пачала напальвацца. Суддзі пачыналі перашкаджаць быць на адкрытых пасяджэннях, былі намаганні сфатаграфаваць нашы пашпарты, што ў прынцыпе незаконна. Былі выпадкі, калі суддзі нават выклікалі нарад на валанцёраў. Тады станавілася крыху страшна.

***— Ці чакалі вы, што ў той дзень, калі прыйшлі па праваабаронцаў «Вясны», прыйдуць і па вас?***

— Шчыра кажучы, напярэдадні, увечары, у мяне была нейкая невытлумачальная трывога... Я доўга не магла заснуць, што не характэрна для мяне. У той дзень, у сераду, я як звычайна ішла ранкам з ёгі. Калі ўжо падыходзіла да дому, то прачытала праператрусы ў праваабаронцаў. Але не магла і падумаць, што прыйдуць і да мяне. Хто такая я, і хто такі Алесь Бяляцкі? Але на лесвічнай пляцоўцы мяне абступілі супрацоўнікі ДФР. Тады ў мяне сэрца ў пятках сышло. Мне паказалі пастанову на ператрус на падставе крымінальнай справы. Там былі прапісаны назвы артыкулаў Крымінальнага кодэкса — частка 2 артыкула 16 (пасобніцтва ў злачынстве) і артыкул 243 (ухіленне ад выплаты падаткаў). Але я думала, што гэта памылка... Я думала, што яны пабачаць, што ў мяне дома нічога няма, і сыдуць.

Пасля заканчэння ператрусу мне сказалі, каб я перакусіла перад тым, як мяне забяруць. Аднак нават на той момант у мяне не было адчування, што мяне затрымліваюць. Калі мяне ўжо прывезлі да следчага ў ДФР, і я чакала адваката, адчувала каласальны стрэс, не магла сядзець склаўшы рукі. Я пачала размаўляць са следчым пра ўсё — пра надвор'е, нейкія побытавыя рэчы... Пасля гэтага падалося, што гутарка пайшла больш лагодна. Ілюзіі скончыліся, калі мяне пасадзілі ў машыну і павезлі ў ІЧУ на Акрэсціна. Адзін супрацоўнік набыў мне снікерс і даў вады, бо вячэру ў ІЧУ я ўжо прапускала. Але ад стрэсу есці я не магла.

***— Што падалося для вас там сапраўднымі катаваннямі?***

— Сапраўдным катаваннем для мяне стаў момант, калі пасля запаўнення папер у ІЧУ мяне паставілі ў стакан. Стакан — гэта жах! Гэта маленькае памяшканне — паўметра на паўметра, бетонныя сцены, уверсе маленькія краты, дзе прабіваецца святло... Я мяркую, што правяла там каля паўгадзіны. Пасля мяне прывялі ў камеру. Заўважыла, што там у людзей былі і падушкі, і матрацы... Амаль адразу мяне перавялі ў іншую камеру. Я так зразумела, што, напэўна, матрацы — гэта не для мяне. Сапраўды, у іншай камеры, куды мне прывялі, стаялі шконкі без матрацаў і падушак. Асаблівым катаваннем для мяне быў адкрыты кавалак форткі ў камеры, праз які я бачыла маленечкі кавалачак неба... Я глядзела туды і думала, што там — свабода.

***— Ці спадзяваліся вы выйсці з ізалятара праз 72 гадзіны?***

— Адвакат не спадзяваўся, што мяне адпусцяць, — ён адразу сказаў, што па крымінальным артыкуле мне свеціць ад 3 да 7 гадоў. Але ў пятніцу ўвечары прыйшлі тры супрацоўнікі ДФР, вырашылі пагутарыць са мной без пратаколу. Я казала, што займаюся толькі валанцёрскай дзейнасцю ў «Вясне». Я патлумачыла, што разумею, што ім трэба ад мяне, і магу з гэтым дапамагчы, але патрабую гарантый, што я выйду на волю. Адзін з іх даў слова трох афіцэраў. Аднак я зноўку паўтарыла, што мне патрэбны пісьмовыя гарантыя. Яны далі мне паперы — і я напісала, што буду займацца аператыўна-пошукавай справай пад псеўданімам «Жана». Мне далі паперку, дзе былі напісаны ўмовы, што я супрацоўнічаю са следствам і з'яўляюся па выкліку. Але тады яшчэ не было адчування, што мяне дакладна адпусцяць. А на наступны дзень, роўна праз 72 гадзіны, я пачула: «Бабаева, з рэчамі на выхад!».

***— Чаму вырашылі паступіць менавіта так?***

— Я толькі валанцёрка, да гэтай сітуацыі наогул маё імя і прозвішча не ведаў ніхто. Я падумала, што, калі застануся сядзець, наўрад ці гэтым дапамагу людзям. Калі б я была нейкай вядомай асобай ці сімвалам — то так, напэўна, мая барацьба за кратамі была б патрэбнай. А я той чалавек, які проста хоча дапамагчы іншым людзям. Але для гэтага мне трэба быць на волі. Галоўнае — свабода. А там мяне ўжо падтрымаюць і дапамогуць. Калі я выйшла з ізалятара, мы адразу ж сталі збірацца з'язджаць. З'ехалі ў той жа дзень, бо разумелі: калі ёсць падпіска, трэба дзейнічаць максімальна аператыўна.

***— Ці адчуваеце вы сябе цяпер у бяспецы?***

— Я думала, калі акажуся ў бяспецы, то адпусціць. Але нават цяпер, калі чую, як рыпяць дзверы, пачынаю панікаваць. Уначы магу прачнуцца ад страху, што мяне адшукаюць. Хоць я і разумею, што я ў бяспецы.

***— Што будзеце рабіць далей?***

— Я буду працягваць дапамагаць людзям, нават на «ўдалёнцы». Калі я ўвайшла ў гэтую сітуацыю, то не гатовая так усё кінуць.

***— Дапамагаць менавіта беларусам?***

— Я валанцёр праваабарончай арганізацыі «Вясна», якая працуе з беларусамі. Атрымліваецца, што так, прынамсі цяпер буду далей дапамагаць беларусам. А Слава — праграміст, ён можа працаваць з любой кропкі свету.

***— Як мяркуеце, ці вернецеся ў Мінск, калі сітуацыя нарэшце зменіцца?***

— Складана загадваць. Невядома, дзе мы будзем праз дзень, праз месяц... Калі раптам будзе патрэбная мая прысутнасць у Беларусі, каб нармалізаваць сітуацыю, я прыеду.

***— Чаму не вяртаецеся да сваіх родных у Расію?***

— Нам усім вядома, што ўлады Расіі падтрымліваюць улады Беларусі. Гэта вызначае Расію як небяспечную краіну для мяне. Нягледзячы на тое, што я грамадзянка Расіі і што Расія не выдае сваіх грамадзян.

***— Ці шкадуеце вы, што вырашылі падзяліць лёс беларусаў?***

— Не. Я разумею, што адзінае, што я магу цяпер зрабіць, — гэта стаць мацней пасля ўсяго, што здарылася, і вынесці ўрокі. Для мяне гэта быў неверагодны досвед! Толькі пасля такіх сітуацый, калі пазбаўляюць усяго, ты разумееш, што для цябе з'яўляецца сапраўды важным. Калі знаходзішся за кратамі, то разумееш, што ўсё настолькі дробязна ў параўнанні з воляй... Самае галоўнае — гэта быць вольным, усё астатняе — прыйдзе.



# «У рэпрэсіўнай палітыцы можа існаваць толькі рэпрэсіўная эканоміка»

Віталь ЦЫГАНКОЎ,
«Радыё Свабода»

**Старшы навуковы супрацоўнік цэнтру BEROC, эканаміст Дзмітрый Крук адказвае на пытанне, ці могуць улады ўвесці валютныя абмежаванні, прагназуе, што будуць рабіць улады з бізнесам, і тлумачыць, што сталася з «рэформамі» ўраду Галоўчанкі.**



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

***— Апошнія тыдні з'явілася непацверджаная інфармацыя, размовы пра тое, што ўлады могуць рыхтаваць пэўныя дзеянні для абмежавання абарачэння замежнай валюты ў Беларусі. Ці ёсць нейкія эканамічныя падставы для такіх чутак і ці магчыма, што ўлады прымуць такія рашэнні?***

— Падставы для такіх разважанняў грунтуюцца перш за ўсё на тым, што за апошні год адбыўся вельмі істотны адток валюты з банкаўскай сістэмы Беларусі. Расце замежны дзяржаўны доўг, усё больш складана яго абслугоўваць. Таксама ёсць пытанні наконт стабільнасці замежнагандлёвага балансу, які за апошні год нават палепшыўся, але з красавіка гэтае паляпшэнне здзімаецца. Таму існуе даволі вялікая колькасць рызыкаў, якія могуць прывесці да валютнага крызісу.

У такой сітуацыі зусім не дзіўна, што ўладам прыходзяць у галаву ідэі ўвесці пэўныя валютныя абмежаванні. Дадатковы чыннік — менавіта цяпер набываюць моц змены ў валютнае заканадаўства. Яшчэ год таму, калі яны прымаліся, некаторыя артыкулы ўспрымаліся як пэўная эканамічная лібералізацыя — напрыклад, пакінулі за Нацбанкам права ўводзіць пэўныя валютныя абмежаванні. Усё гэта павялічвае хваляванні, што ўлады могуць увесці нейкі нярынкавы рэжым кіравання валютнымі аперацыямі.

***— Мы бачым, як нарастаюць рэпрэсіі ў грамадска-палітычнай сферы. Як гэта можа адбіцца на эканамічным жыцці? Ці можа ў такіх палітычных умовах эканоміка заставацца некранутай гэтай хваляй рэпрэсіяў? Як палітычная атмасфера можа адбіцца на эканамічным клімаце?***

— Яна ўжо адбіваецца. Усё больш прадпрыемстваў задумваюцца і ажыццяўляюць рэлакацыю альбо фінансавую эміграцыю, мяняюць свае юрыдычнае «грамадзянства». Некаторыя з'язджаюць ці мяняюць дыслакацыю праз нязгоду з палітычнымі падзеямі, некаторыя — праз патэнцыйны ўплыў санкцыяў альбо будучых магчымых рашэнняў уладаў, напрыклад, тыя ж валютныя абмежаванні. Усе гэтыя працэсы непазбежна адаб'юцца на агульным стане эканомікі.

На думку многіх ва ўладзе, прыватны сектар вінаваты ў тым, што адбылося, вінаваты ў пратэстах. Таму і гучаць галасы пра адзяржаўліванне, пра нацыяналізацыю.

***— Часам кажуць, што наступныя пасля журналістаў і праваабаронцаў — гэта бізнесоўцы, прадпрымальнікі. Ці можна чакаць, што да бізнесу прыйдуць з мэтай «раскулачыць»?***

— Хутчэй, мэта будзе не «раскулачыць», а «нармалізаваць». Яны хочуць бачыць бізнес цалкам залежным ад улады. Толькі такі бізнес, на думку ўладаў, мае права на існаванне.

***— Ужо прайшоў пэўны час пасля ўвядзення еўрапейскіх санкцыяў — і можна больш дакладна ацаніць іх магчымы ўплыў. Калі аналізаваць толькі тыя санкцыі, якія ўжо ўведзеныя, — які эфект яны будуць мець для беларускай эканомікі?***

— Пакуль санкцыі пакідаюць даволі шмат поля для манеўру, для спробаў неяк іх абысці праз розныя бізнес-схемы. Я думаю, у найбліжэйшыя месяцы гэта і будзе асноўным пытаннем — ці ўдасца беларускім уладам пабудаваць такія схемы. Калі ж санкцыі будуць працаваць так, як абвешчана, найперш у калійнай і нафтавай галіне, то толькі гэта (не адразу, а з канца 2021-га — пачатку 2022 года) прывядзе да прасядання ВУП мінімум на 3 працэнты. Натуральна, улады будуць шукаць нейкія пралазы, каб не дапусціць такога эфекту.

***— Вы сказалі, што ў санкцыях пакінутае «поле для манеўру». Гэта Еўрасаюз зрабіў для таго, каб можна было, у залежнасці ад паводзінаў афіцыйнага Мінску, альбо ўзмацніць, альбо аслабіць іх?***

— Так, гэта відавочна. Еўрасаюз фактычна адкрытым тэкстам кажа, што ў выпадку пагаршэння сітуацыі санкцыі могуць пашырыцца, перайсці на фінансавы сектар.

***— Восенню 2020 года беларускі ўрад прадставіў эканамічную праграму, якую ў іншай палітычнай сітуацыі можна было б расцаніць як дастаткова ліберальную. Што-небудзь з гэтага было ўведзена ў жыццё ці ўсё засталося толькі дэкларацыяй? Ці эканоміка проста ідзе ўслед за рэпрэсіўнай палітыкай?***

— Вядома, у рэпрэсіўнай палітыцы можа існаваць толькі рэпрэсіўная эканоміка. Я не бачу перспектываў, каб нейкія прыгожыя планы ці намеры, нават запісаныя ў праграмах, маглі б быць рэалізаваныя. Немагчыма сур'ёзна ставіцца да заяваў ураду пра нейкія «рэформы» ў цяперашніх умовах. Гэта зусім іншая сітуацыя нават у параўнанні з 2016–2017 годамі, калі пачалася нармалізацыя адносінаў з Еўропай і гэта таксама рабіла ўплыў на пэўныя эканамічныя рашэнні. Цяпер гэтага ўплыву няма.

# Лічбы: параўноўваем заробкі

**Колькі зарабляюць у Літве настаўнікі, IT-спецыялісты і кіроўцы? «Радыё Свабода» паглядзела лічбы.**

У праграме «Клуб рэдактараў» у эфіры БТ кіраўнік дзяржаўнага тэлеканалу АНТ Марат Маркаў пракаментаваў міграцыйны крызіс на беларуска-літоўскай мяжы. Вось як ён патлумачыў рэакцыю Літвы на сітуацыю: «Чаму цяпер Літва і Польшча так здрыгануліся? Будзем казаць шчыра: заробак медсястры ў Літве ад 400 еўра, рабочага — ад 300, паліцыянт і пажарнік маюць 600 еўра. А на аднаго мігранта ў месяц траціцца значна больш. І для эканомікі Літвы, якая цяпер "атрымлівае" з усіх бакоў (атрымлівае не ў тым сэнсе, што грошы), гэта будзе добры кантрольны стрэл», — сказаў Маркаў.

Але з пачатку 2021 года мінімальны заробак у Літве да сплаты падаткаў складае 642 еўра. Сярэдні ж заробак у Літве да сплаты падаткаў — 1524,2 еўра штомесяц (967,3 «чыстымі»). У Беларусі сярэдні налічаны заробак у траўні складаў 1419 рублёў. Гэта каля 460 еўра.

Глядзім, колькі зарабляюць людзі самых пашыраных прафесій у Літве і ў Беларусі.

Паводле міжнароднай платформы, якая збірае звесткі пра сярэднія заробкі, настаўнік пачатковай школы ў Літве зарабляе ад 640 да 1115 еўра, сярэдняй — да 1341 еўра. Заробак выкладчыка ўніверсітэту — да 1669 еўра.

У Беларусі заробак выхавальніцы ў дзіцячым садку (пачатковая школа) — ад 218 еўра, настаўніка ў школе — ад 218 да 326 еўра залежна ад нагрузкі.

Вось некалькі актуальных вакансіяў у Літве. Выкладчык літоўскай мовы ў клайпедскім ліцэі атрымае 1500–2500 еўра да сплаты падаткаў.

Каардынатар навучальнага працэсу ва Універсітэце Вітаўта Вялікага атрымлівае 900 еўра на рукі.

Літоўская медсястра атрымлівае ў сярэднім ад 640 да 1377 еўра. Знаходзім на сайце пошуку працы вакансію медсястры агульнай практыкі ў дзяржаўнай паліклініцы ў Вільні з заробкам 1653–1983 еўра ў месяц. У Мінску, у дзяржаўным банку вакансіяў, знаходзім такую працу за 268 еўра.

Фельчар хуткай дапамогі ў Літве зарабляе да 1351 еўра, доктар — 936–2114 еўра. У Мінску працу фельчарам можна знайсці за 285 еўра, але звычайна ў вакансіях прапануюць менш.

IT-спецыялісты ў Літве зарабляюць у сярэднім ад 909 да 2603 еўра. На адным з рэсурсаў стаіць вакансія з заробкам 1300–3600 еўра да сплаты падаткаў. У Мінску заробкі ў IT прыкладна такія ж, але падаткі ніжэйшыя.

Пажарнікі і ратаўнікі атрымліваюць ад 640 да 1002 еўра. У Мінску знаходзім вакансію ратаўніка з заробкам 251 еўра.

Літоўскі паліцэйскі мае ад 640 да 1402 еўра. У Мінску міліцыянту прапануюць ад 335 еўра.

Інжынер-механік у Вільні зарабляе 1434 еўра, у Мінску на



Фота Дзмітрыя Дзмітрыева

такой вакансіі прапануюць 335 еўра.

Аўтамеханік зарабляе ў Вільні 1352 еўра. У Беларусі на такой вакансіі прапануюць 218 еўра.

Прыбіральнік атрымлівае ў Вільні ад 640 да 782 еўра, у Мінску за прыбіранне прапануюць ад 167 да 268 еўра.

Кіроўца мікрааўтобуса ў Вільні, паводле платформы пошуку працы, можа атрымаць 1100–1500 еўра на рукі. У Мінску кіроўцу грамадскага транспарту прапануюць 503 еўра.

Кіроўца катэгорыі С у Коўне атрымлівае 1200–1400 еўра на рукі. Заробак дальнабойніка — каля 3000 еўра і вышэй. У Мінску дальнабойнікам можна ўладкавацца за 1000 еўра.

Літаратурная Беларусь

Выпуск №7 (179)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

Змест



# Ганна КОМАР: «Калі б ка́ты чыталі кніжкі, яны б не былі такімі»

**Паэтка і перакладчыца Ганна Комар ма́е два вершаваныя зборнікі: беларускі «Страх вышыні» і англійскі «Recycled». А яшчэ яна адна з самых яркіх літаратарак пратэсту. У інтэрв'ю Ганне Варонка яна распавядае аб тым, як радавацца нават у цёмныя часы, пасябраваць са страхамі, а яшчэ пра кепскія анекдоты, добрыя вершы, экзістэнцыйную тугу ірландцаў і беларусаў ды пра фемінізм.**

***— Хочацца пачаць з чагосьці прыемнага... Што цябе радуе?***

— Мяне радуюць натхнёныя людзі. Калі сустракаю чалавека з актыўнай грамадскай пазіцыяй, у якога гараць вочы, я ажываю. Радуюць мае ўласныя поспехі, вядома. Калі на тое, што ствараю, рэагуюць людзі. Радуе, калі атрымліваецца сябе любіць і паважаць, гэта вялікая праца. Калі выходжу на здаровае плата, дзе павага і любоў да сябе не вымучаныя, дзе і без штоімгненных нагадванняў памятаю, што нельга прыніжаць і ганьбіць сябе... Людзі радуюць. Але не ўсе (смяецца). Сваёй падтрымкаю, салідарнасцю. Радуе, калі мяне кормяць (смяецца). Мама і сястра, калі езджу да іх у Баранавічы, і адзін мой сябар. Узаемадапамога вельмі радуе. Калі кідаю які-небудзь запыт у сацыяльных сетках: знайсці чалавеку ноўтбук, які канфіскавалі, напрыклад. І камп'ютар хутка знаходзіцца. Радуе, калі я часам «забіваю» на ўсё і проста чытаю кнігу. Гэта неабходна, бо калі не адпачну, проста з'еду з глузду. Радуе, калі знаходжу ў сабе сілы не зазіраць у тэлефон, не сядзець у навінах, часам не рабіць працу і пры гэтым не адчуваць віну.

Яшчэ, дарэчы, вельмі цешыць, калі ад майго прыкладу людзі пераходзяць на беларускую мову. Як атрымліваецца: хтосьці адказвае пісьмова па-беларуску, хтосьці пачынае размаўляць штодня. Я перайшла на родную мову ў 2015 годзе. Але размаўляла не ўвесь час і не паўсюль. У грамадскіх месцах мне было цяжка гаварыць на беларускай. А цяпер наадварот. Гэта форма салідарнасці. Нядаўна пайшла ў атэлье, каб замяніць гузік на штанах. Майстрыха была такая радая: «Мне так прыемна, што вы размаўляеце па-беларуску!». Сказала, што ў дадзеных варунках, магчыма, гэта адзінае, чым мы можам падтрымаць адно аднаго.

***— Якую, дарэчы, кнігу ты параіла б пачытаць людзям, якія знаходзяцца ў такім стане?***

— Насамрэч кожнаму сваё. У мяне няма мэты прачытаць лёгкую кнігу. Апошняя — «Па што ідзеш, воўча?» Евы Вежнавец. Даволі цяжкі твор. Але вельмі важна не ўцякаць ад болю, а сустрэцца з ім твар у твар. І гэта, дарэчы, таксама радуе, калі атрымліваецца. Таму што тады ты робішся мацнейшай. Чытаеш тую кнігу і разумееш, што так, было шмат цёмных старонак у гісторыі нашай краіны: генацыд, рэпрэсіі, войны. І ад таго, што гэта ўсведамляю, я не раблюся слабейшай. Я ж не вырасла з ніадкуль, я вырасла з гэтай культуры. Значыць, яна становіцца глебай, дае энергію... Вядома, трэба параіць пачытаць вершы. Камусьці, можа, для разнастайнасці — пра каханне. Днямі залезла ў фотаздымкі свайго старога кахання. Проста каб пераключыцца (смяецца). Апошнім часам чытала вершы расійскага паэта Уладзіміра Каркунова, раю. Думаю, часопіс «Наша гісторыя» варта пачытаць — і настрой падымае, і адукоўвае.

***— Чытала твой зборнік «Страх вышыні». І знайшла там шмат блізкага, мабыць, мы выхоўваліся ў вельмі падобных умовах. Дык як змагацца са страхамі?***

— Змагаюся дагэтуль. Але я перастала ўжо ставіць мэту іх перамагчы (задуменна). Калі зразумела, што страх і трывога — гэта не ворагі, яны выконваюць абарончую функцыю, ад чагосьці нас берагуць. Таму важна не перамагчы іх, а пасябраваць з імі.

***— Пасябраваць са страхамі?***

— Пасябраваць са страхамі (усміхаецца). Я калісьці прачытала такую псіхалагічную практыку «Пасябруй са сваім страхам». Там трэба было візуалізаваць страх як монстра і спытаць, чаго той хоча. Візуалізацыя цікава



Фота Ксеніі Свірыд

працуе, знаходзіцца нейкі ключ. І тады твой монстр пачынае расказваць: «Я хачу бяспекі, я хачу, каб мяне любілі, увагі. Я стаміўся». Гэта нашыя патрэбы, якія мы з розных прычынаў не прызнаем. А ты адказваеш монстру, напрыклад: «Давай я цябе абдыму». І гэта ўжо не страх, а сябра (смяецца). Напэўна, вершы — гэта таксама спроба пасябраваць са сваім болем. З непакоем, трывогаю, расчараваннем, чаканнямі, пачуццямі, якія хочацца адштурхнуць. Гэта я толькі што прыдумала (смяецца). Кніга «Страх вышыні» была прызнаннем праблемы, крок да яе рашэння: «Так, у мяне ёсць страхі, такія і такія раны». Кніжка, якую рыхтую цяпер, называецца «Трыпутнік». Яна — ужо лекаванне ран. Раскалупала — цяпер будзем лекаваць.

***— І хутка яна выйдзе?***

— Ну... усе вершы ўжо гатовыя. Кніга рэдагаваная, карэктаваная, цяпер этап дызайна і вёрсткі. «Трыпутнік» — білінгва. Рэдактарка беларускай часткі — Вольга Гронская, а англійскай — амерыканская паэтка, мая сяброўка Мэры Колар. Але пакуль што пад пытаннем, калі кніга можа быць надрукаваная.

Адзін з урокаў, засвоеных апошнім часам — не трэба бегчы перад цягніком. Можна ехаць, глядзець у акно, а на сваім прыпынку выйсці. Дзякуючы маёй псіхатэрапеўтцы, вучуся (смяецца). Для ўсяго свой час. Я думаю, нашае грамадства цяпер на такім этапе, што гэтая кніга ўпала б у чорную дзірку. Магчыма. Каб яе прачытаць, патрэбны рэсурс. А на дадзеным этапе мы даволі раскіслыя. І гэтага рэсурсу проста няма. Дык навошта? Выдаць, каб выдаць? Ну, не. Яна ж жывая. Я сама, напэўна, не маю сілаў яе прачытаць цяпер. Так, «Трыпутнік» пра лекаванне, і яно б нам усім не зашкодзіла. Але і лекаванне не заўсёды праходзіць лёгка. Гэта ж можа быць і хіміятэрапія, і антыбіётыкі, і аперацыя, і швы. У свой час кніга будзе, я гэта ведаю...

***— Сустракала нямала жанчынаў, якія недабразычліва ставяцца да феміністак. Што дзіўна, на мой погляд. Чаму гэта адбываецца, як думаеш?***

— І я такой была, не нарадзілася ж феміністкай. А выхаванне атрымала і ўвогуле антыфемінісцкае. Нейкі час таму дыскутавала са старэйшай сястрой. Яна шчыра верыла, што жанчына павінна сядзець дома і займацца дзецьмі, а мужчына — зарабляць грошы. Я спрабавала давесці: «У цябе ўтылітарнае стаўленне да мужчыны, ён жа не інструмент, а такая ж жывая істота, як ты». Можа, у яго не атрымліваецца зарабляць гэтыя грошы, можа, ён не хоча. Таксама мае на гэта права. Яна, вядома, не пагаджалася. Не разумела, пра што я ўвогуле даводжу, думала, што сапраўды хоча так жыць. І вось з мінулага лета ў яе памянялася стаўленне, раптам зразумела, што ёй падабаецца быць незалежнай, развівацца, а не сядзець векі вечныя дома. Але займацца дзецьмі, хатняй гаспадаркай, менеджментам — таксама цяжкая праца.

***— За савецкім часам чамусьці і праца, і гаспадарка паклаліся на плечы жанчын...***

— Адзін з самых вялікіх падманаў савецкага часу. З аднаго боку, жанчынам далі эмансіпацыю: ты можаш дасягнуць усяго, займаць любыя пасады, кіраваць машынай, і ўсё на свеце. Але пры гэтым і гаспадарка, і дзеці ўсё роўна на табе. Мужчынам жа можна толькі працаваць. А цяпер збіраем плады, калі многія жанчыны мусяць браць на сябе ўвесь менеджмент. Трэба прыдумаць усё: што вы будзеце есці і як гэта прыгатаваць, куды трэба адвесці дзяцей і калі забраць, што купіць — усю лагістыку сямейнага жыцця.

Працяг на стар. 17 (12) »

# Іван Неслухоўскі — Янка Лучына

**6 ліпеня — 170-я гадавіна з дня нараджэння аднаго з пачынальнікаў новай беларускай літаратуры Янкі Лучыны.**

### Сыракомля і Дастаеўскі

Нарадзіўся Янка Лучына — так ён пачаў падпісваць сябе пад беларускімі творамі, а сапраўднае імя — Іван Неслухоўскі — у Менску ў 1851 годзе. Ён паходзіў са старажытнага беларускага шляхецкага роду Лучыўка-Неслухоўскіх (герба «Дамброва»), згадкі пра які адносяцца да XIII стагоддзя. Тады продак пісьменніка Пшэбыслаў Дамброва адзначыўся ў змаганні супраць татара-манголаў, за што атрымаў землі ад польскага князя Конрада Мазавецкага. Паводле адной з версій, на тых землях знаходзіўся маёнтак Неслухі, ад якога і пайшло прозвішча роду. Вядома, што многія пакаленні продкаў пісьменніка служылі, жылі і мелі землі ў ВКЛ. Прадзед — таксама Іван Неслухоўскі — служыў ротмістрам Навагрудскага ваяводства, а дзядуля — межавым суддзёй Слуцкага павета. Нягледзячы на тое, што род Неслухоўскіх меў вялікую гісторыю, у Расійскай імперыі дваранскае званне было зацверджанае толькі з другой спробы.

Бацька Янкі рабіў кар'еру на Міншчыне: служыў у мясцовым губернскім праўленні, дзе прайшоў шлях ад пісара да памочніка столаначальніка, потым сам стаў столаначальнікам Мінскай палаты цывільнага суда, а пазней атрымаў чын калежскага асэсара. У Мінску бацькі Янкі мелі ўласны дом, але таксама арандавалі ў Радзівілаў фальваркі Мархачоўшчына і Зацэржжа. Цікава, што раней фальваркам Мархачоўшчына валодаў бацька паэта Уладзіслава Сыракомлі (сімвалічна, бо сам Сыракомля быў для Янкі творчым настаўнікам, прыкладам). Не менш сімвалічна, што раней продкі паэта валодалі землямі, якія належалі продкам Фёдара Дастаеўскага.

### Тыфліс, Максім Горкі і параліч

Першую адукацыю Янка атрымаў у прыватным пансіёне настаўніка Ціля, дзе навучэнцы жылі амаль увесь час і вярталіся да сям'і толькі ў выходныя і на святы. Потым хлопчык працягнуў навучанне ў Мінскай класічнай гімназіі, па сканчэнні якой паехаў у Пецярбург. Там ён паступіў і некаторы час вучыўся на матэматычным факультэце Пецярбургскага ўніверсітэта. Але праз год малады чалавек перадумаў і наноў паступіў у Дзяржаўны тэхналагічны інстытут на механічнае аддзяленне на модную ў тыя часы спецыяльнасць інжынера.

Пасля атрымання адукацыі Янка Лучына быў накіраваны на працу ў далёкі ад радзімы куток Расійскай імперыі — Тыфліс, дзе стаў начальнікам чыгуначных складоў. Там жа, на Каўказе, малады чалавек пазнаёміўся з Максімам Горкім. Але праца ў Тыфлісе аказалася нядоўгай. Праз некалькі гадоў па апошнім прыездзе ў Менск маладога чалавека напаткала страшная бяда. Аднойчы Янка ўпаў, і яго разбіў параліч. Уся ніжняя частка цела стала нерухомай, хадзіць ён мог толькі з дапамогай мыліц. Праз здарэнне ў Тыфліс ён ужо не вярнуўся, застаўся ў Менску.

Аднак страшэнная хвароба не зламала Янку Лучыну, ён застаўся жыццярадасным і энергічным асобай, працягваў жыць паўнавартасна і насычана. У прыватнасці, пра гэта сведчыць тое, што ён уладкаваўся на працу ў менскае тэхнічнае бюро Лібава-Роменскай чыгункі, наведваў тэатр, хадзіў на рыбалку і нават на паляванне. У той жа час існуюць і аргументаваныя версіі, нібыта малады чалавек сімуляваў хваробу, каб не вяртацца на Каўказ, а застацца на радзіме. У любым разе цяпер цяжка дакладна сказаць, якая версія сапраўдная.





ВЯЗАНКА.

Янки Лучыны

(Ивана Неслухоўскаго).

Пецербургъ.

1903 року.

### Шматмоўны паэт

Першыя паэтычныя спробы Янкі Лучыны адносяцца яшчэ да дзевяцігадовага ўзросту, калі ён вучыўся ў пансіёне. А вось сапраўдны яго дэбют у друку адбыўся ў 1886 годзе ў газеце «Минский листок», а таксама ў польскім часопісе «Kłosy». Першыя творы Янкі Лучыны з'ўляліся на польскай і расійскай мове. Першы ж беларускамоўны твор быў надрукаваны ў 1889 годзе, і менавіта тады з'явіўся псеўданім паэта.

Цэнзурны гнёт прымушаў Янку Лучыну звяртацца да эзопаўскай мовы. Вясна, рунь у яго — сімвал абуджэння, а зіма, хмары, мароз — вобразнае выяўленне сіл, варожых народу:

*Хоць бы раз без цябе зарунець бы палям,*
*Хоць бы раз у свой час адышла бы зіма.*
*Ўстрапянуўся бы дух ў чалавечых грудзях,*
*Дый забылі б мы мора смутку дый слёз...*

Янка Лучына спрабаваў наладзіць выданне беларускай газеты. А яшчэ праз год ажаніўся з Ганнай Грыневіч. У гэты перыяд Янка Лучына шмат пісаў і перакладаў з іншых моваў. На жаль, паэт пражыў вельмі кароткае жыццё і памёр праз шэсць гадоў пасля жаніцьбы (у 1897 годзе) ва ўзросце сарака шасці гадоў. Ён быў пахаваны ў Менску на Кальварыйскіх могілках.

Шмат якія творы паэта не захаваліся да нашых дзён. Але тыя, што засталіся, зрабілі вялікі ўплыў як на нацыянальнае адраджэнне пачатку XX стагоддзя — напрыклад, з тэкста аднаго з ягоных вершаў нарадзіліся назвы беларускіх газет «Наша доля» і «Наша ніва», — так і на беларускую нацыянальную літаратуру.

**Кірыл Стасельк**а



# Сем з паловай плюсаў Уладзіміра Някляева

## (Да 75-годдзя з дня народзінаў)

Фармат юбілейных словаў нібыта зацверджаны Мінюстам, але менш за ўсё хочацца думаць у дзень нараджэння паэта пра розныя фарматы і Мінюсты.

Калі ў тэксце павінен быць вытрыманы фармат, то навошта тады пісаць? Хіба з'ўляліся добрыя кнігі, у тым ліку кнігі Уладзіміра Някляева, выключна праз нейчае патрабаванне? Бадай, толькі ўнутранае жаданне самога паэта выводзіла іх на святло. Гэтак і я не стану распісваць рэгаліі, трымацца парадку, жанру, храналогіі, стэрэатыпаў, а скажу пра тыя плюсы Някляева, якія бачу сам. Якія, на мой погляд, дадавалі і дадаюць беларускай літаратуры сёе-тое.

**1. Някляеў — жывы творца паэм.** Гучыць як штосьці банальнае: ну, паэмы, ну, падумаеш... Паэты ж на тое і паэты, каб вершы і паэмы пісаць, правільна? Вось, мабыць, напрыклад, раптам пачынаеш перабіраць кнігі, адгортваць газеты і часопісы, якія яшчэ не закрыліся, і бачыш, што нават колькасна іх амаль няма. Добрай паэмы амаль няма. А такой, што можаш успомніць злёту і працытаваць — і пагатоў. Аднак справа не ў цытаце: выдатны радок знойдзецца шмат у каго. Някляеў жа ў найлепшых сваіх паэмах апошняга паўстагоддзя стварае Свет, у якім, як правіла жывуць два чалавекі. Я і Яна, Яна і Я. Здаецца, што з гэтых двух возьмеш? Як можна пра іх пісаць пяцьдзясят гадоў і не вычарпаць тэмы? Някляеў можа. Ніхто не можа, акрамя яго.

**2. Дыялог.** На чым трымаецца някляеўскі верш, някляеўская паэма, шмат што з прозы? На дыялогу, на размове, дзе нешта і ніхто не можа скончыцца. Перашэптваюцца каханкі, лётаюць духі і багі, героі мінулага і антыгероі сучаснага, часам у поўнай куламесе спрачаюцца, сварацца, а часам гэта амаль нячутны абмен думкамі двух у маўчанні. У Някляеве сутыкаюцца нейкія плыні часу і прасторы; прашываюць яго, як вецер, а ён, як той вынаходца вятроў, спрабуе ўтаймаваць стыхіі. Някляеўскі дыялог перашкаджае літаратуры быць бясконца аўтабіяграфічнай, ён патрабуе выдумкі, адхілення ад сябе, ад прыватнага досведу. Безумоўна, гэта плюс.

**3. Ён умее быць розным.** Я не пра тое, што ў розных кнігах не пазнаеш: наадварот, мне дык і старонкі «ўсляпую» не трэба, каб сказаць, што гэта ягоны фірмовы стыль. Я — пра пастаянную шматфарбнасць беларускага літаратара, які, з часоў Купалы і Луцкевічаў, можа і напісаць эсэ, і стаць на чале часопіса, пісаць вершы і раманы, ствараць праграму на ТБ, перакладаць п'есы для тэатра, пісаць песні для гуртоў, рабіць і даваць інтэрв'ю, выступаць на стадыёнах і ўладкоўваць справы сяброў па цэху. І часам усё гэта рабіць адначасова для таго, каб жыла Беларусь. Такія людзі былі і ёсць у нашай літаратуры. Але іх заўжды катастрафічна мала, іх бракуе. Някляеў адзін з іх.

**4. Ён адкрыты новаму.** Не ў тым сэнсе, што раз'язджае на электрасамакаце па Маякоўцы (хаця, можа, і раз'язджае — я б не здзівіўся). Але я не раз лавіў сябе на думцы: добра, каб і мне ў такія гады такія імпэт і цікавасць да новай літаратуры, да падзеяў і людзей, да знаёмстваў, размоваў, няхай сабе і спрэчак, урэшце рэшт — такога прыняцця свету як чагосьці бязмежна жывога і цікавага. У якім не зняверыўся, хоць нагодаў для гэтага больш чым дастаткова. У якім хочаш прымаць дзейны ўдзел і часам па-шасцідзясятніцку пераўтвараць, і выходзіць пераможцам.

**5. Някляеў заўжды застаецца літаратарам.** Успамінаю 2011 год: краіна аслепла ад судоў і аглухла ад дэвальвацый. Па крамах бегаюць бясконцыя натоўпы і выносяць пыласосы з лядоўнямі, на праспекце плякаюць масы мінакоў у вызначаны час і сігналяць машыны. Апошняе слова экс-кандыдата ў прэзідэнты Някляева на судзе прысвечана беларускай мове і яе катастрафічнаму становішчу ў Беларусі. Пра гэта не гаворыць і не думае ў гэты момант абсалютна ніхто, акрамя яго. Я быў проста агаломшаны ў той дзень і нават крыху пакрыўджаны, што ён не набраў такія лёгкія рэпутацыйныя «пойнты», неабходныя для далейшай палітычнай дзейнасці. Але Някляеў і ў судзе застаўся сабой — пісьменнікам. Паказаў, што для яго найдаражэйшае ў свеце — свая мова і сваё месца ў літаратуры. І цяпер, праз дзесяць гадоў, трэба сказаць, што я значна лепш разумею той ягоны крок.

**6. Ён, безумоўна, прыроджаны імправізатар.** Ва ўсіх сэнсах. Бадай што, ягоную біяграфію ведае толькі ён сам, а міфаў, гісторый, прыдумак выведзена проста безліч. Артыстызм зразае і выкідае ўвесь пафас. У той жа час ён нараджае апломб, самапавагу актора, які прамаўляе цэнтральныя для п'есы маналог. Для Някляева нецэнтральных маналогаў няма, і на кожнай сцэне — хай гэта пакойчык на пяць чалавек, вялікая зала Дома літаратара, стадыён «Маладзечна-95» ці богведама што яшчэ — ён умее зачапіць і ўтрымаць аўдыторыю. Нават калі тое, што ён гаворыць — містыфікацыя.

**7. Ён бывае бязлітасна дакладным.** У вершы можна сысці ўбок незлічоную колькасць разоў, закруціцца ў сілаба-танічных вальсах і пырхнуць вераб'ём у чарговыя цянёты. Але бываюць такія вершы, пасля якіх хочацца закурыць. Пасля якіх закрываеш кнігу і пачынаеш мерыць крокамі пакой. Можа быць, іх не 600 тамоў, як у Юзафа Ігнацыя Крашэўскага. Але на адзін том набярэцца. І гэтага цалкам дастаткова.

**7,5. Ён не спыняецца.**

І дзякуй Богу. З днём нараджэння, Уладзімір Пракопавіч!

**Ціхан Чарнякевіч**

# Беларускія блізняты: як не блытаць Купалу і Коласа

Марына ЯРОМКА

**Два класікі беларускай літаратуры, народныя паэты альбо два вусатыя дзядзькі з аднолькавымі ініцыяламі? Абодва нарадзіліся ў маляўнічых кутках нашай радзімы, абодва пісалі вершы і паэмы, якія ў школе вучаць на памяць. Паспрабуем усё ж разабрацца, чым яны адрозніваюцца як пісьменнікі — спасцігнуць тое, чаго не пабачыш на партрэтах, пра што не прачытаеш у біяграфіях.**

Праблемы з вызначэннем аўтараў паэм «Сымон-музыка» і «Курган», ламанне галавы над тым, хто ж напісаў верш «Спадчына», сапраўдны ступар перад «Новай зямлёй». Янка Купала і Якуб Колас — беларускія пісьменнікі, вядомыя, бадай, кожнаму. Але нягледзячы на гэта, часта бывае складана вызначыць, хто ёсць хто. Ужо нават міф складваецца пра блытаніну класікаў. Дык як жа адрозніць такіх падобных (розных!) пісьменнікаў?

Пачаць, напэўна, варта з **тэматыкі вершаў.**

У **Якуба Коласа** чытач адшукае шмат твораў, дзе ствараецца вобраз прыроды. Вершы пра прыроду Коласа — класічны прыклад пейзажнай лірыкі і адна з пазнавальных рысаў яго творчасці.

*Ноч павісла над зямлёю,*
*Ўсё абнята цішынёю,*
*Поўнай страху, поўнай чар.*
*Быў гарачы дзень бясконца,*
*Не сьвяціла — жэгла сонца,*
*Парнасць страшная і вар.*
*І вось неба не ўтрывала,*
*Ўсё ў агнях запалыхала,*
*Мрок хістаецца, дрыжыць...*

**(З верша «Вераб'іная ноч».)**

Або, напрыклад, вершы «Палескія вобразы», «Родныя вобразы», «Адлёт жураўлёў».

Для **Янкі Купалы** ж чыста пейзажныя вершы не характэрныя. У многіх творах вобраз прыроды стварае фон для іншых важных для паэта тэм.

*Вольным гоманам хвоек высокіх,*
*Туманамі санлівых нізін,*
*Казкай векаў блізкіх і далёкіх*
*Клічам, сонца, цябе як адзін!*
*Распусці залацістыя косы,*
*Схаладзелы загон аціплі,*
*Аквяці лугавыя пакосы,*
*Ўсходы новыя сей на зямлі...*
*Як у свята купальскае, сонца,*
*Свой жывы абнаўляеш паглёд,*
*Аднаві славу нашай старонцы,*
*Аднаві яе сумны народ!*
*Хай нам явары вечныя думы,*
*Думы-байкі шасцяць, шалясцяць,*
*І нясуцца хай гэтыя шумы,*
*Па бел-свету ляцяць, хай ляцяць!*

**(З верша «Песня сонцу».)**

І Купала, і Колас пісалі вершы, прысвечаныя праблемам грамадства, бо ў часы нашаніўства сацыяльнае і нацыянальнае становішча беларусаў было адной з найважнейшых тэм у літаратуры. Але і ў творах, прысвечаных «долі беларуса», можна выразна ўбачыць розніцу паміж паэтамі. Яна — у **настроі вершаў і ў шляхах вырашэння праблемы.**

**Якуб Колас**, ствараючы вельмі падрабязны, наглядны вобраз чалавека і яго



жыцця, імкнецца выклікаць шкадаванне да лёсу беларуса. Выхад лірычны герой прапануе праз адукацыю, навучанне, якое мусіць узвысіць пакрыўджанага чалавека.

*З нас нямала жартавалі,*
*Той нас крыўдзіў, гэты сек.*
*Годнасць нашую тапталі,*
*Ў нас заплёван чалавек.*
*Хай святло навукі яснай*
*Заблішчыць, як сонца ўсход,*
*Няхай родным словам шчасна*
*Загаворыць наш народ.*

**(З верша «Мы маўчалі, як нямыя».)**

У вершах Янкі **Купалы** пераважае настрой актыўнага супрацьстаяння, які аўтар распальвае ў сваім чытачу рознымі паэтычнымі сродкамі (звароты, заклікі, паўторы). Спосаб пераадолення сітуацыі — гэта змаганне як заканамерны вынік нанесенай крыўды.

*Паўстаньце, рабскія натуры,*
*Пакіньце свой адвечны сон,*
*Загаманіце віхрам, бурай,*
*Каб ажна дрогнуў ваш палон!*

**(З верша «Прарок».)**

Тут бачна, што паэты па-рознаму падыходзілі да вырашэння надзённых для іх пытанняў: паступовы, «рэфарматарскі» шлях Якуба Коласа і рэзкая, «рэвалюцыйная» барацьба Янкі Купалы.

Вельмі важны складнік верша — рытм, афармленне ў радкі і строфы.

У **Якуба Коласа** вершы заўжды вытрыманыя рытмічна ў тым памеры, які аўтар абірае для твора.

*Ці дома я, ці я ў паходзе,*
*Калі адзін, як воўк, брыду, –*
*У кожнай хвалі і ў прыгодзе*
*З сабой нясу дум чараду.*
*За ёю сьледам сумным ходам*
*Малюнкі прошласьці плывуць,*
*І так мне жаль іх і так шкода,*
*Што іх нанова не вярнуць.*

**(З верша «Ці дома я, ці ў паходзе...»)**

Янка Купала часта карыстаецца рознай рытмікай у межах аднаго твора, разрывае радкі, парушаючы традыцыйнае чаргаванне складоў.

*А хто там ідзе, а хто там ідзе*
*У агромністай такой грамадзе?*
*— Беларусы.*
*А што яны нясуць на худых плячах,*
*На руках у крыві, на нагах у лапцях?*
*— Сваю крыўду.*
*А куды ж нясуць гэту крыўду ўсю,*
*А куды ж нясуць напаказ сваю?*
*— На свет цэлы.*
*А хто гэта іх, не адзін мільён,*
*Крыўду несць навучыў, разбудзіў іх сон?*
*— Бяда, гора.*
*А чаго ж, чаго захацелась ім,*
*Пагарджаным век, ім, сляпым, глухім?*
*— Людзьмі звацца.*

Рытміка ўплывае на пачуццёвае ўспрыманне верша, дазваляе неабходным чынам размясціць акцэнты. Да выкарыстання рытму, даўжыні радка як да сродкаў стварэння настрою верша паэты падыходзілі па-рознаму.

У вершах Якуба **Коласа** пераважае рытміка, якую часта называюць «лёгкай». Яна надае творам песеннасці, спрашчае іх успрыманне.

*Я ня знаю сам, браточкі,*
*Чаму мне так мілы*
*Буры, плач асенняй ночкі,*
*Спеў яе пастылы,*
*Лесу гоман, гуд нястройны,*
*Шум лазы ў балоце,*
*Баязлівы, неспакойны*
*Шолах у чароце.*

**(З верша «Я не знаю...»)**

Падвесці ўсе творы пад адну формулу, натуральна, немагчыма, але ў многіх сваіх вершах Янка Купала карыстаецца доўгім радком, назапашвае, канцэнтруе эмоцыі, робячы цяжкае яшчэ больш невыносным.

*Чую я, чуе сэрца маё жаласлівае,*
*Душа ные, а болем здымаюцца грудзі;*
*Як радзіўся,*
*ішло ўсё са мной нешчаслівае, –*
*Не пацешылі ў смутку і добрыя людзі.*

**(З верша «Адповедзь».)**

Розніца паміж пісьменнікамі прасочваецца і ў **падыходзе да адлюстравання рэчаіснасці**.

Акрамя падрабязнасці, вершам Якуба **Коласа** ўласцівая дакладнасць, праўдзівасць вобразаў. Паэт фарміруе ўражанне на падставе знешніх назіранняў, вобразаў навакольнага свету.

Якуб Колас — пісьменнік-рэаліст, у якога асноўная нагрузка прыпадае на дэталізацыю рэальных вобразаў.

*Ціха ў хаце. Сэрца ные.*
*Страх душу апанаваў.*
*Чаму ж, вецер, думкі злыя*
*Ты ў душу маю нагнаў?*

**(З верша «Асенні вечар».)**

У вершах Янкі **Купалы** меней канкрэтыкі, але большы акцэнт на асноўным вобразе або настрої, які вынікае пераважна з бачання лірычным героем пэўнай праблемы.

Сімвалічныя, рамантычныя вобразы набываюць няісныя ў рэальнасці, але заўважныя і значныя для чалавека рысы, ставяць на першае месца не знешні свет, а яго ўспрыманне і перапрацоўку лірычным героем.

*Прадсмертнаю кляцьбой*
*канаючага раба,*
*Малітвай грэшніка, зарэзаўшага матку,*
*Звярнуся к сонцу,*
*сонцу без канца й пачатку,*
*Хай спаліць мне душу,*
*як ствол разбіты граба,*
*Хай вочы высмаліць,*
*як кветку ў лілы слабай,*
*Але і крыж мой спапяліць*
*хай папараду!*

**(З верша «Сярод магіл».)**

Асэнсаванне ўласнай ролі як творцы заўсёды важнае для пісьменніка.

Лірычны герой **Коласа** разумее несправядлівасць існага становішча, паказвае расчараванне і незадаволенасць чалавека. Паэт у коласаўскіх вершах, спачуваючы людзям, не вылучаецца як правадыр, застаецца побач, нараўне з усімі, «апяваючы» людское гора.

*Ці ж я сэрцам не хвараю?*
*Ці ж мне смутак лёгка даўся?*
*Я спяваю, як умею,*
*Я пра радасць пець ня здаўся.*

**(З верша «Пясняр».)**

**Янку Купалу** небеспадстаўна называюць паэтам-прарокам, які разумеў сваю ролю «ўладара роднай песні». Лірычны герой яго вершаў — чалавек «з неспакойнай душой», які ўсвядоміў праўду і хоча волі. У Купалы шмат вершаў, напісаных з пазіцыі паэта, які хоча паказаць людзям іх цемрашальства, хоча, каб яно было пераадоленае. Часта гэта робіцца праз прамы заклік да дзеяння.

*Гэй, прасніся, беларусе!*
*Усе людцы паўставалі.*
*Гэй, прасніся, беларусе!*
*Усе праўдачку пазналі.*

**(З верша «Хоць ты, сэрца, лопні, трэсні...»)**

Якуб Колас і Янка Купала, аб'яднаныя агульным гістарычным кантэкстам, адрозніваюцца мастацкім асэнсаваннем, спосабам адлюстравання рэчаіснасці.

**Якуб Колас** — пісьменнік-рэаліст, уважлівы да дэталей знешняга свету, майстар пейзажнай лірыкі, прыхільнік строга вытрыманага рытму. Выйсце са складанай сітуацыі паэт бачыць у паступовым самаўдасканаленні.

**Янка Купала** — рамантык, сімваліст, які абвастрае пачуцці, эксперыментуючы з вершаваным радком. Ён у ролі паэта-прарока прапануе рашэнне нацыянальных праблем праз актыўнае і неадкладнае змаганне, чакаючы ад беларусаў, што на заклікі яны адкажуць дзеяннем.

# Пано «Навука»



Віктар ВАРАНЕЦ

Іван Іванавіч Северны ўзяў скураны партфель, зірнуў у люстэрка і, задаволены ўбачаным, выйшаў з кватэры па вуліцы Ажэшкі, 41. Працаваў Іван Іванавіч на адказнай пасадзе начальніка арганізацыйнага аддзела абкама партыі, чым вельмі ганарыўся.

Да будынка абкама, які месціўся на той жа вуліцы, было метраў сямсот-васямсот, і Северны заўсёды дабіраўся пешшу, паколькі, на яго думку, гэта было карысным для здароўя і набліжала функцыянера да народа. Прыгожым кастрычніцкім ранкам Іван Іванавіч павольна крочыў па вуліцы, па-гаспадарску разглядаючы наваколле. Але як толькі ён прашыбаваў каля педагагічнага інстытута, нешта непрыемнае разанула вока. Северны спыніўся і агледзеўся. Не, усё, здаецца, добра, як і заўсёды. Але нешта ж разанула? Тады ён вярнуўся крокаў на пяцьдзясят і пачаў уважліва аглядаць тратуар, слупы, будынак. І раптам ледзь не страціў прытомнасць. На тарцавой сцяне дома №19 выразна праступала вялізная фашысцкая свастыка. Іван Іванавіч з усіх ног кінуўся ў аблвыканкам. А ўжо праз паўгадзіны да дома падагналі аўтавышку, і два рабочыя хуценька зафарбавалі ганебны малюнак. Была самая раніца, людзей на вуліцы зусім мала ды і тыя не звярталі асаблівай увагі на сцены дамоў. Таму гэтая падзея засталася сярод гараджан практычна незаўважанай. Затое паслужыла прадметам сур'ёзнай размовы на пасяджэнні бюро абкама партыі.

— Таварышы, — Мікіта Сяргеевіч Крупін, трэці сакратар абкама, строга агледзеў прысутных, — толькі дзякуючы пільнасці таварыша Севернага мы ліквідавалі ідэалагічную дыверсію ў горадзе. Ды што там у горадзе — у краіне, не пабаюся гэтага слова. Дзякуй, паважаны Іван Іванавіч! І хацелася б паслухаць старшыню гаркамгаса таварыша Лісоўскага. Як такое магло стацца ў нашым цудоўным горадзе?

З месца падняўся тоўсты, як кадка, і такі ж нізенькі чалавек з пунцовым ад хвалявання тварам.

— Таварышы, сцяну на доме №19 фарбавалі яшчэ да майго з'яўлення ў Гродне, і таму за яе я не магу несці адказнасць.

— А ты не перакладай праблему на чужыя плечы, — кінуў першы сакратар абкама. — За дамы ў горадзе ты адказваеш, вось і растлумач прысутным таварышам, як плануеш вырашаць праблему.

— А чаго тут думаць? — развёў рукамі Лісоўскі. — Сцяну зафарбавалі, і цяпер нічога нябачна.

— Цяпер, можа, і нябачна, — з'едліва загаварыў Крупін,— а па вясне пасля дажджоў і снегу зноў вылезе? І што, будзем чакаць, пакуль таварыш Северны дасць своечасовы сігнал?

— А што яшчэ я магу зрабіць? — здзіўлена закруціў галавой Лісоўскі. — Рэха вайны...

— А давайце на гэтай сцяне размесцім прыгожае пано, — як бы баючыся, ціхенька заўважыла з месца вастраносенькая жанчына. — Я ў Таліне бачыла. Вельмі прыгожа.

— Правільна! — тут жа падтрымаў з трыбуны Крупін. — Вось слушную прапанову ўнесла таварыш Зайцава. Абавязкова вялікае пано на тэму навукі і адукацыі. Каб на вякі! Там жа насупраць педагагічны інстытут. Дык будзем выхоўваць, таварышы, будучых педагогаў на прыгожых прыкладах з нашага жыцця. Вы не супраць, Сямён Уладзіміравіч?

Крупін павярнуўся да першага сакратара. Той згодна кіўнуў галавой.

Зрабіць пано даручылі маладым ленінградскім мастакам Пятру Сяргееву і Сяргею Мацвееву, якія два гады назад былі ў Гродне на практыцы. Неўзабаве хлопцы з'явіліся ў горадзе, а часовую майстэрню разгарнулі ў спартыўнай зале педінстытута. Стварыць пано вырашылі па ўласна распрацаванай методыцы: спачатку склеіць з лістоў кардону барэльеф у натуральную велічыню, намаляваць саму выяву барэльефу і выразаць асобныя дэталі.

З дапамогай будаўнікоў хлопцы прымацавалі да даху дома №19 люльку на металічных тросах, залезлі ў яе і спусціліся метры на паўтара. Заверашчалі электрычныя фрэзы, і паляцела высахлая фарба ва ўсе бакі. Мастакі былі ўпэўнены, што пад пластамі фарбы павінна быць страрадаўняя тынкоўка (не цэглу ж продкі малявалі?). Так яно і сталася. Неўзабаве паказалася і жоўтага колеру тынкоўка. Фарба здымалася лёгка, паколькі шмат яе наслаілася за дзесяцігоддзі. Да абеду хлопцы зачысцілі амаль палову сцяны. Час быў зрабіць невялікі перакур. Яны спусціліся на зямлю і пакрочылі ў студэнцкую сталоўку. А калі вярнуліся, сытыя і задаволеныя, пачалі разглядаць першыя вынікі сваёй працы.

— Сяргей, — раптам парушыў маўклівае любаванне Пётр, — а што гэта за малюнак у левым куце?

— Ну так, — прыглядзеўшыся, пагадзіўся сябар, — і сапраўды штосьці надрапана. Трэба ж, а зблізу падалося, што проста драпіны. Глядзі, нейкая арка, перакрыжаваныя інструменты і надпіс «1907». І што гэта азначае?

Пётр з хвіліну памаўчаў, нешта натужліва ўспамінаючы.

— Слухай, Сяргей, я дакладна бачыў дзесьці гэты малюнак. Толькі дзе?

— Хутчэй за ўсё ў 1907 годзе тут у Гродне, — рагатнуў Сяргей.

— Во, яшчэ адзін Аркадзь Райкін з'явіўся на маю галаву, — прабуркацеў Пётр. — Пайшлі лепш працаваць...

У суботу раніцай, гадзін у пяць, нехта моцна затрос Мацвеева за плячо. Той неахвотна расплюшчыў вочы і ўбачыў Пятра.

— Сярога, — узбуджана крычаў Пётр, — я ўсю ноч успамінаў той малюнак на сцяне і нарэшце ўспомніў, дзе яго бачыў.

— А ты не мог успомніць гадзіны на тры пазней, — незадаволена прамармытаў хлопец.

— Глупствы, — па-ранейшаму бадзёра працягваў Пётр. — Нацягвай майткі і хуценька пабеглі...

Хвілін праз сорак яны ўжо былі на Старым мосце. А калі перайшлі Нёман на супрацьлеглы бок, Сяргееў імгненна пераскочыў праз невысокі бар'ерчык і пачаў спускацца па адхоне да ракі. Сяргею нічога не заставалася, як падтрымаць прыклад сябра. Неўзабаве яны спусціліся да самага берага, і Пётр паказаў рукою на адну з апор маста. І сапраўды, яна была дакладна такой, як выглядала схематычна на сцяне: і цагляная арка, і перакрыжаваныя інструменты, і надпіс «1907».

— І што цяпер? — зацікаўлена запытаўся Сяргей.

— А я адкуль ведаю? — чамусьці злосна буркнуў у адказ Пётр. — Павінна быць яшчэ якая падказка. Не проста ж так чалавек драпаў на сцяне выяву апоры.

— Я так разумею, што падказку лепш шукаць на сцяне, а не пад мостам, — не без іроніі заўважыў Сяргей.

— І я так думаю! — пагадзіўся Сяргееў. — Трэба зноў лезці на сцяну.

— Дык сёння ж выхадны, — запярэчыў Сяргей.

— І што? Будзем ляжаць на ложку, а хтосьці іншы адгадае таямніцу і скарыстаецца ёй? Тут не да адпачынку.

— А ты сур'ёзна думаеш, што дзесьці схаваны клад?

— Я ўпэўнены ў гэтым. Пайшлі зараз у блінную на Савецкай, паснедаем, а па дарозе я табе раскажу, што накапаў за ўчарашні вечар. Пакуль ты адпачываў, дарэчы...

Як высветлілася, Пётр пасля працы адразу рушыў у Гродзенскі архіў, дзе (бываюць жа такія супадзенні!) дырэктарам працавала Маша Ігнатава, выпускніца Ленінградскага архіўнага інстытута, даўняя знаёмая хлопцаў па танцах, паколькі іх інтэрнаты стаялі насупраць адзін аднаго.

Вось у Машы (цяпер Мар'і Іванаўны!) Сяргееў і папрасіў даць пагартаць падшыўку якой-небудзь гарадзенскай газеты за 1907 год. Знайшлася толькі «Северо-западная жизнь», ды і то не ўсе нумары. Але хлопцу зноў пашчасціла. У адной з газет на першай паласе прачытаў буйнымі літарамі загаловак «Абрабаванне Віленскага зямельнага банка ў Гродне». Трое невядомых у масках адразу пасля адкрыцця банка ўварваліся са зброяй у памяшканне банка, схапілі яшчэ не распакаваныя мяшкі з залатымі чырвонцамі, агульнай колькасцю 3000 рублёў, і выбеглі на вуліцу. У гэты час каля будынка банка праходзіў гарадавы Мітрохін, які, убачыўшы людзей у масках і са зброяй, некалькімі стрэламі з рэвальвера цяжка параніў аднаго з бандытаў, але і сам атрымаў кулю ў скронь. Астатнім рабаўнікам удалося знікнуць. Паліцыя горада распачала следства».

— І што цяпер? — пацікавіўся Сяргей.

— Як што?! — ажно ўзвіўся Пётр. — Прачніся! Там трыста залатых чырвонцаў!

— Там — гэта дзе? — усё тым жа раздражняюча-спакойным тонам запытаў Сяргей.

— А вось гэта нам трэба высветліць. І таму мы палезем зноў на сцяну, і праглядзім кожны сантыметрык. Павінна там быць нейкая падказка.

— Добра, — пагадзіўся Сяргей, — але растлумач мне: чаму падказку трэба было рабаўнікам размяшчаць на такой вялізнай сцяне?

— А я табе растлумачу! — адразу ж пагадзіўся Пётр. — У наступным нумары той жа газеты «Северо-западная жизнь» апісана чарговае здарэнне: адначасова зніклі два чалавекі — Мікіта Зотаў, які ў Максіміліяна Абрэмбскага наняўся перафарбаваць дом, наш дом №19, і Фёдар Зыкаў, заняты на будоўлі апор новага маста праз Нёман. Прычым, што цікава, абодва выканалі да канца даручаную працу, але па грошы не з'явіліся. Паліцыяй высветлена, што гэтыя грамадзяне былі знаёмыя адзін з адным, абодва прыехалі з Пецярбурга і пры найме на працу папрасілі аплату амаль удвая меншую за звычайную.

— І што?

— Ну як што? — Пётр спыніўся і паказаў рукою на лаўку. — Ідзі сюды!

Яны селі, хлопец падабраў нейкі пруцік і пачаў маляваць на зямлі.

— Вось паглядзі: гэта вуліца Ажэшкі, вось банк, які абрабавалі, а вось дом, які размалёўваў бандыт. Бачыш, адлегласць метраў пяцьсот, не болей. Бандыты фарбавалі сцяну і назіралі, калі прывязуць залатыя чырвонцы. Хутчэй за ўсё інфармацыю скінуў нехта з банка. Як толькі карэта з золатам праехала, яны пакрочылі следам, і далей па сцэнарыі. А вось натыкнуцца на гарадавога не спадзяваліся. І калі даведаліся, што падзельнік паранены, спалохаліся: а калі ўсё раскажа паліцыі? Але замест таго, каб уцякаць з горада, Зотаў хуценька і бясплатна дафарбоўвае сцяну. Звар'яцеў? Не, ён штосьці хаваў на сцяне, і гэта самае зручнае месца, бо потым калі не сам, то пасланец вярнуўся па золата.

— Добра, а што Зыкаў рабіў?

— Сярожа, Сярожа, — як з малым пачаў сюсюкаць Пётр. — Ну ўключы мазгі. Дзе працаваў Фёдар?

— Здаецца, ты казаў, што на мосце.

— Правільна. А што надрапана на сцяне?

— Апора моста... А-а-а, — схапіўся за галаву Сяргей, — я зразумеў: Зыкаў схаваў золата ў схованцы ў апоры моста.

— Малайца! — пахваліў Пётр. — Нарэшце пачаў варушыць мазгамі. Ты ўяві: горад умомант ачапіла паліцыя. Вывезці два мяхі з золатам вельмі складана. А дзе схаваеш у незнаёмым горадзе? Ды так, каб ніхто і не падумаў? Правільна, у новым мосце на самым людным месцы.

— Слухай, і што, золата там, у мосце, ці яго ўжо забралі?

— Разумееш, бандытам паказвацца зноў у Гродне было не з рукі: я думаю, трэці падзельнік падрабязна іх апісаў паліцыі, лежачы ў бальніцы. Але і камусьці чужому даверыцца страшна: а калі падмане і збяжыць з золатам? Час ішоў, яны, пэўна, шукалі надзейнага чалавека, але, думаю, так нікому і не паверылі да канца. Інакш старая фарба на сцяне была б ужо абадраная. Канешне, яны маглі і на словах расказаць, дзе скарб, і тут ужо як нам пашанцуе.

— Гэта я зразумеў, — Сяргей пачухаў свой кірпаты нос. — Але чаму мы тады ідзем зноў да сцяны, а не да апоры, дзе, як ты кажаш, схаваны скарб?

Пётр усміхнуўся:

— Там, на сцяне, павінна быць падказка. Вось яе мы і адшукаем!

Праз паўгадзіны хлопцы ўжо віселі на сцяне ў люльцы. Праца закіпела, але іх высілкі былі дарэмнымі: ніякіх знакаў ніжэй на сцяне не было. Непрыкметна надышоў вечар. Брудныя, галодныя і знясіленыя, хлопцы ў роспачы пападалі на траву газона. Гаварыць зусім не хацелася. Яны ляжалі і моўчкі глядзелі ў счарнелае неба, на якім пачынаў абжывацца яшчэ зусім празрысты месяц.

— Але ж я і дурань! — раптам пляснуў сябе па ілбе Пеця. — Сяргей, за мной.

Яны зноў падняліся ў люльцы да малюнка, Пётр уключыў ліхтарык:

— Ёсць! Бачыш, арка падзелена на квадрацікі. Гэта, мяркую, цагліны, а ў кожнай стаіць лічба. Гэта парадкавы нумар цэглы. А восьмая, шаснаццатая, дваццаць чацвёртая і трыццаць другая назначаны крыжыкам. Вось тут і трэба шукаць.

У пяць гадзін раніцы наступнага дня яны зноў былі каля аркі. Пільна ўглядаючыся ў цагліны, хлопцы сапраўды ўбачылі на іх ледзь прыкметныя надрапаныя лічбы. Квадрат з 8-й, 16-й, 24-й і 32-й цаглін утвараў ніз арачнай нішы. Пётр схапіў прынесеную з сабой стамеску і стаў выкалупваць адзначаныя цагліны. На дзіва, яны лёгка падаліся, і неўзабаве хлопцы ўбачылі досыць аб'ёмнае паглыбленне, на дне якога ляжала нейкая зжаўцелая паперка. Асцярожна, каб яна не рассыпалася, хлопцы акуратна дасталі і разгарнулі яе. Выцвілымі ад часу чарніламі там была напісана адна толькі фраза:

«А Вы таленавіты чалавек, калі змаглі адгадаць нашу загадку і знайсці гэтае месца, таму Вам прыз пераможцу!».

Пётр яшчэ памацаў рукою ў выемцы і дастаў два залатыя чырвонцы.

— Апярэдзілі, — толькі і сказаў Сяргей...

Праз тры тыдні на вуліцы Леніна адбылася ўрачыстая цырымонія адкрыцця новага пано «Навука». Кіраўнік горада горача дзякаваў стваральнікам гэтай кампазіцыі Пятру і Сяргею, задаволеныя гродзенцы доўга пляскалі ў далоні. А хлопцы ўдзячна ківалі галовамі, моцна сціскаючы ў потных далонях запаветныя чырвонцы.

# Званок Беларусі

## Вершы з праекта wir.by

Вольга ГРОНСКАЯ

***

*Тут,*
*дзе адвечную песню пяе Белавежа,*
*дзе зямля і нябёсы вакол —*
*з пашырэннем «бай»,*
*мы выходзім на вуліцы*
*ў чырвонай і белай адзежы*
*і штодня адчуваем наноў,*
*што вось гэта ўжо —*
*край.*
*Нас гэты год пазнаёміў з сабой і суседам.*
*Мы вастрыць пачалі не сякеры —*
*свае радкі.*
*І калі небяспека — ратуюць глыбіні.*
*Мы ведаем:*
*у глыбінях не будзе страшна.*
*Бо дно — не ў ракі.*
*Тут людзі без зброі насупраць*
*людзей без пагонаў.*
*І літары SOS замест абарванага*
*«Жы…»*
*лятуць у эфір з адключаных тэлефонаў,*
*з краіны,*
*ў якой мы сталі баяцца жыць.*
*З краіны, ў якой мы хочам*
*застацца жыць.*

Артур КАМАРОЎСКІ

***

*хвіліна маўчання*
*перарваная на дзясятай секундзе*
*напамінкам пра сорак першы*
*проста ля нашых ног была*
*незалежнасць*
*якой пагражалі фізічнай сілай*
*калі мы будзем адкрываць раты*
*(мы ўжо ведалі што яны робяць*
*з нашымі ратамі)*
*а мы адкрывалі*
*бо нашае маўчанне даўно зацягнулася*
*бо ў нашых ратах ужо нарадзіліся*
*новыя словы*
*бо карабель састарэў і тоне*
*пацукі пакуль не бягуць*
*але непазбежна*
*бо нашыя целы —*
*саспелыя яблыкі й грушы вялікага сада —*
*прагнулі волі і лёту*
*і вялікай зямлі*
*хвіліна маўчання*
*па целах*
*збітых на горкі яблык*
*па целах*
*якія былі грушамі для біцця*
*па садзе*
*што быў маладым*
*новыя дрэвы нам абяцалі квітнець*
*мы трымалі ў руках самлелыя кветкі*
*як напамінак пра нашыя целы*
*што млелі ў няволі*
*(пакуль яны жэрлі лісце й кару*
*пілі салёны бы слёзы сок)*
*мы абяцалі прыходзіць*
*кожнага дня*
*пакуль незалежнасць трымае на спіне*
*нашыя дрэвы*
*пакуль вялікі язык акіяну*
*не зліжа стары карабель*
*пакуль жнівень будзе загойваць шнары*
*пакуль яблыкі й грушы будуць падаць*
*каб жыць*

Даша БЯЛЬКЕВІЧ

### Званок Беларусі

*Пяты гудок без адказу страхам*
*сціскае жывот,*
*месяц камбайны ўлады ўдарна*
*праводзяць жніво.*
*Выспела і прачнулася спрэс*
*ненажэрнае зло,*
*мы вінаватыя самі — дазволілі, каб*
*жыло.*
*Зло не наелася галасамі,*
*зло захацела галоў,*
*скошаных з плеч чалавечых,*
*знявечаных да асноў.*
*Краіна трывала доўга,*
*зло выдзірала стырно,*
*на скрыжаванні глыбокае*
*беларускае зараўло.*
*Пра здзекі, гвалт і знявагу,*
*пра тое, што ёсць і было,*
*адсутнасць сумлення,*
*закону — падзенне на самае дно.*
*У цемры, у холадзе, у смутку,*
*наеўшыся валуноў,*
*працягнем ісці наперад,*
*мы прагнем вярнуць святло…*
*Пяты гудок скончаецца,*
*я чую тваё «ало».*

Ганна ОТЧЫК

***

*снілася, што я абмяняла кватэру*
*(якой у мяне няма)*
*на хату, дзе ваду награвае сонца*
*але дзяўчына, што аддала мне хату*
*забрала сонца з сабой*
*снілася, што да мяне прыйшла казуля*
*з пакрышаным сцягном*
*яна нарадзіла аленяня*
*але не магла яго выкарміць*
*снілася, што прыходзіла труска*
*нарадзіла трусяня*
*якое не магла выкарміць*
*і я блытала аленяня з трусянём*
*такія яны былі драбнюткія*
*снілася, што прыходзіла дзяўчына*
*з якой мы калісь сябравалі*
*але перасталі, як яна пачала*
*сустракацца з надзейным мужчынам*
*і яна прыйшла, каб са мною павітацца*
*і напаіць атрутай усіх маіх жывёлаў*
*яны парушалі яе спакой*
*снілася, што ў БДУ*
*скасавалі ўсе факультэты*
*абвясцілі яго ўніверсітэтам*
*драўлянага дойлідства*
*у якасці матэрыялу пастаўлялі*
*агромністыя карчы*
*якія здабылі, калі парэзалі ўвесь бэз*
*усе чаромхі й каштаны*
*перад маёй хатай*
*снілася, што прыйшоў АМАП*
*і выцягваў мяне з-пад ложка*
*дзе я хавалася разам са сваімі снамі*
*дзіцячымі лялькамі*
*як калісь дзед хаваўся ад гестапаўцаў*
*а гестапавец падараваў яму цукеркі*
*снілася, што дзед зноў жывы*
*снілася, што ў мяне нікога няма*
*і нічога няма*
*і пад ложкам я ляжу ў пыле*
*маленькая і слабая*
*з пасохлымі бэзавымі галінкамі*
*й фанцікамі*
*снілася што я хачу прачнуцца*
*бо гэта ўсяго толькі страшны сон*
*снілася нешта страшнае*
*не памятаю што*

***

*яны коцяцца ў шэры шэры шэры*
*брудны шэры што робіцца праз зь-*
*мяшэнне жывых*
*колераў беспрытомнымі бруднымі*
*пальцамі*
*стомленнымі праз няздольнасць выма-*
*ляваць нешта шчырае бо шчырае*
*у сабе знішчылі*
*яны рабілі выгляд што іх колеры чорны*
*чырвоны й зялёны, але іх чорны шарэе й*
*чырвоны шарэе й зялёны шарэе*
*праз адвечную стому праз ілжывыя цені*
*шэрагаў*
*жаўнераў за іх штандарамі без якіх*
*ім ніколі не сабраць жніво*
*яны робяцца шэрымі шэрымі шэрымі*
*бо пашкрэбай іх — тое нябожчыкі*
*ашуканцы што чапляюцца пачварнымі*
*кручкамі замест пальцаў*
*за чужую душу й жыццё*
*з іх шматкамі злятаюць маскі*
*вышчэрваюць*
*парэшткі спарахнелай імшы*
*ашуканскай нішчымнай імшы*
*яны робяцца шэрымі шэрымі шэрымі*
*цьмяны шоргат саранчы але яшчэ адно*
*тая саранча — злічоная яна ў меншасці*
*яна меншыцца*
*агаломшаная нашым жыццём*

Ігар КУЛІКОЎ

### Беларусь

*Мы ўжо блізка як трыццаць гадоў —*
*грамадзяне РБ,*
*той краіны, што ў цэнтры Эўропы, і*
*ўвесь гэты час*
*нам казалі, нахмурыўшы лоб: «You from*
*Russia?» — і мы*
*не згаджаліся перш, але потым махалі:*
*«From Russia».*
*Свет не ведаў пра нас, і калі нас агор-*
*таў сумнеў,*
*мы шчыпалі за пашпарт, прапіску, Чар-*
*нобыль, БелАЗ,*
*Вайну й Брэсцкую крэпасць, стабільнас-*
*ць, зуброў і г. д. —*
*і здавалася нам: не, не спім, мы — з РБ, з*
*Беларусі.*
*І вось толькі цяпер, калі нам пальцы*
*сінія зноў*
*сцялі горла ды гэтак, каб голас прапаў*
*назаўжды,*
*калі нас пачалі на пацеху сабе катаваць*
*і да смерці збіваць у турме, каб мы*
*зніклі без вестак,*
*мы прачнуліся ў здзіве ды гневе ў сваю*
*Беларусь,*
*зразумеўшы нарэшце: не мы з Беларусі*
*— ЯНА*
*З НАШЫХ ДУШАЎ,*
*ЯКІЯ ЎЗАЕМАБАЛЯЦЬ,*
*З НАШЫХ СЭРЦ,*
*ШТО ЎЗАЕМАПАЛАЮЦЬ.*
*І тады увесь свет, што дагэуль не ведаў*
*пра нас,*
*нашым сцягам сапраўдным аздобіў свае*
*гарады*
*і разлёгся шматтысячным клічам*
*«Жыве Беларусь!»,*
*бо любоў заўжды там, дзе злу кажуць:*
*«Даволі!».*

Макс ШЧУР

***

*Зямля без радзімы проста планета*
*дзіцячы дом з выгодамі але не бацькоўскі*
*жыццё без радзімы і яе людзей проста*
*жыццё*
*мо і не горшае але дакладна не лепшае*
*мова без слова «радзіма» пазбаўляецца*
*пафасу*
*але траціць сваю чарадзейную мі-*
*фатворчую здольнасць*
*компас без полюсаў прыцягнення не компас*
*і нікому не пакажа дарогі*
*гэта кажу вам я*
*як касмапаліт-інтэрнацыяналіст*

**14.09.**

Юля ЛІСІЦА

***

*гэтая восень з лакця пачалася з любові*
*я больш не магу не падняць на яе вачэй*
*сэрца забыла на рытмы, сціхла без бою*
*спакой раструшчаны вірам бяссонных*
*начэй*
*мой човен заплыў ў буйную ліпкую стому*
*ў кутах тут асіплыя крыкі, шумы гармат*
*а свет згарнуўся пікселем побач з табою*
*праз зубы мурлыча — свабоду ад барыкад*
*пазней я ўзыду на той некрывавы бераг*
*паклічу цябе з сабой, прыплыві па траве*
*там побач будуць стаяць мільёны*
*смелых*
*ў абдымку, морамі, з намі. беларусь*
*жыве*

Вера ЖЫБУЛЬ

***

*Прыбачылася.*
*Цемра, суцэльная,*
*непераадольная цемра.*
*Працягваеш руку ў цемру, каб намацаць,*
*ці не натыкнешся на нешта,*
*і намацваеш рукі, рукі,*
*і хтосьці паціскае тваю руку.*

Дар'я ЛІС

***

*Гэтыя хлопчыкі — дзеці цемры,*
*грахі неадмоленыя*
*сваіх дзядоў.*
*Павернешся спінай —*
*памрэш першым.*
*Ты слабак.*
*І твой сцяг — адстой.*
*Чужыя? Свае…*
*Хочаш спэўніць?*
*Ідзі.*
*Тваё неба з табой.*

Сяргей ПРЫЛУЦКІ

### «Герой» эпохі нестабільнасці

*Адна галава ў аўтазаку добра,*
*а тры — яшчэ лепей.*
*Дагэтуль сістэма не давала збой.*
*Я бараню ў балаклаве нашы скрэпы.*
*Жонка з дзецьмі пойдуць у пекла*
*са мной.*
*Перад сном лічу і ем авечак,*
*уяўляючы, што я воўк.*
*Мая зброя яшчэ не давала асечак.*
*Мая мама даўно закрыла рот на замок.*
*Займаемся з калегамі*
*цяжкім спортам —*
*трэнуемся на жывым матэрыяле.*
*Мой прэзідэнт яшчэ тая морда.*
*Але ж і мы са знешнасцю не падкачалі.*
*Б'ем рабацяг, дзяцей,*
*пенсіянераў, паэтаў.*
*Калі што — завязем новых.*
*Унукам распавяду потым пра гэта.*
*Але не ўсё — хопіць з іх і паловы.*

Марыя МАРТЫСЕВІЧ

### Як я скарыстаюся (р)эвалюцыяй

*заб'ю ў сабе змяю*
*пабудую дом творчасці*
*нараджу дачку*
*пасаджу чазенію ў Менску*
*на бульвары Караткевіча*
*ідэяў шмат*
*штодня заношу іх у ружовы нататнік*
*з вясёлкавым аднарогам на вокладцы*
*рамантык*
*фанатык*
*нягодніца*
*ў адным флаконе*
*хаджу басанож*
*каб не пераабувацца*

***

*Тысячы затрыманняў,*
*сотні адсідак –*
*але недзе пад Янавам*
*танчаць сямсот хасідаў.*
*Танчы — й ніхто цябе*
*не саб'е з маршрута;*
*вер мне, як юдэйскаму Б-гу:*
*усё будзе крута.*

# Водар валадарства

## З кнігі «Беларусалім. Сэрца святла»



Павел СЕВЯРЫНЕЦ

*Ерусаліме, Ерусаліме,*
*Што забіваеш прарокаў,*
*І камянямі пабіваеш пасланых да цябе!*
*Колькі разоў хацеў*
*Я сабраць дзяцей тваіх,*
*Як птушка птушанят сваіх пад крылы,*
*І вы не схацелі!*

**Евангелле паводле Лукі, 13:34**

Для чалавека няма нічога больш шчымлівага, чым пах волі з-за кратаў.

Дробныя пырскі дажджу, разбітыя сталёвымі прутамі, асвяжалі твар Льва, а з вачэй цяклі буйныя кроплі. Госпад старанна мыў яго аблічча. Мабыць, перад сустрэчай — каб увесці ў Сваё Валадарства чыстым.

Валадарка, нармалёвая турма. Пасля года халоднай кафлі падвала, без неба, сонца і свежага паветра, пасля пранізлівага паху хіміі і жалеза, ад якога стыла кроў, турма на Валадарскага здалася Льву домам родным.

Перавялі ноччу. Ён зразумеў толькі ў адсеку аўтазака, што выехаў з падземнай паркоўкі. Каўток цёплага паветра, напоенага пахам зямлі, травы і чалавека, выклікаў спазмы горла ды слёзы і нібы вярнуў яго з таго свету.

О, Валадарка, беларуская Бастылія! Турэмны замак, дзе сядзелі паўстанцы Каліноўскага, тэрарыст Іван Пуліхаў, рэвалюцыянер і паэт, аўтар дзіцячых кніжак Алесь Гарун, заснавальнік ЧК Фелікс Дзяржынскі, паэт-камуніст Максім Танк і віленскі беларус, начальнік польскай дзяржавы Юзаф Пілсудскі! Валадарка, дзе Дунін-Марцінкевіч задумаў «Пінскую шляхту», а Якуб Колас пачаў «Новую зямлю»! Валадарка, дзе забівалі беларускіх падпольшчыкаў, беларускіх паліцаяў і беларускіх паэтаў…

Адзінае месца ў Еўропе, дзе ажыццяўляецца смяротнае пакаранне — праз расстрэл.

Адзіночка з драўлянымі нарамі ўздоўж сцяны і парашай у куце была ўтульная, як бацькоўская хата пасля доўгай вандроўкі. Кавалкам глыбокага чорнага неба, што мігцеў у аправе вакенца ўгары, Леў упершыню за год упіваўся да раніцы. У грудзі хлынула чыстае паветра з форткі.

І дождж… Пах праху зямнога, амытага вадой з неба.

Тут, у крэпасці беларускага зла, дзень і ноч гадамі ідзе цяжкая мясарубка бесаў з анёламі. Тут, у каменным замку, набрынялым пакутай, страхам і пахам застаялай чалавечай бяды, у дажджлівую летнюю ноч Льва пранізліва прабрала надзея.

Перавод у звычайную турму быў цудам: гэта азначала, што бяспашпартны апатрыд Леў Іванавіч Каляда вярнуўся ў прававое поле, дзе магчымы суд, вызначаны тэрмін і ўрэшце рэшт, хай сабе і далёка, — воля. Больш таго, гэта была турма міліцэйская, а не гэбэшная.

Значыць, на волі нешта змянілася.

Пахла тут жыццём, сціснутым сценамі. Наўрад ці гэта нашмат адрознівалася ад духу якой-небудзь сялянскай хаты шаснаццатага стагоддзя, калі ў Бога верыла і малілася Ісусу Хрысту ўся Беларусь.

Цяпер, пасля ўдару Цімура, кожны ўдых — і тленны пах чалавечай смяротнасці ў камеры, і стынь з падвалаў, і рэдкія скразнякі ад дзвярэй, і веянне ветру пераменаў з бразгатам ключоў — даваліся Льву з болем.

Нос, калісьці ягоны гонар, ягоная брама ў духоўны свет, раздроблены, наліты барвова-чорнай гематомінай, цяпер быў праломам у напаўразбураны храм цела. І кожны пах следам за Цімурам біў проста ў мозг. Турэмнае тхло ўваходзіла ў яго, Льва, супраць ягонай волі, бадзялася па ўсіх звілінах, аж пакуль знясіленая галава не пачынала ныць, нахабна ўсялялася ў найдаражэйшыя памяшканні памяці і га́дзіла ў самых таемных і святых закутках.

І ўсё-такі нешта падказвала Льву: дыхай, дыхай глыбей, наапошак. Гэтыя ўдыхі — апошняя Божая ласка табе на зямлі.

***

Крокі спыніліся ля ягонай камеры, забразгаталі ключы. Леў падцяўся і нутрана зарычаў. Акаваныя жалезам дзверы стукнулі ва ўпор на падлозе, і разам з удыхам чыстага паветра з калідора сунулася зусім не пастаць прадольнага, а буйная лабатая прымружаная бульбіна. Дарагі шэры касцюмчык з адлівам. Пах скуры з салона аўтамабіля. Парфум. Дымок дарагіх цыгарэтаў. І — нейкі няўлоўны падазроны душок…

Лабатая бульбіна паморшчылася.

— Ваняет у вас тут у камерах, палкоўнік… Э-э, Іваныч… Ты, ну, ты… Пашлі пагаварым.

Леў не даў веры. Ён стрымаў жаданне адправіць гэтага панібрацкага гобліна падалей, бо пазнаў. У смярдзючую камеру «Валадаркі» сунуў свой твар міністр унутраных справаў Рэспублікі Беларусь — Уладзімір Уладзіміравіч Уладзіміраў уласнай персонай.

— Гдзе у вас тут можна пагаварыць?.. Нет, следственны кабінет не падходзіт. Пагаварыць, палкоўнік, вам жа сказалі… У начальніка ізалятара? Харашо, давай да начальніка.

О, гэты дух турэмных калідораў, дзе нуда канваіраў і тленне гніючых целаў перабіваюцца попахам капуснага супа, што памешвае ў кухні баландзёр! Адлюстраванні ў вымытых падлогах з духам каменя, па якіх ступаеш, нібы над безданню!..

Насамрэч высокі візіт папахваў не надта. Льву хапіла пары дзясяткаў крокаў, скарочаных дзеля падбітай нагі, каб зразумець: сюды, у міліцэйскую турму, яго перавялі па волі чалавека, што цяпер ідзе наперадзе і за якім цягнецца густы хвост нячыстых духаў, дарагога жыцця, крыві ды поту, перамяшанага з трайным адэкалонам.

Падняліся ўгару; пачалася чырвоная дарожка; Леў цяжка дыхаў — за апошнія месяцы адвык хадзіць. Светлы пакой з партрэтам Родзіна расхінуў абдымкі скуранай канапы ды венскіх крэслаў з выразным пахам сланечнікавага алею.

Алей, знак славы, знак улады.

Уладзіміраў нецярплівым рухам рукі вымеў з пакоя гаспадара, тоўстага каструбаватага чалавека з цёмнымі мяшкамі пад вачыма і пагонамі палкоўніка: Ляксеіч, мы тут самі, мінут дваццаць, — ды паказаў Ільву на канапу.

— Эта хто? — праваліўся ў фатэль насупраць і паказаў на ягоны нос. — Цімур? А-а-а, пахожэ на няво. Этат можат.

Колькі секундаў ён разглядаў Ільва, нарэшце крэкнуў (Леў пачуў нават штосьці кшталту шкадобы), падняўся са шлейфам сваіх адэкалонна-скураных пахаў і выглянуў за дзверы:




— Э, Ляксеіч, кофе нам зьдзелай, ладна? І мне, і яму. Пакрэпчэ, тока натуральный, смотры, я растварымы не люблю, туфту эту.

Вярнуўся, зіркнуў зноў.

— Да, атдзелалі ані цібя. Іга мангола-татарскае, беспрадзел.

Нахіліўся. Леў зацяў дыханне, стала душнавата, пукатыя вочы навіслі над ім:

— Ваабшчэ-та мы тваево Цімура за пасьледній месяц немнога, будзем так гаварыць… апусьцілі. Панімаеш, мы папработалі над цем, што-бы аб'явіць вашым амнісьцію. У связі с абшчэственнай значымасьцю. Вашы тут развабухлі ў Будславе і так далее. Цібя перавялі сюда… очань інцірэсная історыя была, но аб этам патом… павер, рашалась на самам вярху.

Уладзіміраў падняў вочы ўгару. Леў выдатна зразумеў, які верх маецца на ўвазе. На імгненне перахапіла дыханне, у глыбіні душы варухнулася пыха. Для сябе ён адразу паправіўся: канечне, на самым версе — гэта на небе, Уладзіміраў прарочыць, сам не ведаючы.

— Іванавіч… Ты ж пайміі. Есьлі без балды, как у народзе гаварат, мы цібя вытaшчылі проста із сракі… у этава узкаглазава чорта. На органы он там сабіраўся цібя пусьціць ілі опыты дзелаць, хрэн ево знает, но факт ціпер тот, што ты тут. Маліся Богу і скажы спасіба. Прычом эта я не проста так здзелал, панімаеш?

Уладзіміраў ледзь чутна, з нетраў, адрыгнуў. Напэўна, добра паабедаў перад гэтай размовай, страўнік нармальна працуе. Леў сцяў дыханне.

— Не думай, што ты для нас ахерэнный герой і так далее. Ты ў сваей жызні навараціл, я дасье смaтрэл, прэдастатчна. І я цібе не ацец радной. Но. Есьць вот этат Цімур, б…, і есьць ево кантора, ісключыцельна врэданосная. Ты ево враг. А враг маево врага… ну, панятна. Так вот, он шчас там ссыт кіпятком і роет у вярхах, штоб цібя атсюда забраць назад. Павер, есьлі он заберот, цібе хана, точна. Мне сказалі, он цібя как сабаку ў падвале на цапі дзяржаў. Маньяк. Нос я сам віжу. Так вот, цяпер кішкі вынет. Бамжэй он там разьдзелывает, как бог чэрэпаху, знаеш. Паэтаму давай дагаварымся.

Дагаварымся? Леў пацягнуў балючым носам; разабрацца ў сплячэнні скразнякоў, духоў, духаў і цяжкога тла было складана.

Пагрукаўся і зайшоў сутулы палкоўнік з пахам гемарою, несучы свае мяшкі пад вачыма і дзве філіжанкі кавы, на сподачках, з цукрам-рафінадам і маленькімі лыжачкамі. Усё гэта дробна дрыжэла, і тонкі срэбны званочак празвінеў для Ільва. Увага.

— Туда стаў, — распарадзіўся Уладзіміраў і бесцырымонна прысунуў столік бліжэй да Льва.

Палкоўнік выйшаў задам, пакланіўшыся. Уладзіміраў нахіліўся яшчэ бліжэй, і разам з пажылым душком Леў раптам пачуў жорсткую драпежную сілу. Мяса. Плоць.

— Ты паможаш нам с этай дзьвіжухай — хто там у цібя, што там, усе дзела.

Дзвіжухай?

Уладзіміраў адкрыў рот, і Льву раптам заняло дых.

— Ты ж, наверна, не знаеш… Ладна, газет за пасьледнія месяцы цібе падкінут, папрашу, разьберошся. Там у Будславе твае сабралі сто тысяч народу і пайшлі галівудзіць па акруге, — Уладзіміраў

перайшоў на шэпт. — Вот штоб узялісь, у адзін кулак, і на Мінск… Чо смотрыш, як сыч, я це гавару, как есьць, ураць не буду. Народ вазбудзіўся, тут толька сьпічкай чыркні, палыхнёт. Рэфармацыя ілі дэфармацыя, смятрыце там па вашым паняціям бажэственным самі. Пагрузіліcь на транспарт і ў сталіцу. Адну ноч вашым даю. Цэнтр горада. Дварэц ево, башню, целецэнтр у Галерэі… Мы свой квартал і прэзідэнта ахраняць будзем. Вакзал, камунікацыі і таму падобнае не трогайце, а ево рабят і Каміцет масай задавіце. Сагласен, нет?

Кава, сапраўдная, ядраная бразільская кава, зыходзіла хатняй утульнасцю. Яна абуджала водар цёплай размовы дзенебудзь у Менску вечарком, брацкай рады пасля набажэнства ў нядзелю, апошняй гадзінкай перад чытаннем Бібліі і малітвай нанач. Гэты пах грукаўся ў скроні, блытаўся ў яго ў барадзе, аж да завіткоў, увільгатняў вусны і ўладна паланяў галаў.

— Еслі бы ціпер народ, каторы вас паддзержывает, каторы ходзіт с крэстамі, с флагамі, і так далее, — голас Уладзімірава стаў яшчэ цішэйшы, ледзь чутны, але ў ім Леў чуў дыханне шматтысячных грамадаў, — ты слышыш, еслі б он, і я знаю, многія тут думают а том жа… еслі б грохнуў эці канторы, как тагда ў Полацку… Паймі, тут ніхто бы не стаў нічога ніякага… Панімаеш?

Шэпт шыўся, крышыўся, курыўся. Запахла паленым.

— …Усе ево філіалы, у нас, за граніцай і так далее. На цібя і тваіх ужэ угалоўных дзел… у меня сейф забіт. Ціраць цебе ўсё раўно нечага, адзін хер. Так вот, пасмотрым, так сказаць, пад другім углом. Тваі прэкрашчают гнаць на прэзідэнта, на міня, на міліцыю… на цэркаў нашу, правасла́ўную ў смыcле, тожа папрасілі. І глаўнае — разносят эту ўсю херню. После этава, сматры, тока после этава — мы даём вам сваліць. Сколька скажэш, людзей вазьмёце, паімённа, выпусцім — хоць у Літву, хоць у Маскву, у Крым, у Рым, куда хочаш.

Лоб Уладзімірава навіс глыбай. Кропелька пота блішчэла на скроні. Пот. Пот. Грэх. Кроў у сэрцы Льва ўжо закіпела ад паху кавы, але ён не варухнуўся.

— Чэво кофе не п'ёш? Брэзгуеш? Зра. Нічэво кафеёк.

Уладзіміраў адкінуўся, адхлябнуў і нечакана падміргнуў Ільву.

— Паймі, то, чэм вы занімаецесь, у каком-та родзе палезна для гасударства. Проціў алкаголя, цэркаў, сям'я, цэннасьці і так далее. Усё такі есьць вешчы, на катарых зямля дзержыцца. А эці, чучмэкі чорные, ліберасты і ўся жыдава, каторую он прыташчыл сюда, сумашэдшыя бабкі плоціт — эта паразіты, сукі, сасут с народа кроў, іх… вытравіць атсюда нада. Нахера весь этат трэцій інтэрнацыанал, мы тут самі с усамі. Панімаеш, Іваныч. Я ж тут вырас і прожыў жызьнь. Я не хачу, как і ты, штоб Беларусь перастала быць Беларуссю.

Леў дыхаў глыбока і разумеў: зараз не хлусіць.

Калі чалавек хлусіць, ягоны дух трымціць. Дрыжыць перад Богам. Веруе і трымціць, як той бес з паслання апостала Якава. Леў адчуваў гэта заўсёды, адной слізістай. І непрыемны, горкі пах поту. Мозг ягоны, бы студзень, таксама пачынаў дрыжаць ад агіды. Не, падобна, зараз міністр не хлусіў. Але іншы пах, даўкі, прагорклы, з рота насупраць так і пёр.

— …Панімаеш? С расіянамі да, атдзельна разьберомся, усё-такі мы брацья, хто б там што не гаварыў. А шушару эту вэк.

Уладзіміраў проста тхнуў уладай. Лёсы на мыску языка. Крокі, што аддаюцца ў вечнасць. Самадавольнае пацмокванне пасля кожнага каўточку кавы.

— Но сядзець пака будзеш тут, для тваей жа безапаснасьці.

Думае, што гэтая кава распусціць у кубку кіпеню ягоную волю, як драбочкі цукру. Што пах дажджу, які прабіваецца з форткі, з волі, размые скалу, на якой ён пабудаваў сваё жыццё. Што разамлелае цела пацягне яго на дно. Леў нават чмыхнуў носам.

Уладзіміраў глядзеў на яго, і алей будучай славы, улады, магутны тлушч пераможна блішчэў у ягоных вачох. Як жа змешваліся, віліся, танчылі, клубіліся вакол яго зараз духі — і чэрці, і анёлы!.. Калі б звычайны чалавек бачыў тое, што чуў Леў, ён жахнуўся б ад відовішча дымнай гары, якая перасоўваецца разам з ім.

О, ён моцны, гэты Уладзіміраў. Ён мацней, чым бразільская кава начальніка Валадаркі. Якая горыч уліваецца зараз у сэрца згары, з горла — і якая гарачая слодыч расцякаецца ад сэрца па целе!

— Дайце мне напісаць ім. — Львіны голас, слабы, хрыплы, крохкі, спалохаў яго самога. — Тое, што мне трэба. Праз прэсу. Убачу ў газетах — паверу.

Уладзіміраў набычыў галаву, хмыкнуў.

— Не выкабенівайся, Іваныч. Урэмені нет. Да і выбара у цібя, как ты панімаіш, тожа.

— Выбар у мяне ёсць.

— У смысле, што ты можэш не сагласіцца? Назад к Цімуру хочэш? На цэп?

— Магу і на цэп.

— Какіе вы ўсе недаверчывыя… Думаеш, падстава? Я цібя выташчыў, а ты мне… Ладна. Пару дней ешчо есць. Вабшчэ-та пісьма ў нас можна, еслі што. Тока еслі чэраз прэсу — без рэвалюцыонных эціх прызываў, ну ты поняў. Сам пракантралірую, чэраз спецчасць. А то міня тут умесце з табой… Пра што мы гаварылі — нада па-ціхаму, ты ж панімаіш…

***

Леў удыхаў пах гарачай аўсянай кашы і перапечанага валадарскага хлеба. Пяшчотна, як дзіця, па каліўцы пeражоўваў разбуранымі зубамі і языком зерні. Заплюшчваў вочы перад закратаванай форткай і ўцягваў праз перагародкі раструшчанага носу паветра з волі.

Дрыготкімі ад немачы і хвалявання рукамі ён перагортваў газеты, якія ў абед моўчкі сунулі яму ахоўнікі ў кармушку. Пах газетнай паперы, не бачанай год, пах свежай фарбы разам са старонкамі калыхаліся перад ім, ён дыхаў і не мог надыхацца. Лагчына Нямігі, якая плыве людзьмі. Бездань пагаслага Віцебска са свечкамі — з далёкім, пранізлівым пахам дыму. Пагоня па бруку Навагрудка.

Перад вачыма калыхаліся дзясяткі і сотні тысячаў беларусаў, якія плачуць і моляцца ў касцёлах, плывуць шырокай ракой па вуліцах Вільні, запаўняюць бел-чырвона-белымі сцягамі Паклонную гару ў Маскве, штурмуюць каменную аграмаду Мальбарку.

Пэўна, так пахлі Скарыну першыя надрукаваныя аркушы Бібліі.

Удых. Выдых. Удых. Божа, якая насалода! Дай дыхнуць яшчэ.

Белазор на каленях каля Вострай брамы. Ксёндз Пётр вядзе імшу перад касцёлам у Зарэччы на дзесяць тысячаў чалавек. Ян Ясны спявае пад гітару хрысціянскі гімн каля віленскай Ратушы, перад ім, колькі ёсць плошчы — народ. І нарэшце — Будслаў. Тысячы і тысячы беларусаў у белым.

І пах хлеба — нават з газетных старонак.

Якія прыгожыя людзі, калі дыхаюць Богам!

Пра сябе ён не знайшоў амаль нічога. Агулам пра вязняў згадвалася мімаходзь. Патрабуюць вызвалення. Усё слушна: маладыя маюць расці, а ён малець.

Далі паперы. Пішы.

Пах чыстай паперы — свежы, светлы, дзявочы — даводзіў яго да слёзаў.

Леў соп, цяжка варочаў скалечанымі пальцамі на турэмным століку ў камеры і п'янкім чарнілам шарыкавай асадкі сцякаў на бель увесь, да апошняй кроплі.

***

Мяжа, што аддзяляла той свет ад гэтага, мела выразны пах жалеза. Зараз Леў чуў, як скрыгаталі ключы, як гахалі абабітыя металам дзверы (быццам удар





у галаву), і нават міска, што блікавала на сталe, прыцэльвалася сярпом у ягоную шыю гэтай жа вострай, захапляючай, аж казытала ноздры, мяжой.

Заскрыгатаў ключ, і яркая-яркая стужка святла з пахам волі ўспыхнула ў дзвярах.

Прагулка. Яго выводзілі на прагулку!

Пераступаючы слабымі зусім нагамі, па паўкроку, Леў трымаўся за сценку. Вертухай спачатку цішком, скрозь зубы, а потым і ўголас, матам, пачаў пакрыкваць на яго з выбухам раздражнёнага смуроду.

— Чаго ты крычыш. Не магу хутчэй. Ногі.

— А преступление совершать ноги нормальные были!

Леў матляў галавой, стараўся, цяжка дыхаў — і лавіў пахі раструшчаным носам.

Страх. Грэх. Страх. Трохі эфіру скразнячком, хтосьці ў хаце моліцца. Тут, напэўна, збівалі кагосьці на калідоры, ясны попах крыві ад сцяны. Далей цяжкі, даўкі дух. Відаць, сядзіць той, хто душыў чалавека. Стары замак, за дзвесце гадоў набрынялы духам сцятага зла, аддаваў усе пахі беларускай нянавісці, цярпення і халоднага пекла.

Калі канваір вёў яго міма камераў смяротнікаў, у насаглотку шыбанула пахам крыві. Той самай крыві, якая вапіе да Госпада.

Льва перасмыкнула. Сэрца забілася.

У запляваным бетонным дворыку Леў задраў твар угару і моўчкі, з заплюшчанымі вачыма, піў неба. Каўтаў, захлёбваўся, мармытаў малітву, выціраў слёзы і стараўся не ўсхліпваць, каб вартаўнікі не чулі. Сонца залаціла краі калодзежа, закратаванага сеткай, і мох на камянях пахнуў верасовым мёдам.

***

На трэці дзень пасля таго, як ён аддаў напісанае «Слова пра Любоў», вечарам, пад натхняльны пах бульбянога супа з бачка баландзёра, яго зноў павялі ў кабінет начальніка.

Уладзіміраў стаяў перад вакном са стосам газетаў у руках.

— Усё как дагаварываліcь. Любоў, мне самаму панравілась. Можаце ж і мірна, і па-харошаму, кагда захаціце. А кагда нада — і ў морду.

Газеты былі шмякнутыя на стол, і Льва абдало хваляй свежага ветру і друкарскай фарбы.

Загалоўкі былі як каўткі віна нагбом. «Леў Каляда жывы і піша пра любоў», «Послание Льва беларусам», «Новае слова з Валадаркі», «Белорусам — с любовью».

— Ну што, Іваныч. Я абешчал — я зьдзелал. Ціпер ты.

Леў дыхаў, гартаючы старонкі, і ліхаманкава стараўся запомніць усё, што мільгала вакол ягонага Слова. Цімур Баальбекаў пра Белазора: «Подонок з чёрной душой». Выказванні кардынала Джузэпэ Пелегрыні наконт памылак у веравучэнні руху беларусаў. Плач з касцёлаў перакінуўся на цэрквы.

Нарэшце ён падняў вочы на Уладзімірава і выдыхнуў яму ў твар:

— Мы не будзем з'яджаць. Гэта наша зямля.

Уладзіміраў папярхнуўся і хвіліну моўчкі з крывой усмешкай глядзеў на яго. Пахнула пыхай.

— Не хочаш па-харошаму, значыт. Ну есьлі так, тагда будзеш сядзець. На раднoй зямле. Нет вапросаў, Іванавіч. Зра я цібя сюда выташчыл.

Леў дыхаў на ўсе грудзі і ўдыхаў з дзвярэй волі, якія для яго зараз зачыняцца назаўжды.

— А ведаеш, Уладзімір, што сказаў Ісус, калі яго арыштавалі і прывялі да начальства, каб асудзіць на крыж?

— Ну і што ён сказаў?

— Нічога.

Уладзіміраў зморшчыўся, як быццам смярдзела зараз ад Ільва:

— Ты хочаш сказаць, што абдурыў міня? Я правёў у СМІ эту тваю чуш, штоб ты пасмяяўся? Хрысціянін такой, да? Я табе паверыў, как мужык мужыку…

— Я нічога не абяцаў.

— Кароча, панятна. Фарысеі вы і езуіты, опіум для народа. Нікагда ат вас народу пользы не была і не будзет. Поняў я цібя. Сматры сам. Я прэдупрэждаў…

# Чалавечыя сны

## З нізкі «Ваўкалак»



Ігар СІДАРУК

### Ваўчаняты

*За цаглянаю кладкай —*
*Мае ваўчаняткі.*
*Іх вачаняткі*
*Мёртвыя?*
*Па аорце —*
*Ужо не вадкая,*

*А захраслым бітумам*
*Кроў.*
*Зноў*
*Іклы помстаю*
*Спрэс налітыя;*
*На сто бітых —*
*Чатыры нябітыя.*
*На рацЬ стрэльбаў —*
*Дзесяць галоў.*

*Нашых, аднак.*
*Нашых.*
*За якія парву, аднак.*
*Ды звяду*
*На апошнюю паршу,*
*Я — ваўкалак.*

### Мёртвыя дзеці

*Я сваю скуру*
*Раздзяру ранкам,*
*Расцялю роўна,*
*Каб дастаць сэрца*
*З-пад сухіх рэбраў.*
*Вось яно: парай*
*Пасярод скуры,*
*Пасярод лесу;*
*Ваўчынаю фарбай:*
*Чырвоным на белым.*
*Чакай: шэрым!..*
*Як мая скура,*
*Як маё неба,*
*Як мае вочы —*
*Дзе сёння — смерць.*
*Дзе ўчора — смерць.*
*Дзе мёртвыя дзеці*
*Разарвуць сэрца.*
*Маё — вось гэта.*
*І падмацуюцца.*
*І абернуцца сонцам,*
*Заходнім сонцам,*
*Што ў вачадолах*
*Чорным зыркім вуглём*
*Застанецца.*
*Як вера. Як помста.*
*Як жыццежах.*

***

*Я — ваўкалак.*
*Аднак*
*Яшчэ —*
*Чалавек.*
*Рэк*
*Замарожана працьма.*
*У роце*
*Горыч.*
*Сволач!*
*Што ж ты робіш, сволач?!*
*Чаму*
*Ноччу*
*Страляеш улёт?..*

*Норд*
*Дзьме ў пысу;*
*Чалавек,*
*Усміхніся!*

*Аднак,*
*Я — ваўкалак!*

*У маіх кіпцюрах*
*Жах*
*Для тых,*
*Хто б'е пад дых*
*Ды рве*
*Цягніцы.*
*Зарыцца!*
*У мох.*
*У нару.*
*Здохну.*
*Памру.*
*І — абярнуся.*
*Бо я — застаюся.*
*І паўстану, аднак.*

*Бо я —*
*Ваўкалак.*
*Бо я —*
*Чалавек.*
*Што ў новым жыцці —*
*Як здзек.*

*Навек.*

***

*— Я толькі хацеў сказаць.*
*Я толькі хацеў паслухаць…*
*— Сядзь.*
*Завіруха.*

*— Чую, каханая, чую.*
*Так і тады было.*
*— Час — куля.*
*Прайшло.*

*— Што ж, мінулае прэч.*
*Толькі яшчэ надзея…*
*— У ночы*
*Калее.*

*— Бліжэй да агню пусціш*
*Хоць на хвіліну зноў…*
*— На вуснах*
*Кроў.*

*— Сваімі спыню. Голад*
*Прагне тваіх даўно.*
*— Холад*
*Ў вакно.*
*І месяц ляціць на дно*
*Ночы…*

*— А хочаш?*
*— Ноч — хлеб наш сірочы.*
*Маўчы.*

### Чалавечыя сны

*Мне сёння сніўся чалавек.*
*Што раптам без ваўчынай скуры*
*Паўстаў скрозь шэры брудны снег,*
*Стаяў насупраць і не бег, —*
*Адно глядзеў наўпрост панура.*

*І я тады ў яго спытаў:*
*«Чаго ты хочаш, чалавеча?».*
*І ён сярод калючых траў*
*Зваліўся і заскавытаў,*
*Як звер, выцём сваім адвечным.*

*А потым снег халодны жэр.*
*Нібы ў жыцці не еў ніколі.*
*«Я — чалавек! Не людажэр.*
*Мой брат, прашу цябе, павер!»*
*І косткай храсла рэха ў полі.*

*З-пад снегу ён тады дастаў*
*Дзіця. Не мёртвае. Жывое.*
*І пад сасцы мае паклаў.*
*І зверам зноў заскавытаў,*
*Нібы душу мне аддаваў.*



*І чорны снег — смактаў, смактаў;*
*Як і мяне — яго малое.*

***

*«Мяса дай, мяса!» —*
*Пішчаць шчанюкі.*
*Рэжу ім, ласым,*
*Часткі рукі.*

*Дакладней, лапы.*
*Разгледзець як?..*
*Я сёння вой*
*Ці ваўкалак?*

*Пуста ў люстэрку.*
*І толькі поўсць —*
*Як сімвал веры:*
*Збылося!*

*Таму й ваўчаняты*
*Пішчаць дасюль,*
*Што бацька — закляты.*
*Няўжо й ад куль?!.*

*Што ж, паляўнічы,*
*Страляй — не страляй:*
*У такім абліччы —*
*Ваўчыны рай.*

*Вось толькі малятам*
*Тыя чары — як дым.*
*Іх усіх зухавата*
*Б'юць па адным.*

*Яны ж — ад ваўчыцы.*

*А я — ваўкалак.*
*Тых куль не пазбыцца*
*Ім аніяк.*

*Таму шлях іх адзіны —*
*Ў ваўчыны рай.*
*Енчуць, нявінныя:*
*«Дай мяса, дай!».*

***

*Вечарэе. Пахне мятай.*
*Цені. Ложак. І адзенне —*
*Раптам знятым, здзертым, змятым —*
*На падлозе. Пад каленьмі —*

*Сэрца. Грукае няўклюдна;*
*Як і рухі. Непазбежнасць*
*Нас даймаць да ранняя будзе.*
*Да адчаю. Да бязмежжа.*

*Да апошняй тонкай рысы,*
*За якою — нагадаю:*
*Нам адзіным будзе выйсцем —*
*Дэпартацыя прэч з раю.*

### Куля

*У люстэрку — чорны воўк.*
*Хіжая пыса.*
*У лапах — вінтоўка.*
*Маліся,*

*Што ты — не чалавек.*
*Што я — не ваўчына.*
*Ні цурбан, ні калека.*
*Стрэл. Міма!*

*Ні ў люстэрка, ні ў скронь.*
*Брудная куля*
*Вые агоніяй*
*У рулі.*

*Яшчэ міг, яшчэ крок —*
*Жахне да бесу.*
*Трапна ў вока*
*Цэлюся.*

*Гэты енк, гэты жах —*
*Бы пад капірку.*
*У нашых ілбах —*
*Дзве дзіркі.*

***

*Вантробы — на снезе.*
*Не птушак — мае.*
*Дзень антытэзай*
*З ноччу пяе*

*Рэквіем змрочна*
*Соснамі ўвысь.*
*Хто сцежку сурочыў?*
*«Дзяржысь!»*

*Там, за палянай…*
*Далезьці, дапяць…*
*Калі выць не ў стане —*
*Не спаць!*

*Пячонку ды кілы*
*Ў кучу зграбу.*
*Астатняя сіла —*
*У збітым гарбу.*

*Нікуды не дзецца…*
*На камні — татэм.*
*Каб крышку сагрэцца —*
*Я ўласнае сэрца*
*Ем.*

***

*Дрэвы-свечкі — не з парафіну.*
*А са снегу і з нашае скуры.*
*З тых шурпатых і прывідных ліній,*
*Што свідруюць прыцемкі бурам.*

*І збіраюць подых далёкіх*
*Іншасветных, як сон, чалавечкаў.*
*Сёння лепей не лётай высока —*
*Штармавы абяцаюць вечар.*

***

*Пахне вечнасцю поўсць.*
*У нары*
*Чалавеча — мой госць.*
*Жары!*

*Не бойся, ягня не скраў —*
*Забіў*
*Хворае сярод траў.*
*З губы*

*Тлушч і свой страх зліжы.*
*Павер:*
*Воўк чалавеку зблізу —*
*Не звер.*

*Хоць розны ў вачах*
*Агонь,*
*Сціснуць тваю без жаху*
*Далонь.*

*Іклы зернем з раллі*
*Ўкладу:*
*Будзе мне воўкам, калі*
*Пайду…*

# Я. Ты. І Маўглі



Кацярына ФЯДОТАВА

«Я не ведаю, як цябе завуць і як ты выглядаеш, п'еш уранку каву з вяршкамі або без, снедаеш або не, прачынаешся рана або пасля палудня... Усё гэта не важна. Галоўнае тое, што калі ты не прыедзеш да мяне да Новага года, я скончу жыццё самагубствам. І гэта не пагроза, не вымагальніцтва, не блеф. Так і будзе. *Я* праглыну жменю лекаў або сяду на падваконне і сігану з пятага паверха... *Або яшчэ як-*небудзь сыду з гэтага свету, дзе нікому няма да мяне справы. Не трэба мяне шкадаваць... І ты павінен прыехаць не дзеля таго, *каб свет не паменеў на адну* бессэнсоўную істоту, а дзеля сябе...»

Гэты ліст быў сямнаццатым па ліку ў калекцыі Лёніка. Мужчына старанна склаў яго і запіхнуў да іншых. Да Новага года засталося мала часу.

«...у пяць гадоў я навучылася чытаць і пісаць. Сама. Бацька толькі літары паказаў. Я доўга глядзела на іх і пачала складаць словы. Адзіную кнігу, што была ў нас дома, я памятаю і сёння — «Маўглі». *У пяць* гадоў было яшчэ адно адкрыццё — Мароз прынясе падарунак, але перад гэтым трэба напісаць яму ліст. Тады я папрасіла, каб Мароз ператварыў мяне ў сінічку і я магла лётаць да бабулі ў вёску. Перад самымі Калядамі так і здарылася — я стала сінічкай і паляцела да бабулі. Ты падумаеш, што я вар'ятка... Не, ты мяне зразумееш, з табой таксама такое было. Толькі ты быў спрытным лісам або драпежным ваўком. Сінічка-невялічка і ваўчок-шэры бачок. Як у казцы...

На белым абрусе чырвоныя літары ХН, гэта значыць Хрыстос Нарадзіўся. Бабуля іх вышывала сама. Гэты Хрыстос — добры чалавек, шмат пакутаваў, таму яго трэба шанаваць.

Абавязкова трэба з'есці тры лыжкі куцці і толькі потым смажаную каўбасу. Магчыма, ты зусім інакш сустракаеш гэтае свята. Калі ты да мяне прыедзеш, то раскажаш, як...»

Інтэрнат. Пакой трыста тры. Два ложкі, стол на хісткіх нагах, два табурэты і ўбудаваная ў сцяну шафа, падзеленая на дзве паловы. Біпалярнасць ва ўсім свеце. Толькі яе Сусвет монапалярны.

Марынкі, прыгажуні-суседкі, няма. Цёмна. Не распранаючыся, не запальваючы святла, дзяўчына залазіць пад коўдру і сціскаецца. А што, калі ён так і не напіша ёй? Сапраўды трэба будзе памерці? Светка дакранаецца да сваёй шыі — цёплая. Пад скурай б'ецца кроў — гарачая. Напіша.

Убегла Марынка. Шчоўкнула святло і спуджана войкнула:

— Светка, ё-маё! Напужала! Чаго ты тут сядзіш у цемры?

— Грэюся...

— Змерзла? Ну-ну! Ну што, атрымала?

Светка толькі глыбей залезла пад коўдру.

— Я табе казала, што ўсё гэта лухта! Ніхто і ніколі табе не адкажа! Гэта немагчыма! Так усё жыццё прачакаеш пад коўдрай сваёй і памрэш пад ёй! Табе замуж трэба! Колькі гадоў табе?

— Трыццаць два.

— Трыццаць два?! — Марынка прысела на свой ложак. — Мне дваццаць пяць! А я ўжо старая!!! Я ўжо не вытрымліваю канкурэнцыю! Цяпер сама ведаеш, якія дзеўкі! Трэба спяшацца, адпавядаць часу! Разумееш?

Светка маўчыць...

У краме шмат народу. Вялікі тоўсты мужык у бабровай шапцы і штучным футры набірае поўную сумку ежы. Кожны раз, як Леанід спадзяецца, што чарга пасунецца ўперад, мужык успамінае, што не ўсё купіў. У бяздоннай сумцы знікаюць тлустыя селядцы, аліўкі ды іншая ежа, прызначаная да святочнага стала. Старэнькая бабулька ў пуховай хустцы доўга круціць у руках каўбасу, пытаецца, ці смачная, колькі ляжыць у краме, але так і не бярэ. Маладзіца з белымі валасамі перад Леанідам просіць шампанскага і цукерак, і мандарыны, і ананас, канешне, як жа, ледзь не забылася.

Нарэшце даходзіць чарга да Лёніка, ён сумна глядзіць на прадавачку, тая стомлена на яго.

— Як звычайна.

Без слоў жанчына перадае буханку чорнага хлеба і пакет малака. Закінуўшы ўсё ў паштовую сумку, мужчына выходзіць з крамы. Вецер гуляе з рэдкай гірляндай, неахайна кінутай на вітрыне. Са сметніцы цягне смуродам запаленага пакета: нехта кінуў непатушаную цыгарэту. Мінае пустую плошчу з самотнай елкай, на якой гайдаюцца папяровыя чырвоныя ліхтары, будынак райвыканкама.

Дома налівае ў шклянку малака, адразае лусту хлеба, дастае з кішэні ліст.

«...у нашым горадзе не выпадае снег. А калі і выпадае, адразу ператвараецца ў ваду. Гэта сумна. Калі мне было дзесяць гадоў, *бабуля ўпершыню адпусціла мяне на школьную елку. Перад гэтым мы рабілі мне карнавальны касцюм. Яна хацела, каб я была сняжынкай, а я хацела быць Маўглі.* Бабуля сварылася, *потым угаворвала, але я была Маўглі*. Я ўпотайкі абстрыгла валасы і намазалася сажай з печы. Бабуля сказала, што я зусім ненармальная дзіцё і невядома, як я пражыву, калі яна памрэ. Нармальна. Тады было шмат снегу. Пакуль я дайшла да школы, *сажа сцерлася, а бруд застаўся*. Настаўніца музыкі памыла мне твар, завяла ў клас і абкруціла бліскучым дожджыкам. Але я Маўглі! Ён не ведае, *што такое дожджык*...

Ты наш і не наш, з джунгляў і не з джунгляў, — казала Багіра, — а я ўсяго толькі чорная пантэра, але я люблю цябе, Маленькі Брат.

Я люблю цябе... Я ніколі не чула такіх слоў. Мне ніхто іх не гаварыў, ніколі... Таму, калі ты не прыедзеш, мне няма больш сэнсу жыць...»

Першы ліст Леанід атрымаў, калі яму было дваццаць пяць гадоў. Ён, як звычайна, разбіраў пошту і сярод лістоў мясцовага накірунку і паштовак убачыў канверт, на якім быў пазначаны дзіўны адрасат — горад Нью-Йорк. І больш нічога. Што за дзівацтва! Няўжо не зразумела, што ніколі ліст з такім адрасам не выйдзе за межы нават гэтага будынка. Нешта прымусіла Леаніда затрымацца і не кінуць ліст у зварот, можа, таму, што быў пачатак снежня, глыбокі вечар, на пошце нікога... Хлопец акуратна адкрыў канверт. З яго выпаў невялічкі аркуш, спісаны роўненькім дзявочым почыркам. У ім невядомая прасіла прыехаць і забраць з сабой у самы прыгожы на зямлі горад. Леаніду стала смешна. Ліст ён схаваў у журнал уліку, а сам паспяшаў да хаты. Там чакала прыгажуня-жонка.

Праз год Леанід зноў знайшоў такі самы ліст, але адрасам значыўся горад Дублін, самы хара́ктарны на зямлі. Ён узяў абодва лісты з сабою, каб паказаць жонцы. Тая доўга смяялася.

Яшчэ праз год прыйшоў трэці ліст, накіраваны ў Парыж, самы рамантычны горад свету. Жонка сказала, што трэба здаць гэту аўтарку ў дурдом, і нават хацела прачытаць зваротны адрас, каб дапамагчы зрабіць гэта. Лёнік не даў, схаваў ліст у кішэню, за што быў абазваны дэбілам.

Потым былі яшчэ Рым, Лондан, Піцер і Масква, Пекін... Дзесьці на аўстралійскім Канберы ад Леаніда сышла жонка. На шчасце, Закон Джунгляў навучыў Маўглі стрымлівацца, бо ў Джунглях ад гэтага залежыць жыццё. У эпоху Вены Леанід амаль напамяць ведаў Маўглі.

«...ясна, што кожны воўк пасля таго, як завядзе сям'ю, можа пакінуць сваю чараду. Бацька ажаніўся зноў і ўспомніў, што ў яго ёсць *я. Мне было дванаццаць гадоў, калі мяне зноў забралі ў горад, як казала бабуля, дзеля метраў. Тыя самыя метры спатрэбіліся новай жонцы, каб атрымаць большую кватэру. Там, паміж прыбіральняй і пакоем сына бацькавай жонкі,* была невялічкая камора, без вокан, *дзе я* і пасялілася. Ведаеш, гэта добра, што я маленькая, а то б мае ногі заўсёды тырчэлі з тапчана і ўпіраліся ў дзверы... *Ты*, канешне, хочаш ведаць, якая я... На жаль, у мяне няма фота, каб паслаць... Але я магу сябе апісаць. Я непрыгожая — *нос бульбінай, вочы вадзяніста-*шэрыя, валасы рудыя, на твары рабаціння. Яшчэ я страшэнна худая. Бабуля казала — адны шчэлепы. І малая. Але я вельмі моцная і вынослівая, бо закон Джунгляў гаворыць, што слабы будзе з'едзены. І калі ты прыедзеш, я абавязкова буду цябе ахоўваць...»

— Паслухай, Светка, пайшлі са мной! — Марынка прысела побач. — Усё-роўна, калі і прыйдзе твой ліст, то толькі заўтра. Лёнік пошту ўначы не панясе!

Светка гэта ведала, але адмоўна пахітала галавой. Тэлефон заспяваў вядомую калядную песню, і Марынка спахапілася:

— Усё, не магу цябе больш угаворваць! Віталік прыехаў! Там у шафцы варэнне бяры, мамка перадала мне, а я салодкае не ем, ты ж ведаеш. У мяне фі-гу-ра...

«...калі мне было пятнаццаць, я знайшла бацьку ў ванне з чырвонай вадой. З таго часу я не чую паху. Зусім. Гэта дрэнна і небяспечна. І тады я вырашыла выбрацца з Джунгляў і напісала табе першы ліст, *але ты не адказаў*... Бабуля сказала, што ёй таксама нядоўга засталося, *і таму* я павінна вывучыцца і кімсьці стаць. Яна не хоча зразумець, што я Маўглі! І не магу быць іншай... Але я не хацела крыўдзіць яе і стала пекарам. Бабуля ўхваліла, *сказала, што цяпер я ніколі не буду* галодная. Я пяку хлеб. Чорны. Кожны дзень. Ты любіш чорны хлеб? Я б хацела, каб любіў... Я б табе кожны дзень яго пякла — цёплы і духмяны... Я не памятаю, як ён пахне... Я не чую пахаў. Калі ты прыедзеш да мяне, ты раскажаш мне, як пахну я. *Мне здаецца, што малыя і худыя людзі пахнуць чорным хлебам, а тоўстыя* — белай булкай. Не люблю белы хлеб...»

Увесь снежань і студзень, і люты, і палову сакавіка, і калі-нікалі ў красавіку Леанід бачыць Свету, што стаіць насупраць пошты. Кожны раз, як праходзіць з паштовай сумкай каля яе, ён апускае вочы і толькі адмоўна хітае галавой — нічога няма. Света ўгінаецца і ча́пае дадому. Лёнік доўга глядзіць ёй услед. У кішэні ляжыць стос туга перавязаных лістоў.

У пакоі ціха працуе тэлевізар. У рэкламе хлопчык знайшоў пад вялікай елкай падарунак, спакаваны ў бліскучую чырвоную паперу з залатым бантам. Лёнік не любіць Новы год, як і ўсе астатнія святы. Да Новага года застаецца пяць дзён. Праз пяць дзён яе не стане, і свет паменее яшчэ на адну бессэнсоўную істоту.

«...у горадзе, дзе я жыву, ніхто не сустракае Каляды і Новы год па-сапраўднаму. *Аднойчы я хадзіла ў кіно і бачыла*, як гэта трэба рабіць... У мяне няма сваёй Чарады... А ў тых, у каго ёсць Чарада, няма разумення...

Калі ты прыедзеш, мы абавязкова паставім жывую ялінку і ўпрыгожым яе чырвонымі і залатымі шарамі, а потым засцелем на стол белы абрус з чырвонымі літарамі ХН( гэта адзінае, што я ўзяла з бабулінай хаты, калі яе не стала) і зварым Куццю. Гэта такая каша з цукрам і разынкамі. На жаль, у мяне няма печы, але мы можам сесці на ложку пад коўдрай і піць гарбату, а калі гадзіннік праб'е дванаццаць, мы павінны падарыць адно аднаму падарункі. Мой ліст атрымаўся вельмі доўгім... Гэта таму, што калі я пішу, то як быццам размаўляю з табой, а скончу ліст — і зноў застануся адна... Быць адной дрэнна... Ніхто не павінен быць адзін...

P.S. *Гэта апошні мой ліст* да цябе. Калі ты ёсць — ты прыедзеш, калі цябе няма — мяне няма таксама.»

Звесіла ногі з ложка. Села. Праз пяць гадзін прыйдзе Новы год, праз пяць гадзін трэба будзе памерці.

У цішыні і цемры прыслухалася. Нехта ідзе па калідоры. Стаіўся. Сэрца страшна закалацілася. Ціха-ціха пастукалі.

— Не замкнута.

Перад Светкай стаіць паштальён Лёнік.

— Прынёс?

— Ага.

— Дзе?

— Хадзем.

«Я абяцала больш не пісаць, але звычка — упартая рэч. Я буду кожны год слаць табе лісты і гаварыць у іх, як кахаю цябе. Я ніколі не забуду наша першае свята. Як доўга мы ішлі па пустых вуліцах, і ты трымаў мяне за руку, як адчыніў дзверы, і я ўпершыню за шмат гадоў адчула пах. *Пах жывой ялінкі.* Замест чырвоных і залатых шароў мы падвешалі на яе яблыкі і мандарыны, а на стол паставілі Куццю. *Я ніколі не забуду*, як разгарнула чырвоную бліскучую абгортку з залатым бантам і ўбачыла старую кнігу ў зялёнай вокладцы з вялікімі літарамі «Маўглі» і стос маіх лістоў да цябе, роўна сямнаццаць...

Памятаю, што якраз апоўначы выпаў снег. Як доўга мы яго чакалі... А потым змерзлі, залезлі пад коўдру і пілі гарбату з варэннем Марынкі..

Мы называем нашага сына Маўглі. На шчасце, ён падобны да цябе, бо я такая непрыгожая... Але ты заўсёды гаворыш, што мае вочы шэрыя, як азёрная вада, а валасы — як спелае жыта, а ўсё разам — гэта хлеб. Ты заўсёды любіў чорны хлеб».

# Васіль Быкаў: «Усё жыццё я

**Гутарка з народным пісьменнікам Беларусі Васілём Быкавым адбылася ў траўні-чэрвені 1995 года і, несумненна, найперш была абумоўленая часам, які перажывала Беларусь.**

**А час той вызначаўся многімі змрочна і нават роспачна: 14 траўня прайшоў ініцыяваны прэзідэнтам рэспубліканскі рэферэндум, на які сярод іншых было вынесена пытанне аб мове: ці мець расійскай мове роўны статус з беларускай (г. зн. дзяржаўны)? Большасць адсоткаў выбаршчыкаў ад тых, што ўзялі ўдзел у галасаванні, выказалася станоўча па тым пытанні... Як і наконт эканамічнай інтэграцыі з Расіяй, і змене нацыянальнай (!) сімволікі на новыя, насамрэч — старыя, трохі падпраўленыя сімвалы савецкай Беларусі... Так ці інакш, у грамадскім жыцці адбыўся чарговы крок назад: ад няпэўнай, няўстойлівай, вельмі абмежаванай паслясавецкай дэмакратыі да сумніўных каштоўнасцяў і сэнсаў існавання — як паасобных людзей, так і нацыі ў цэлым...**




***— Сёння многія скептычна ацэньваюць савецкую літаратуру, яе феномен. Скажыце, калі шчыра, — проста па-чалавечы Вы задаволены тым, што ўдалося зрабіць у літаратуры асабіста Вам?***

— Вядома, не задаволены. Мабыць, дужа шмат творчага часу патраціў на банальныя, як цяпер пагляджу, рэчы: вайсковы гераізм, які быў не болей чым часткай (і не найбольшай) вялікай вайны, на яе пакутнікаў і яе вялікае бязладдзе. А між тым, ёсць яшчэ не меней драматычныя перыяд нашай навейшай гісторыі — 30-я гады, як след не распрацаваныя нашай літаратурай (хіба адзін Мележ). Але час упушчаны, і цяпер гэта ўжо — Атлантыда, што ўсё болей хаваецца ў нябыт. Хто яе падніме на паверхню памяці? Старэйшых пісьменнікаў ужо няма, адны адышлі з гэтага свету, іншыя свой талент аддалі іншым праблемам — ачмурэнню класавай барацьбы, звыродлівым фантомам сацспаборніцтва, прапагандзе партыйных догмаў, якія шмат каго тады захаплялі. Для маладзейшых 30-я гады — тэрра інкогніта, наўрад ці яны ў ёй як след разбяруцца, хоць і глядзяць на сваіх папярэднікаў паблажліва, звысока. Мабыць, некаторым здаецца, што яўнае калабаранцтва старэйшых ішло ад невуцтва, светапоглядай абмежаванасці. У той час як усё было болей проста і болей страшна. З тагачасным камуністычным таталітарызмам, паводле слушнай заўвагі Альбэра Камю, можна было або супрацоўнічаць, або змагацца. Пісьменнікі, як вядома, кепскія змагары. Значыць, што ім заставалася? Адно супрацоўнічаць, калі яны хацелі элементарнага — жыць.

***— У Вас практычна няма твораў пра сучаснасць (апроч, бадай, апавяданняў «Бедныя людзі, «Фрузына»). Вы што, інтуітыўна адчувалі немастацкасць часу і свядома адмовіліся выказвацца пра яго мастацкім словам?***

— Для мяне час так званага застою, як бы ён ні вызначаўся эканамічна, у экзістэнцыяльных стасунках, сапраўды здаваўся немастацкім. Рэалістычнае мастацтва — выяўленчае ці літаратура — усё ж вымагае пэўнага элементу стыхійнасці, неарганізаванасці, якіх не было ў нашым дашчэнту заарганізаваным, рэгламентаваным бальшавіцкім мінулым. На вайне тае стыхійнасці было куды болей, асабліва ў партызанскай вайне, на акупаванай тэрыторыі, і туды інстынктыўна памкнуліся мае літаратурна-эстэтычныя сімпатыі.

— ...І таму ў дачыненні да сучаснасці Вы абралі не эстэтычны, а — палітычны шлях умяшання ў жыццё. Ці азначае гэта, што літаратуру вызнае ўсё-такі кандыцыя самога жыцця, і жыццё папросту можа не даць спрыяльных імпульсаў для творчасці («крызісны час»)?

— Наколькі наш час лёсавызначальны для нацыі, наколькі драматычны і «праклятны» для грамадства, настолькі ён неспрыяльны для мастацтва, для функцыянавання культуры. Крызісны час — тым усё сказана. Вядома, пасля ён дасць пэўны плён, можа быць, і плён значны, але — пасля. Як усё ўляжацца, настане нейкая пэўнасць і выразнасць, усталюецца пэўны позірк на мінулае, якім неўзабаве зробіцца наша сучаснае. Выпрацуецца пэўная эстэтыка, адпаведная густам новага часу. Пэўна, на змену ранейшай эстэтыцы, дзе ўсё ж пераважаў рэалізм (крытычны, сацыялістычны) прыйдзе які нечуваны гіпермадэрнізм. Хай! Мае ж літаратурныя густы, што склаліся пад уплывам класічнага рэалізму XIX ст., умацаваліся ў рэчышчы рэалізму XX ст., ад таго не пацерпяць, і не мне ўжо мяняць іх на штосьць нязвыклае. Позна ўжо, ды і не цікава.

***— ...І тады мастак — напрыклад, Васіль Быкаў — замяняе пісьменніцкі стол на публіцыстычную трыбуну. Ці азначае гэта, што ў жыцці мастака рана ці позна можа наспець момант, калі палітычная і грамадская дзейнасць стаецца як бы натуральным працягам яго мастацкай, эстэтычнай творчасці?***

— Я ніколі не быў палітыкам і не імкнуўся ні ў якую палітыку. І калі я цяпер час ад часу наважваюся нешта сказаць, дык толькі з тае прычыны, што цяжка змоўчаць. Мабыць, гэта ўжо недахоп майго характару — нязручнага, няздатнага, невыгоднага для сябе характару. Зайздрошчу некаторым таленавітым старэйшым, якія ўмеюць мудра маўчаць. Але што зробіш — сябе не пераробіш. Усё жыццё я імкнуўся да свабоды — у тым ліку і да свабоды асабістай, свабоды распарадзіцца ўласным лёсам, чаго, зрэшты, мне ніколі і не ўдавалася. Ды і ці магло ўдацца? Ці можна ажыццявіць якое з элементарных чалавечых памкненняў у несвабодным і бяспраўным грамадстве?

***— Як паставіліся тады, пры канцы 1960-х — у пачатку 70-х, да сітуацыі вакол Вас беларускія пісьменнікі?***

— Супраць першых выпадаў у мой адрас выступілі 62 беларускія пісьменнікі, найперш мае сябры — Вярцінскі, Бураўкін... Яны напісалі ліст у маю абарону ў ЦК КПСС. Ён, натуральна, не друкаваўся, але яны здолелі сабраць 62 подпісы. Пасля, вядома, ім дасталося, быў адпаведны працяг, але такая акцыя была... Тады, калі я жыў на Гродзеншчыне, якое б ні праводзілася «мерапрыемства» — гаспартактывы, пленумы абкама, гаркама, райкамаў і г.д., — усе яны зварочваліся на Быкава. Пакідаліся ўбаку жывёлагадоўля і выкананне планаў... Праводзілі паралелі, я быў «ідэалагічным дыверсантам». І гэта ж прадаўжалася не адзін год, гэта цягнулася недзе з 1966-га па 1974 год. Выратоўчым плыцікам, як я ўжо казаў, быў «Новый мир». Твардоўскі пасля першай публікацыі сказаў мне, што ён будзе друкаваць усё, што я ні напішу, у любым жанры. У той час гэта было неверагодна, бо калі нейкі твор тады падпадаў пад партыйную крытыку, то перад аўтарам закрывалася дарога да чытача — найперш у тым выданні, каторае яго надрукавала. Твардоўскі ж і рэдкалегія «Нового мира», наадварот, мяне падтрымалі. Памятаю, мяне моцна пабілі ў «Правде» за «Мёртвым не баліць»... Напісаў наступны твор — там жа надрукаваў, — пабілі яшчэ мацней... Напісаў «Круглянскі мост» — яшчэ мацней узяліся... Уключаліся ўсе выданні — і ў Маскве, і ў рэспубліках, абласцях, раёнах, — пісалі партызаны, героі і г.д., даваліся цэлыя развароты. Тры рэчы былі паддадзены самаму жахліваму астракізму — «Мёртвым не баліць», «Круглянскі мост» і «Праклятая вышыня». З «Сотнікавым» намеціўся нейкі паварот (да таго часу яны прыбралі з «Нового мира» Твардоўскага і расшарсцілі ўсю рэдкалегію). Твардоўскі яшчэ яго падрыхтаваў, прачытаў, але нумар падпісаў ужо новы рэдактар...

***— Ці ўзнікалі ў Вас у той час думкі пра эміграцыю?***

— Ды не. Па-першае, я быў да таго не гатовы і не думаў пра тое. Мне, прынамсі, пра гэта ніхто не намякаў. Намякалі, наадварот, на фізічную расправу. І такое было, калі нападалі на вуліцах, — крымінальнікі...

***— Хто?***

— Неяк вечарам мы з Клейнам ішлі па вуліцы, я яго праводзіў. Ля пад'езда яго дома — у цэнтры горада — трохі затрымаліся, заканчваючы размову. І тут на нас наляцелі трое здаровых дзяцюкоў. Пачалі біць. Разбілі акуляры і г.д... Прычым — моўчкі. Мы крычым: «У чым справа, за што!?». А тыя маўчаць. Потым раптам усе адсыпаліся, адзін паварочваецца і кажа: «Простите, ребята». Усё адразу стала зразумела... У міліцыю, параіўшыся, мы не пайшлі, бо адно толькі згубілі б ноч, пішучы тлумачэнні...

***— На Вашу думку, вызначаць будзе палітыка, а не культура, расейская ці то беларуская?***

— Вот іменна. І вызначаць будзе Лубянка, а не Белы Дом. Лубянка заўсёды вызначыць. Гэта ж зразумела. І тое Лукашэнка зразумеў, чаму ён перамажа Кебіча яшчэ на тых вырабах: Кебіча рыхтавалі Ельцын з Чарнамырдзіным, а Лукашэнку — іншая ўстанова. Заўсёды Лубянка перамагала, як бы яна ні называлася. Нават калі гэта быў запасны варыянт.

***— Літаратура і мастацтва ў чарговы раз адступаюць перад напорам самога жыцця?***

— У чарговы раз...

***— А што цяпер чытаецца?***

— Некаторыя рэчы вельмі хораша кладуцца на душу. Гэта тыя, каторыя найменей атаесамляюцца з літаратурай. Вот сведчанні, дакументы. Толькі што прачытаў кнігу Аскоцкага... Вот ляжыць, яшчэ не дачытаў, раман Кастуся Акулы — «Змагарныя дарогі».

***— І як ідзе чытанне?***

— Гэта — іншае. Я яго не разглядаю як раман, бо для мяне гэта найперш дакумент, сведчанне лёсу, інфармацыя, тут менш за ўсё прэтэнзіі на мастацкасць. І гэта якраз хораша, таму што я пазнаю сутнасць. Усё-такі гэта праблема нашай гісторыі. Тое, што мы называлі калабарацыянізмам і калабарантамі і адпаведна да іх ставіліся, як цяпер бачыцца, было куды больш складаней. Існавалі і калабаранты, і калабарацыя — даволі значныя на Беларусі. Я заўсёды пра гэта гаварыў. Калі ў Беларусі было каля мільёна партызан, і яны ваявалі, дык з кім жа яны ваявалі? Гэта камуністы рабілі такую падмену, што, маўляў, партызаны ваявалі быццам з немцамі. На самай справе якія немцы — у той час як фронт стаяў пад Масквой?.. Немец быў у лепшым выпадку адзін на раён, у раённай адміністрацыі. З кім жа тады ваявалі шматтысячныя партызанскія арміі? Зразумела, з кім — з паліцэйскімі фармаваннямі, каторыя, як і партызанскія злучэнні, рэкрутаваліся з беларусаў альбо з суседзяў — літоўцаў ці ўкраінцаў. Гэта ж атрымалася абсалютна спантанна — Хатынь. Трагедыю Хатыні спрабавалі аднесці на рахунак немцаў, а папраўдзе яе спаліў канкрэтны 118 украінскі паліцэйскі батальён. Дык вось, што датычыць калабарацыі: прыблізна столькі ж, колькі партызан, было і калабарантаў. І тое, што тут адбывалася, мела ўсе прыкметы грамадзянскай вайны. Нямецкія рэгулярныя войскі ў гэтую справу ўлезлі тады, як фронт падышоў да Полацка. Тады яны акружылі і зліквідавалі ўсю партызанскую зону. «Прарыў» — гэта эўфемізм: разгром быў заменены на «прарыў». Які прарыў? Прарваліся рэшткі...

# імкнуўся да свабоды»

Немцы ўмелі гэта рабіць, гэта не Чачня, партызаны для іх не ўяўлялі ніякай небяспекі... Яны іх акружылі і задушылі меней чым за месяц. Рэшткі, каторыя прарваліся з блакады, пасля хаваліся ў Селіцкай пушчы, як я пра гэта пісаў. У густых хвойках яны прывязваліся рамянямі да вершалін і там сядзелі. Ды немцы пусцілі сабак, каторыя аблайвалі дрэвы. Немец падыходзіў і даваў уздоўж ствала некалькі чэргаў... Пасля вайны, у 1947 годзе, калі я прыязджаў на радзіму, на тых хвойках яшчэ бялелі партызанскія косці, абглоданыя варанём... Вот чым мне цікавая кніга Кастуся Акулы. Я адкрываю ў ёй многае, таму што ў часе вайны тут не быў. Я бачу ў гэтым рамане найперш дакумент, сведчанне, хоць і разумею, што ў жыцці нешта магло быць трохі іначай. Тым не менш, калі гэта напісана падрабязна і шчыра, дык шмат што чытаецца між радкоў, у падтэксце.

***— Мяне ўразіла, што Вы заўсёды ведаеце, чым скончыцца твор. Ці значыць гэта, што Вы, перад тым, як сесці за стол, «выношваеце» твор?***

— Гэта натуральна. Гэта хіба ў шматтомных эпапеях, над каторымі ідзе доўгая, шматгадовая праца, у працэсе якой мяняюцца не толькі сюжэт і характары герояў, але і светапогляд самога аўтара, нельга нешта прадвызначыць. Калі я пачынаю пісаць твор, то ведаю яго канец.

***— Гэта падобна на тое, як пішацца паэзія: верш нараджаецца «ўнутрана» і затым заносіцца на паперу.***

— Гэтак жа і ў навелістыцы, кароткай прозе.

***— Дарэчы, ці захапляецеся паэзіяй, можа, спрабавалі пісаць вершы?***

— Не, паэзіяй я не захапляюся. Я люблю кароткія празаічныя рэчы. Для мяне ідэальны верш — тры страфы. Вот чаму, напрыклад, я лічу, што ідэальны гімн для Беларусі — «Магутны Божа». Доўгія рэчы я не люблю. Выключэнне, хіба, толькі «Новая Земля» Коласа, хоць яе прыцягальнасць, можа быць, не столькі ад паэзіі, колькі ад іншага чагось... У паэзіі і прозе для мяне вельмі важны лаканізм. Ёсць дзве сучасныя школы прозы — нямецкая і французская. Першая, нямецкая, вызначаецца незвычайным шматслоўем; вялікім лаканізмам — другая, французская. Я бачу, што апошнім часам у нас знайшла перайманне нямецкая школа прозы. Пішуць падрабязна і вельмі доўга. І ў нас, і ў расейскай літаратуры таксама.

***— Калі ўжо гаварыць пра беларускую літаратуру, то, напэўна, у ёй Вы маеце свае прыхільнасці. Каго б Вы маглі назваць?***

— Дасавецкі Купала, безумоўна, вельмі важны. Гэта — апостал беларушчыны, незалежна ад яго пазнейшых паводзінаў. Хоць пасля ён напісаў і фальшывыя рэчы — што ж, мы ж ведаем, як тады было жыць і пісаць — пісаў для паратунку, гэта ж адчуваецца ў радках і між радкоў. Але найбольш важна тое, што ён напісаў раней, з чыстым сэрцам, калі меў натхненне. Тое застанецца назаўсёды. Мы бачым усе яго светапоглядныя ўстаноўкі і грамадзянскія памкненні... Багдановіч, Колас, каторы пражыў больш і, безумоўна, зазнаў эвалюцыю... Можна растлумачыць і бачыць гэтую эвалюцыю.

Самае галоўнае, я лічу, — што творчасць ўсё-такі павінна быць свабоднай. Калі пясняр свабодны, то ён змагаецца і гаворыць на поўную сілу. А калі ён у нейкім палоне — найбольш у палоне ва ўлады, — то яго творчасць становіцца сумлеўнай. Улада папросту распаўсюджвае яго дэкларацыі — палоннага, — але ўсе яны фальшывыя. Нават калі ён гаворыць «праўду», то яна не можа лічыцца за праўду, бо ён робіць гэта не як свабодны чалавек. Ён робіць гэта, накшталт як закладнікі ААН у Босніі кажуць у інтэрв'ю, што там ім хараша... Яны змушаны гэта казаць, каб уратаваць жыццё.

***— У нашых гутарках, Васіль Уладзіміравіч, не адзін раз узнікалі рэмінісцэнцыі наконт «недаразвітасці народа». Вы як пісьменнік даволі хутка набылі папулярнасць і мелі магчымасць бачыць, як ставіцца да пісьменнікаў за мяжой і ў нас. Ці не было ў Вас шкадавання, што Вы — пісьменнік вось гэтага народа?***

— Юрась, я скажу, што для мяне даўно ўжо з'яўляецца праблемай само існаванне «народа»... Асабліва цяпер я пачынаю думаць, што пакуль мы шчыравалі «дзеля народа», кляліся імем народа — у нас яго ўкралі. Засталася нейкая нацыянальная эліта, а нацыянальнай, народнай асновы — не стала. Не стала народа. Я гэта гавару баючыся, як нейкае святатацтва, як у ранейшыя часы гаварылі пра д'ябла і Бога. Але сапраўды, калі мы гаворым «народ, беларускі народ» — то гэта ўвогуле абстракцыя, гэта — па інерцыі. Калі ж канкрэтней паспрабаваць сабе ўявіць: а дзе ён, гэты народ, дзе яго часткі ці хоць бы нейкая значная частка? Раней гэта было проста: існавала сялянства, яно было моўнай, культурнай, генетычнай, этнаграфічнай і г.д. асновай нацыі. Цяпер сялянства няма. Дзе цяпер сялянства? Дажываючыя пенсіянеры-калгаснікі ў вёсках ці элітныя спецыялісты ў сельскай гаспадарцы (аграномы, заатэхнікі і інш.) — хіба яны могуць уважацца за аснову нацыі? Я вельмі ў гэтым сумняваюся... Дык вось калі культурная эліта развівала культуру — для «беларускага народа», — ЗНІК САМ НАРОД. Горад, урбанізаванае насельніцтва гарадоў, — баюся, гэта ўжо не беларускі народ; яно з Беларуссю нічога агульнага не мае, апроч, хіба што, тэрыторыі пражывання. Менск — горад «беларускі» толькі таму, што ён знаходзіцца на тэрыторыі Беларусі, а ў астатнім якая яго адрознасць, скажам, ад Смаленска, Цвяры, Масквы? Чым ён ад іх адрозніваецца?..

***— Чым асабіста Вы ратуецеся: пісьмовым сталом, дачай?***

— Нічым я не ратуюся. Кідаюся так, туды-сюды, чым жа тут можна ўратавацца — у такі час? Як пісаў адзін разумны расейскі аўтар: «Старость — это одиночная камера знания». У тым, можа быць, і паратунак, — каб ведаць. Сядзець у гэткай «адзіночнай камеры ведання» і ўсё ўспрымаць належным чынам. Гэта найперш.

Для мяне параза на апошніх выбарах (*травень 1995. — Ю.З.*) — таксама вялікі боль і няшчасце, але на мяне як песіміста яна не зрабіла вялікага ўражання. Я не скажу, што яна мяне сакрушыла, разбіла — я да яе быў гатовы, не чакаў нейкай удачы...

Мы ж бачым, які хцівы звер стаіць на заднім плане. Вот Лукашэнка — гэта якраз іх чалавек. Ён так ці інакш будзе сваю справу рабіць; ён будзе рабіць яе датуль, дакуль сваім злом не даканае грамадства, нацыю. Як даканае нацыю, як нацыя стане перад выбарам: або загінуць фізічна, або выжыць і змяніць сістэму, — тады ён будзе таксама адпрэчаны.

...Час Адраджэння яшчэ не наспеў. Яшчэ толькі мы недзе робім першыя спробы, яшчэ на падступах да гэтага. І дапаможа нам у гэтым, як ні дзіўна, — Лукашэнка. З яго радыкалізмамі і фашыстоўскімі замашкамі. Ён падштурхне. Гэта той выпадак, калі, сапраўды, «чым горш, тым лепш». Гэта не значыць, канешне, што я за тое, каб ён паспяхова кіраваў: ён не можа паспяхова кіраваць; але ён вымушаны кіраваць такім чынам, таму што ён не свабодны. Ён выконвае дырэктывы і тэндэнцыі пэўных органаў, найперш расейскіх. Але скончыць ён вельмі кепска... Пэўны стан эканомікі яго ўзнёс, і гэтая ж эканоміка яго нізвергне, таму што ён з ёю не зладзіць. Зрэшты, з гэтай эканомікай не зладзіць ніхто, я ўжо гаварыў ні адзін раз. Ні Гасподзь Бог, ні анёлы не могуць упарадкаваць гэтую эканоміку, паколькі яна — параджэнне нячыстай сілы. Яна павінна памерці, ператварыцца ў тло, глебу, з якой народзіцца новая эканоміка, якая, я не ведаю, але яна павінна нарадзіцца. Нельга ж эканоміку ствараць указамі ці дэкрэтамі. Яна — жывы арганізм чалавечага існавання. І ён павінен марудна вырасці, як вырастаюць дзіця, кветка, расліна. Каб нармальна функцыянаваць у інтэрэсах людзей, нешта павінна вырасці натуральным чынам. А на глебе атручанай сацыялістычнай эканомікі такая кветка вырасці не можа...

***— Баюся, Васіль Уладзіміравіч, што каб пераадолець спадчыну сацыялізму, — тут чалавек, мусіць, не здольны нешта выправіць; тут, відаць, без другога прышэсця не абысціся...***

— Можа, і так. На гэты конт я цёмны чалавек. Я не ведаю, не магу нічога прадбачыць. Як не можа прадбачыць ніхто, хоць людзі заўсёды вызначалі пэўны накірунак. Аднак усе тыя «вызначальнікі» вельмі хутка банкрутавалі. Сёння сумленны чалавек можа толькі развесці рукамі, а калі нехта паказвае, куды «трэба» ісці, то гэта альбо авантурыст, каторы робіць тое ў карыслівых мэтах, альбо проста недалёкія людзі, каторым здаецца, што яны нешта ведаюць. На самай справе ўсё гэта вельмі цьмяна, таму што, па-першае, чалавек сам сябе не ведае, а па-другое, ён зменлівы... Здаецца, Пазаліні ці Антаніёні, нехта з іх, зняў фільм на антычную тэму, нешта з жыцця Нерона. Пасля ў рэжысёра спыталіся, што самае цяжкае: аднавіць дэкарацыі тагачаснага жыцця ці рэканструяваць псіхалогію антычнага чалавека. Ён адказаў, што самае цяжкае — аднавіць псіхалогію, таму што псіхалогія зменлівая. У мастацтве гэта ўвогуле амаль немагчыма. Элементарны прыклад, каторы прыходзіць на памяць: Сенека. Яму імператар выказаў сваё незадавальненне. Што зрабіў Сенека? Пайшоў змагацца супраць імператара? Не, ён пайшоў дамоў і выпіў цыкуту — ад таго, бачыце, што імператар яго разлюбіў...

***— Сёння мы кажам пра расслаенне нацыі; дык ці можа быць у такіх умовах універсальнай каштоўнасцю «здаровы сэнс»?***

— «Здаровы сэнс» сёння нацыяй страчаны, і гэта прыкра...

***— Нават у палякаў, якія, па сутнасці, распачалі змаганне з камунізмам у сацыялістычным лагеры — пры канцы 70-х, — зараз няма агульнанацыянальнага лідэра. Былыя камуністы цягнуць за сабой ладную частку грамадства...***

— Таму што дыферэнцыяцыя грамадства адбылася. У цэнтральнаеўрапейскіх дзяржавах былі свае супярэчнасці, але раней іх нацыі былі нечым з'яднаныя больш, чым цяпер, скажам, тая ж Польшча. Вот калі туды прыйшлі камуністы, дык, натуральна, яны перш за ўсё выкарысталі ўсе сродкі, каб нацыю раскалоць на кавалкі. Таму што толькі ў такім стане яны здольныя ўтрымліваць уладу. І яны за пяцьдзясят гадоў гэта зрабілі. А да камуністаў нацыя была з'ядная. Нават немцы, акупаваўшы Польшчу, не змаглі (ці не схацелі, як часам кажуць) стварыць там масавую калабарацыю і ўгоднае самакіраўніцтва. Гэта ж пра многае сведчыць. Праўда, там былі касцёл, рэлігія, што аб'ядноўвалі нацыю. А ў нас нават і рэлігія не можа аб'яднаць, таму што ва ўмовах дзвюхканфесійнасці якое можа быць аб'яднанне? Ды яшчэ драбленне па сацыяльным стане, нацыянальнай прыналежнасці, іншае...

***— Камунізм захапіў Беларусь суцэльна...***

— Ён, камунізм, увесь час імкнуўся трымаць народ у нейкім маналітным лагеры, не зважаючы на нацыянальнасці. Было адно вялікае дзяленне на камуністаў і беспартыйных (як у Афрыцы — на белых і чорных). У той час як камуністы валодалі ўсімі правамі і магчымасцямі, беспартыйныя не валодалі і іх палавінай... Ідэалагічны таталітарызм выхоўваўся ці не з дзіцячага садка — акцябраты, піянеры, камсамольцы... Гэта былі, па сутнасці, сапраўдныя дзяржаўныя секты, з іх унутранай ідэалогіяй і дысцыплінай. Тое было ў інтарэсах дзяржавы і партыйнага кіраўніцтва...

***— Але зноў-такі, за апошнія дзесяць гадоў «галоснасці» столькі напісана пра рэпрэсіі, ГУЛАГ, што дзіву даешся, як грамадства —«самае чытэльнае» — не баіцца паўтору таго, што было пры савецкай уладзе — вынікі апошніх выбараў сведчаць пра тое... Чаму ж людзі нічога не баяцца?***

— Яны нічога не баяцца, таму што грамадства па-ранейшаму застаецца неінфармаваным. Як вядома, на пачатку перабудовы гучала шмат патрабаванняў (з боку расейскіх дэмакратаў), каб кампартыя пакаялася ў злачынствах, адмовілася ад свайго злачыннага мінулага. Гэтага не было зроблена. Усе хрушчоўскія выкрыванні сталінізму былі частковымі, бо пералічваліся толькі імёны рэпрэсаваных маршалаў і кіраўнікоў, а пра народ — маўчалі. Таму ў масавай свядомасці рэпрэсіі так і засталіся рэпрэсіямі кіраўніцтва супраць кіраўніцтва, а не ўлады супраць народа...

Колькі Алесь Адамовіч заклікаў «дадумваць да канца»! А ў нас гэта ніяк не дадумана. Канцы і пачаткі нашай бяды дзесьці ў Кастрычніцкай рэвалюцыі, а можа, і яшчэ раней... І прычына нашай галоты не ў «разбурэнні сувязяў паміж прадпрыемствамі», а ў тым, што ў 1917 годзе адбылася жахлівая рэвалюцыя, і Расія, разам з нацыянальнымі ўскрайкамі, улучна з Беларуссю, пайшла не ў тым кірунку. Мы пайшлі абсалютна ў тупіковую галіну і ўперліся ўрэшце ў тупік. І цяпер як вярнуцца назад? Гістарычны час гэта выключае. Як зноў збочыць у агульнае русла зямной цывілізацыі — не ведае ніхто... Вот таму гэта ўсё мы і перажываем. І павінны перажыць. У гэтым сэнсе самае жахлівае — разбурэнне найбольш агульнага, боскага прынцыпу прыватнай уласнасці. З яго ўсё пачынаецца. Калі прыватную уласнасць панішчылі, панішчылася ўсё... Бо чалавек ад жывёлы адрозніваецца тым, што здольны нечым валодаць і распараджацца. Нават леў, сабака «мецяць» сваю тэрыторыю, свае ўладанні... Прырода толькі тады дасць нейкі плён, калі яна будзе камусьці належыць. А ў нас праца людзей і ўласнасць не толькі абяздушаны, але і незаконным чынам прысвоены, можна сказаць, антылюдзьмі, нечалавекамі. Пры сацыялізме ўласнасцю народа распараджалася Палітбюро, купка людзей. З гэтага пачаліся ўсе няшчасці... І таму, каб вярнуцца ў ранейшае становішча, уласнасць трэба раздаць канкрэтным людзям. Толькі як гэта зрабіць па справядлівасці? Ёсць жа ў матэматыцы задачы, якія не маюць рашэння. Баюся, што такая ж праблема зараз у нас з уласнасцю: яна не мае свайго справядлівага вырашэння — вот у чым навыкрутка...

**Юрась ЗАЛОСКА**

# Ганна КОМАР: «Калі б ка́ты чыталі кніжкі, яны б не былі такімі»

« Заканчэнне.
Пачатак на стар. 7 (1) »

А яшчэ ад жанчын чакаюць, што яны будуць добра выглядаць і мець нейкія сілы на ўласныя амбіцыі. Прытым я ні ў якім разе не супраць, калі жанчына становіцца хатняй гаспадыняй па ўласным жаданні. Фішка ж фемінізму не ў тым, каб усе рабілі адно і тое ж, а каб усе займаліся тым, што ім бліжэй. Дарэчы, феміністкай я стала, як ні дзіўна, пад уплывам мужчыны. Майго былога партнёра-прафініміста, ірландца Марка (смяецца). Мне так смешна і трошкі сорамна гэта ўзгадваць: я, аказваецца, і расісткай яшчэ была. Мы, беларусы, насамрэч няхілыя расісты: у нашым грамадстве даволі распаўсюджаны анекдоты пра нацыянальнасці, напрыклад. Я калісьці думала, што жарты пра габрэяў — гэта проста жарты. Я ж не ненавіджу іх, увогуле ніякіх прэтэнзій да іх не маю, проста паўтараю дурацкія жарты. І вось аднойчы Марк акуратна мне кажа: «Ты разумееш, што гэта расізм?»...

Я ўжо тады была актывісткай, мела шмат замежных знаёмых. Тэма правоў чалавека стала раскрывацца, зразумела, што ад усіх гэтых зняважлівых выказванняў, нават у анекдотах, трэба пазбаўляцца. Туды ж дадаўся і сэксізм. Тады яшчэ маладзейшая была, думала, што феміністкі ненавідзяць усіх мужчын. Такое прымітыўнае бачанне. Дзякуючы Марку і камунікацыі з іншымі людзьмі паціху я стала і феміністкай. Фемінізм — гэта не пра нянавісць да мужчын, а пра роўныя мачымасці для ўсіх.

***— А калі ідзеш на спатканне, ты плаціш за сваю каву?***

— Залежыць (усміхаецца). М-м-м-м, калі апошні раз я на спатканне хадзіла... Па-першае, я так рэдка хаджу на спатканні, што такой праблемы ў мяне амаль не ўзнікае. Апошнім разам было так: хлопец запрасіў мяне на абед і заплаціў. Я не была супраць, ды і было бачна, што для яго гэта натуральна. А другі раз я запрасіла яго ў кіно і купіла нам квіткі. Ён хацеў аддаць грошы, але я сказала: «Не, не трэба, я цябе запрашала». Гэта вельмі прыемнае пачуццё, калі сама магу за сябе заплаціць. Але бываюць розныя сітуацыі, напрыклад, мне «не па кішэні». І каб усе ўсё разумелі, магу адразу запытаць: «Давай удакладнім: мы плацім разам ці паасобку?». Альбо кажу: «Я хацела б сама за сябе заплаціць». І чалавек: «Не-е-е, ты што!». Ці: «Ок». Некаторых гэта крыўдзіць, мне падаецца, нават трохі палохае больш кансерватыўных мужчын. Ну, тады нам не па дарозе... Калі я не пасую табе, то ты не пасуеш мне. Правільна? Але ёсць сябры, якія плацяць за мяне. Спакойна да гэтага стаўлюся, бо яны могуць і хочуць, для іх гэта спосаб паклапаціцца пра мяне. Я ж таксама дапамагаю людзям. Вось так гэта працуе, вайны ніякай няма.



Фота Кацярыны Шараг

***— Ты калісьці ездзіла па прагарме ў Ірландыю на год. І ў пэўным сэнсе, мне здаецца, Ірландыя ма́е падабенствы з Беларуссю: гістарычныя і культурныя. Чым мы падобныя з ірландцамі?***

— Насамрэч многія былыя калоніі падобныя: іх прыгняталі, знішчалі аўтэнтычную культуру, мову. Існуе ж ірландская мова, але размаўляюць амаль усе па-англійску. І, чула, што тое, як выкладаюць ірландскую ў школах, не выклікае ахвоту яе вучыць. Руская і беларуская з адной моўнай сям'і, яны падобныя. І нават калі ты не можаш размаўляць па-беларуску, хутчэй за ўсё ты яе хаця б мінімальна зразумееш. А ірландская абсалютна адрозніваецца ад англійскай, па гучанні нават болей падобная да арабскай, мне так падалося. Таму яшчэ цяжэй. Хаця ў крамах усё на дзвюх мовах.

Чытала кнігу ірландскага аўтара пра тое, як на мове адбіваецца ландшафт. Ірландыя ж камяністая, скалы, цэлыя палі плоскіх пліт, вятры, камяністыя берагі, акіян і мора, халодныя нават летам. Гэльская мова сапраўды гэта перадае.

Ірландцы таксама ў розныя часы шмат эміґравалі. У ЗША, Аўстралію і г.д. Вельмі чакаю, што агульным для нашых краінаў будзе і масавае вяртанне. Ірландыя — моцна каталіцкая, нягледзячы на тое, што гэта адна з нешматлікіх краін, дзе легалізаваны аднаплыя шлюбы, там былі забароненыя аборты. Ірландцы доўга змагаліся за адмену гэтай папраўкі, і вось два гады таму нарэшце дамагліся галасавання. Прыляталі з усяго свету, каб выкарыстаць сваё права голасу. Вельмі хацелася б, каб аднойчы беларусы з усяго свету праляцелі, каб прагаласаваць на справядлівых выбарах!

Ну і яны многа п'юць. Збольшага, гэта ўсё, пра што магу падумаць. Карацей, агульнае ў нас — траўмы посткаланіяльнай краіны. Але мы больш ціхія, ірландцы вельмі шумныя. Як мне патлумачылі, гэта шум, якім яны спрабуюць заглушыць унутраную глыбокую тугу. Яны вельмі раскідана жывуць — горы, узгоркі. Адзінота. Раней яшчэ і гарады былі меншыя. Плюс надвор'е: шмат дажджоў, ветру, мала сонечных дзён. Цяжкая праца. П'еш і гучна сябе паводзіш — каб проста заглушыць гэтую тугу, экзістэнцыйны боль. І, можа, экзістэнцыйнай тугой мы падобныя.

Яны таксама хітра абыходзяцца з англійскай. Інкарпаруюць туды ірландскія канструкцыі. Як у нас,: быццам бы гаворыш па-руску, але ўжываеш «шуфлядка», «жменька», «тудой», «ссабойка», «байка» і г.д. У іх таксама ёсць пэўныя хітрыкі — напрыклад, ірландскія сінтаксічныя пабудовы сказа. Яны могуць ужыць няправільны для брытанскай англійскай прыназоўнік: замест «to have money with me» — «to have money on me». Таму што так у ірландскай.

***— Гэта, як у нас «смяяцца з чагосьці», і гэты прыназоўнік цягнуць і ў рускую.***

— Так! «Чего ты с меня смеёшся?» Такі хітры, партызанскі спосаб мове выжыць. Яшчэ ў Ірландыі значна вышэйшы ўзровень жыцця. А ў 1990-я краіна была вельмі бедная. У нас кантэкст іншы — СССР... А ў іх пайшло-паехала, цяпер Ірландыя — вельмі дарагая краіна. Дарэчы, тэхналогіі на высокім узроўні, падчас пандэміі нават эканамічна падняліся за кошт айці-сектара.

***— Чытала, у цябе было сумоўе для брытанскай адукацыйнай праграмы Chevening.***

— Гэта стыпендыя брытанскага ўрада. Яна даецца для атрымання магістарскай ступені лідарам у сваёй сферы, розных узростаў і з розных краінаў. Я падалася ў тры брытанскія ўніверсітэты, ва ўсе паступіла. Адзін у Лондане, праграма ад Вэстмінстара, прыгожае пісьменства — як пісаць пра горад у розных жанрах. Другі варыянт — культура і літаратура посткаланіяльных краін — у Лідсе. Трэці — прыгожае пісьменства з ухілам на паэзію — у Эдынбургу. Ну, чакаю, ці дадуць стыпендыю, бо ўсё там вельмі дарага. Спачатку думала пачакаць, калі на радзіме справы наладзяцца, але развіццё — працэс доўгі. Сітуацыя ў Беларусі можа расцягнуцца на месяцы і гады. Трэба разумець, што я гэта раблю не толькі для сябе. Чым больш нас разбураюць, тым больш круцейшыя мы павінны быць, атрымаць адукацыю і вярнуцца ў Беларусь. Не даць сябе разбурыць. Не даць сябе аслабіць. Я кажу такім камандным тонам, бо мяне, бывае, заносіць — трэба, як я. (смяецца). У мяне ёсць свае «правільныя правілы», якімі ўсе мусяць кіравацца (смяецца).

І да таго ж даўно нікуды не выязджала, а для мяне гэта крытычна важна. У замкнёнай прасторы няма адкуль браць сілы. Ну, я захрасла. І што я магу рабіць, калі ў мяне няма рэсурсу, захрасла ў гэтым ладзе жыцця, у сваіх перажываннях. І тое, што я паеду, гэта ж не азначае, што нічога не буду рабіць для Беларусі. Увогуле, рана казаць, на гэтую стыпендыю вялікая канкурэнцыя. Усё атрымаецца найлепшым чынам, часам атрымаць адмову аказваецца лепш.

***— Ты была ініцыятаркай выхаду зборніка перакладаў паэзіі Чарлза Букоўскі. Напачатку кнігі там маленькае інтэрв'ю. Журналіст пытае ў Букоўскі: «Цяпер банальнае пытанне: хто найвялікшы з жывых паэтаў?». А як ты думаеш?***

— Не, я такімі катэгорыямі не мыслю. Столькі важных і вялікіх вершаў. Я проста не разумею гэтага пытання. Табе скажуць: гэта найвялікшы паэт. І што? Прачытаеш усе яго кніжкі і будзеш спадзявацца, што жыццё тваё пасля гэтага зменіцца?

***— Можа, хтосьці ўбачыць гэтае імя ў інтэрв'ю і захоча пачытаць таго аўтара...***

— Тады можна параіць паэтаў. Але я не люблю выбіраць кагосьці аднаго. Усе, хто стаяць у мяне на паліцы, крутыя. Віслава Шымборска, Эва Ліпска, Богдан Задура... У такім парадку стаіць: спачатку польскія аўтары ў беларускім перакладзе (усміхаецца). Нашыя беларусы Наста Кудасава, Вальжына Морт, Артур Камароўскі, Крысціна Бандурына, Андрэй Хадановіч, Марыя Мартысевіч, Юля Цімафеева, Віталь Рыжкоў — усе крутыя. Англамоўныя зборнікі — не магу выбраць нават аўтара. У аднаго паэта адно падабаецца, у другога — іншае. Чытаеш верш, трапляе радок — і гэта чысты кайф.

***— Ну тады на фінал: якое пытанне ты хацела б, каб табе задалі, але гэтага чамусьці не адбываецца?***

— Блін, вось, бывае, узнікае думка: «Ну чаму пытаюць адно і тое ж, а што цікава — не». А цяпер паспрабуй прыдумай (усміхаецца). Хм... (думае). Ёсць пытанні, ад якіх мне страшна, якія я б не хацела, каб мне задавалі (смяецца).

***— Якія, напрыклад?***

— (Смяецца.) Ці верыце вы ў тое, што літаратура здольная змяніць свет да лепшага?

***— Таму што невядома, які адказ? Ці ад таго, што вядома?***

— Не хацела б сеяць песімізм, але не магу цяпер натхніць і адназначна сказаць: «Безумоўна, літаратура змяняе людзей». Таму што літаратура не можа спыніць злачынцаў, а я б вельмі хацела, каб яна магла. Калі б ка́ты чыталі кніжкі, яны б не былі такімі. Каб яны ўмелі чытаць кніжкі. То-бок сама па сабе толькі сваім фактам існавання літаратура не можа нешта змяніць.

М-м-м-м, якое пытанне я хацела б, каб мне задалі... Вялікая доўгая паўза (усміхаецца). Я ў такім нерэсурсным стане, шчыра кажучы, што і не ведаю нават. Ці будзеш ты яшчэ пісаць вершы пра каханне? (Усміхаецца.) Вось яно, можна колькі заўгодна разважаць пра філасофію, а каханне ўсё адно ўсплывае. Як бы я ні была занятая грамадска-палітычнай актыўнасцю і творчасцю, патрэба ў каханні недзе заўжды побач, асабліва ў моманты цішыні.

***— Дык што, чакаць вершы пра каханне? (У гэты самы момант за суседнім столікам хлопец цягнецца да дзяўчыны, каб пацалаваць.)***

— Вось гэта сінхранізацыя (шэптам). Ці чакаць вершы пра каханне? (Маўчыць.) Думаю, што так. Вельмі спадзяюся, што пра шчаслівае, не хачу ўжо пісаць пра іншае. Столькі ўжо напісала і перажыла. Можа, напішу аднойчы, якім паэтычным можа быць зямное каханне, без драм, без рамантычных ілюзій, неўтаймаванай жарсці, сузалежніцкай хваравітасці. Яшчэ не губляю надзеі перажыць такое каханне.

**Ганна Варонка**

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 354-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# У «Шахцёры» раптоўна звольнілі галоўнага трэнера

Сяргей КАЙКО

**Далёка ў Японіі гудуць Алімпійскія гульні, і аднойчы мы абавязкова прэпаруем тамтэйшы выступ беларускай зборнай — праз прызму медальных здабыткаў, чаканняў-прагнозаў і персанальных дасягненняў. Але зараз — зноў пра яго, пра шматпакутны наш футбол, з якім ніколі не засумуеш. Пасярод сезону тут па-ранейшаму б'е фантан — падзей, эмоцый, надзвычайных здарэнняў, якія часам ператвараюцца ў скандалы.**

Самыя гучныя медыйныя штуршкі «сейсмолагі» надоечы зафіксавалі ў Салігорску. Мясцовы «Шахцёр» раптам вырашыў змяніць галоўнага трэнера.



Фота прэс-службы ФК «Шахцёр»

Сяргей Гурэнка — новы галоўны трэнер у Салігорску

## У тры гадзіны ночы

Знешне ўсё выглядае даволі слушна. Украінскі спецыяліст Раман Грыгарчук атрымаў ад кіраўніцтва «імпічмент» пасля журботных вынікаў каманды ў еўракубках. Сапраўды, там «Шахцёр» меў надта бледны выгляд. Спачатку з трэскам вылецеў з Лігі чэмпіёнаў — двойчы прайграў у кваліфікацыі балгарскаму «Лудагорцу». А затым салігорцы ўвогуле пляснуліся тварам у бруд: спусціўшыся ў суцяшальную Лігу канферэнцый, сасупілі ў намінальна хатняй гульні ў Венгрыі сціплай камандачцы «Фола» з Люксембурга.

Лік таго матчу — 1:2, і ён не крытычны — і ўласна не ставіў крыж на далейшым еўракубкавым выступе дзеючага беларускага чэмпіёна. Сустрэча ў адказ адбылася, і чытач ужо ведае, чым яна скончылася, — ці змаглі гарнякі выправіць памылкі. Меней абазнаны аўтар такога шчасця не мае (газета адправілася ў друк да заканчэння гульні), зрэшты, і так відавочна: у Салігорску праз еўракубкавыя расчараванні моцна «бамбанула», калі там адважыліся рэзаць па жывым, не выходзячы са шчыльнага графіка.

Адметна, што форма ў гэтай гісторыі цалкам адпавядае зместу. Развітацца з трэнерам Грыгарчуком клубныя кіраўнікі вырашылі, што называецца, не адыходзячы ад касы. Пра адстаўку ўкраінскаму настаўніку было абвешчана ў раздзявальні стадыёна ў венгерскім Мішкольцы — адразу пасля ганебных 1:2 ад люксембуржцаў. Крыніцы сведчаць, што лагер салігорскай каманды звольнены трэнер пакінуў той жа ноччу — дзесьці ў тры гадзіны... Як той казаў, мог бы і пераначаваць, бо раніца мудрэйшая за вечар.

Тут, канешне, у галаву лезе адзін цікавы флэш-бек. Не, не той са старой савецкай камедыі: «Як прайсці ў бібліятэку?» — «У тры гадзіны ночы... Ідыёт!» Іншы.

У 2018 годзе пры падобных абставінах здарылася звальненне ў хакейнай зборнай Беларусі. На чэмпіянаце свету ў Даніі ў нашых хлопцаў не атрымлівалася прыкладна анічога — параза ішла за паразай і паразай паганяла. У Мінску, дзе іншых вынікаў чакалі многія — у тым ліку і галоўны заўзятар Аляксандр Лукашэнка, на бездапаможнасць ускормленых хакеістаў глядзелі з болем. І ў нейкі момант гіра дайшла да падлогі — і паступіла каманда: трэнера ў адстаўку.

Тады ў Даніі таксама стаяла глыбокая ноч. І канадскі трэнер Дэйв Льюіс таксама вырашыў не чакаць світання. Хуценька развітаўшыся з гульцамі, ён адправіўся ў бліжэйшы аэрапорт. Што характэрна — на таксі, як гайдаеўскі Сямён Сямёныч.

Беларускім хакеістам шокавая тэрапія тады аніяк не дапамагла. Абрушаная ў штопар, зборная прайграла на ЧС усе сем матчаў і вылецела з элітнага дывізіёну.

Як паўплывае гучная трэнерская адстаўка на далейшую гульню салігорскага «Шахцёра» — пытанне пакуль адкрытае.

## Трэцім будзе

Такая падкрэсленая хуткасць на расправу — гэта нешта накшталт прыкметы часу ў спартыўнай Беларусі. Бо тое ж вышэйшае кіраўніцтва гэткім чынам прыбірала не толькі хакейнага трэнера Льюіса, але і цэлага міністра спорту. У тым жа 2018-м, калі падчас зімовай Алімпіяды ў беларусаў валіліся справы з рук, Лукашэнка не стаў трываць — і пазбавіў міністэрскай пасады Аляксандра Шамко, не чакаючы развітальных салютаў у карэйскім Пхенчхане.

Аналагічна любіў памахаць шабляй у футбольным мінскім «Дынама» Юрый Чыж. Набліжаны да ўладаў бізнесовец валодаў сталічным клубам цалкам, нібыта гіпермаркетамі «Прастор». Яго кадравую палітыку ў футболе вызначала менавіта гэта — бурлівая цякучасць імёнаў на пасадзе галоўнага трэнера.

Спартыўная прэса кпіла з таго і вяла ўлік, і прыдумляла цэтлікі. Улік перапыніўся недзе каля адзнакі 30 — прыкладна столькі трэнераў прайшлі праз «Дынама» цягам дваццаці чыжоўскіх сезонаў, а ў журналісцкім асяродку добра прыжылося азначэнне «травеньскае абвастрэнне» — у трэцім месяцы вясны Юрый Аляксандравіч няяк прызвычаіўся выпускаць пару метадам дзяжурнай адстаўкі чарговага спецыяліста.

Чым усё скончылася — вядома. У сітуацыі пастаяннага «штармавога папярэджання» «Дынама» так і паўстала на ўстойлівы шлях перамог. Адно-адзінае чэмпіёнства і адзін-адзіны Кубак краіны — вось і ўвесь умалот клуба эпохі звышыплывовага прадпрымальніка. І ў нейкім сэнсе не дзіва, што аднойчы — калі быць дакладным, то ў 2019 годзе, — футбольны клуб у Чыжа забралі і, наўпрост кажучы, «нацыяналізавалі».

Гэта ўсё да таго, што, падобна, тыя ж хісткія рэйкі апошнім часам абраў і «Шахцёр». І звальненне ўкраінца Грыгарчука тут — толькі адзін з прыкладаў, які цудоўна ўпісваецца ў яскравы трэнд.

За чатыры з паловай гады — калі браць з пачатку 2017-га — у Салігорску паспелі скасаваць кантракт ужо з пяцю галоўнымі трэнерамі. Тры з іх — акрамя Грыгарчука, гэта іншы ўкраінец Юрый Вернідуб і беларус Алег Кубараў — сталі беспрацоўнымі таксама праз еўракубкавыя чыннікі. Прычым ва ўсіх выпадках гэтаму спадарожнічаў бездакорны выступ каманды ў нацыянальным чэмпіянаце — яна ішла на першым месцы ў табліцы. І, мабыць, тут ужо варта казаць пра нейкае летняе абвастрэнне — і заадно наракаць на клубны менеджмент, які ў адстаўцы трэнера бачыць вырашэнне ўсіх праблем.

## Шосты прыйшоў

Шостым рулявым неспакойнай салігорскай каманды пагадзіўся стаць Сяргей Гурэнка — 48-гадовы трэнер з бліскучай кар'ерай футбаліста. Пагуляць яму сапраўды давялося на элітным узроўні: у Расіі, дзе ў маскоўскім «Лакаматыве» ён стаў легендай, у Італіі — там ураджэнец Гродна гойсаў за «Рому», «Парму» і «П'ячэнцу», у Іспаніі — след беларус пакінуў у «Сарагосе». 80 матчаў за нацыянальную зборную, дзе ён да ўсяго быў сталым капітанам, — адзін з найлепшых паказчыкаў у гісторыі суверэннага футбола.

Іншая справа, што на трэнерскай ніве ў Гурэнкі атрымліваецца заўважна горш. За дзясятак гадоў у прафесіі ён узначальваў амбітныя клубы кшталту мінскага «Дынама», аднак пакуль так і не здабыў аніводнага тытула.

Зрэшты, у Салігорску, як падаецца, за гэтым заржавее. Моцы ў «Шахцёра» зашмат, і нават БАТЭ не ў стане даць яму рады. У нядзелю, напрыклад, барысаўчане маглі скарыстацца тым, што чэмпіёны чарговы тур прапускалі — зноў перанеслі каляндарны паядынак «на потым». Перамагай у родных Пячах — ды хоць часова, але ўзначальвай пелетон. Дзе там: БАТЭ нечакана зліўся ў гульні з брэсцкім «Дынама».

Так што сумневаў у другім запар золаце самага заможнага клуба краіны стала яшчэ меней. А вось над будучыняй айчыннага футбола па-ранейшаму навісаюць хмары, і пасля сыходу з «Шахцёра» Рамана Грыгарчука яны толькі згусціліся. Бо на развітанне ўкраінскі спецыяліст шчыра выказаўся пра бягучую беларускую рэчаіснасць — і, у прыватнасці, пра тое, як яна ўплывае на камплектаванне каманды.

*«Складанасці,* — адзначыў звольнены ўраджэнец Галічыны, — *былі звязаныя з санкцыямі... Футбалісты проста не хочуць ехаць у Беларусь. У іх узнікае занадта шмат пытанняў і праблем. Мы пачынаем цікавіцца тым ці іншым гульцом, а яго ні фінансы не цікавяць, нічога іншага. «Беларусь? Не, я не еду». У такім становішчы праводзіць эфектыўную селекцыйную працу неверагодна складана».*

Вось яно як: міжнародныя санкцыі запрацавалі нават у беларускім футболе.

## Чэмпіянат Беларусі

**ТУР 17. 23.07.** СПАДАРОЖНІК (Рэчыца) — ГОМЕЛЬ — 0:3 (тэхнічны вынік). РУХ (Брэст) — МІНСК — 1:0 (565; Грачыха, 53). **24.07.** НЁМАН (Гродна) — СЛУЦК — 1:0 (725; Зубовіч, 86). ДЫНАМА (Мінск) — ВІЦЕБСК — 3:1 (1660; Ложкін, 38; Бацула, 72, У.Клімовіч, 81 — Ксенафонтаў, 61). **25.07.** СМАРГОНЬ — ІСЛАЧ (Мінскі раён) — 1:2 (1150; Пасевіч, 60 — Р.Лісаковіч, 6, Дзібанга, 80). БАТЭ (Барысаў) — ДЫНАМА (Брэст) — 0:2 (3761; Сядзько, 70, Міloцін, 73).

Матчы «Шахцёр» (Салігорск) — «Энергетык»–БДУ (Мінск) і «Тарпеда»–БелАЗ (Жодзіна) — «Славія» (Мазыр) перанесены на пазнейшы тэрмін. Рэчыцкаму «Спадарожніку», які зняўся з чэмпіянату, залічана тэхнічная параза з лікам 0:3.

**ТУР 18. 30.07.** Энергетык–БДУ — Рух. **31.07.** Смаргонь — Славія. **1.08.** Слуцк — Дынама Мн., Гомель — БАТЭ. **2.07.** Іслач — Шахцёр, Дынама Бр. — Нёман, Віцебск — Тарпеда–БелАЗ.

| | | Г | В | Н | П | М | А |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1. | Шахцёр | 14 | 13 | 1 | 0 | 32–7 | 40 |
| 2. | БАТЭ | 17 | 12 | 3 | 2 | 35–15 | 39 |
| 3. | Дынама Мн. | 17 | 11 | 2 | 4 | 32–12 | 35 |
| 4. | Рух | 17 | 9 | 6 | 2 | 25–12 | 33 |
| 5. | Гомель | 16 | 9 | 4 | 3 | 32–14 | 31 |
| 6. | Дынама Бр. | 17 | 6 | 9 | 2 | 21–10 | 27 |
| 7. | Віцебск | 17 | 5 | 8 | 4 | 20–15 | 23 |
| 8. | Мінск | 16 | 5 | 6 | 5 | 22–26 | 21 |
| 9. | Энергетык–БДУ | 16 | 5 | 5 | 6 | 21–21 | 20 |
| 10. | Іслач | 17 | 5 | 5 | 7 | 22–27 | 20 |
| 11. | Тарпеда–БелАЗ | 16 | 5 | 4 | 7 | 16–24 | 19 |
| 12. | Слуцк | 17 | 3 | 5 | 9 | 18–30 | 14 |
| 13. | Нёман | 17 | 2 | 6 | 9 | 13–25 | 12 |
| 14. | Славія | 16 | 2 | 4 | 10 | 17–32 | 10 |
| 15. | Смаргонь | 17 | 1 | 5 | 11 | 13–38 | 8 |
| 16. | Спадарожнік | 17 | 2 | 1 | 14 | 12–43 | 7 |

30 ліпеня 2021 | № 29 (737) Новы Час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ПОЛЬШЧА. Рух у саюзную дзяржаву?

Польскі часопіс Polityka падзяліўся «сенсацыяй». Калі верыць выданню, кіруючая ў краіне партыя «Права і Справядлівасць» (PiS) шукае магчымасці, каб зрабіць перазагрузку адносін з Расіяй.

Рабіць такія рухі партыю Яраслава Качынскага, мабыць, прымусілі апошнія канфлікты з кіраўніцтвам Еўрасаюза. Як вядома, цяперашняя Варшава прынцыпова адкідае каштоўнасці еўрапейскай супольнасці і выбірае традыцыйныя, блізкія да тых, якія прасоўвае Расія. Перш за ўсё ў пытанні адносна правоў прадстаўнікоў ЛГБТ. Калі верыць выданню, лідары ЕС таксама не ў захапленні ад польскіх чыноўнікаў, паколькі, у сваю чаргу, ужо цяпер лічаць іх латэнтнымі агентамі Масквы, якія разбураюць еўрапейскае адзінства.

Зрэшты, трэба нагадаць, што Polityka — леваліберальнае СМІ, якое заўжды жорстка крытыкавала адміністрацыю PiS, дапускаючы ў запале шматлікія спекуляцыі.

**Паводле польскай прэсы**

### ЗША. Індзейцы і ваўкі

Стаў вядомым яшчэ адзін супярэчлівы ўчынак, які Дональд Трамп зрабіў у часы сваёй прэзідэнцкай кадэнцыі. Аказваецца, ён, акрамя ўсяго іншага, выключыў ваўкоў са спісу жывёл, якіх павінна абараняць дзяржава.

Цяжка зразумець, якімі матывамі кіраваўся экс-прэзідэнт, аднак у ЗША пачалася кампанія за адмену таго рашэння. Яе франтмэнамі выступаюць шматлікія арганізацыі індзейцаў, якіх, па іх словах, пастанова Трампа вельмі пакрыўдзіла.

Справа ў тым, што вобраз воўка — вельмі важная частка індзейскай культурнай традыцыі. Шмат плямёнаў у Злучаных Штатах лічаць гэтага драпежніка сваім сімвалам, і таму, як ім падаецца, яго папуляцыю федэральны ўрад абавязкова павінен абараніць.

Кампанія ў абарону шэрых аказалася дастаткова рэзананснай. Не толькі таму, што шмат экалагічных арганізацый падтрымалі чырванаскурых. Днямі высветлілася, што прэзідэнт Джо Байдэн таксама пра яе нешта чуў. «Што тычыцца абароны ваўкоў, я ў курсе», — сказаў амерыканскі гарант падчас сустрэчы з журналістамі.

**Паводле амерыканскай прэсы**

### УКРАІНА. Зяленскі супраць карыкатур



Фота www.bbc.com

У Кіеве здарыўся незвычайны скандал. Адна з мясцовых бібліятэк прыбрала з мастацкай выставы карыкатуры на дзеючага прэзідэнта Уладзіміра Зяленскага, якія намаляваў Алег Смаль.

Сваё рашэнне кіраўніцтва патлумачыла тым, што «сярод наведвальнікаў шмат тых, хто абраў і да гэтага часу падтрымлівае цяперашняга прэзідэнта — і таму востра рэагуе на падобныя рэчы». Сам аўтар выстаўленых карцін абвінаваціў бібліятэку ў тым, што яго працы прыбралі без папярэджання, і заклікаў аматараў сваёй творчасці больш не наведваць выставу.

На гэтым гісторыя не скончылася. Скандальна вядомы апазіцыйны дэпутат Аляксей Ганчарэнка знайшоў у тым, што адбылося, магчымасць для антыпрэзідэнцкай правакацыі — заклікаў зрабіць так, каб карыкатуры дайшлі да адрасата. «Заходзьце на старонку Зяленскага ў Фэйсбуку і кідайце карцінкі ў каментары пад апошнім допісам», — прапанаваў палітык.

У нечым, напэўна, яго акцыя мае сэнс. Усе папярэднія ўкраінскія прэзідэнты да Зяленскага папросту ігнаравалі або іранічна ставіліся да жартаў на свой адрас.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### ГЕРМАНІЯ. Беражыся блакітнавокіх

Бландзін з блакітнымі вачыма. Прыкладна так выглядаў стандарт сапраўднага арыйца ў часы Гітлера. Падаецца, цяперашнія барацьбіты з дыскрымінацыяй узгадалі гэты прынцып — і пачалі разглядаць блакітнавокіх як нейкую катэгорыю людзей, што патэнцыйна маюць большую за іншых цікавасць да праварадыкальных вучэнняў.

Прынамсі, нямецкая газета Junge Freiheit піша пра дзіўныя семінары для жаўнераў Бундэсверу. У іх рамках прысутных дзеляць на дзве групы: блакітнавокія і іншыя. Пасля апошнія павінны здзекавацца з блакітнавокіх. Мэта сеансу — блакітнавокія павінны адчуць сябе напужанымі і зганьбаванымі, як мігранты.

Гледзячы па ўсім, выпрацаваны на семінарах комплекс у будучыні павінен блакаваць жаданне блакітнавокіх немцаў дыскрымінаваць нейкія меншасці, што, у сваю чаргу, паменшыць пагрозу расізму ў грамадстве. Вось такі незвычайны метад. Калі ён спрацуе, то, напэўна, наступнымі будуць бландзіны.

**Паводле нямецкай прэсы**



Фота ATTA KENARE/AFP VIA GETTY IMAGES

# Калі ў кране няма вады…

Алег НОВІКАЎ

**Іран сутыкнуўся з хваляй маштабных акцый пратэсту, справакаваных вострым недахопам звычайнай пітной вады.**

Антыўрадавыя пратэсты і беспарадкі ў Іране — дастаткова частыя з'явы. Аднак цяперашні бунт не падобны да папярэдніх. Па-першае, патрабаванні пратэстоўцаў — вельмі апалітычныя. Людзі патрабуюць не сістэмных палітычных рэформаў, а рашэння самых прымітыўных побытавых праблемаў — даць ваду і святло.

Так здарылася, што з прычыны моцнай засухі і зменаў клімату бягучы год выдаўся ў Іране самым засушлівым за апошнія 50 гадоў. Трацiна з 304 гарадоў у Іране адчувае востры недахоп пітной вады. Аб'ём вады на плацінах Ірана таксама знізіўся амаль на 28%. Гэта выклікала дэфіцыт электраэнергіі. Ад пачатку лета ў Іране электраэнергія падаецца з перапынкамі, па некалькі гадзін на дзень. Да таго ж варта згадаць, што краіна і так перажывае беспрэцэдэнтны эканамічны крызіс, які пагоршыўся з-за пандэміі каронавіруса.

Па-другое, цэнтр паўстання знаходзіцца не ў традыцыйна вельмі палітызаванай метраполіі, а на перыферыі. Хваляваннямі ахоплена паўднёва-заходняя правінцыя Хузістан, жыхары якой асабліва ў палітыку не лезлі праз адносную заможнасць. Хузістан — цэнтр развітой сельскай гаспадаркі і нафтавай індустрыі. Крытыка на адрас Тэгерану не выходзіла, як правіла, за межы характэрных для амаль усіх правінцыялаў наездаў на цэнтр, які, маўляў, смокча з перыферыі ўсе сокі.

Напэўна таму рэакцыя ўладаў на «вадзяны бунт» адносна мяккая. Замест таго, каб у звыклым для сябе стылі стыгматызаваць маніфестантаў як «пятую калону ЗША» ці «агентаў Ізраіля», улады выкарыстоўваюць не занадта агрэсіўныя маўленчыя абароты.

Напрыклад, прэзідэнт Ірана Хасан Рухані ў сваёй заяве падкрэсліў неабходнасць паважаць права людзей пратэставаць супраць суровых умоў жыцця, выкліканых «скразнякамі і моцнай спякотай». Гарант таксама запэўніў «добрых, цярплівых і жыццярадасных жыхароў правінцыі» ў тым, што яго ўрад чуе іх голас — і робіць усё магчымае, каб у самыя хуткія тэрміны вырашыць праблему недахопу вады.

Між тым, нягледзячы на спробы супакоіць Хузістан, увесь мінулы тыдзень напружанне ў правінцыі расло, як гаворыцца, па экспаненце. Многія СМІ пісалі, што сілы бяспекі вялі агонь па пратэстантах. У адным з такіх сутыкненняў, нібыта, загінулі сем чалавек, а многія маніфестанты былі параненыя. Вядома і пра сур'ёзныя раненні паліцэйскіх.

Відавочна, што падача інфармацыі ў незалежных і афіцыйных медыя істотна адрозніваецца. Ва ўрадавых СМІ Ірана паведамляюць як мінімум пра трох загінулых цывільных жыхароў і аднаго паліцэйскага. Але пры гэтым афіцыёз акцэнтуе ўвагу, што ў гібелі грамадзян вінаватыя тэрарысты, а не паліцыя, якая, як сцвярджаецца, наадварот, вельмі памяркоўна ставілася да дэманстрантаў.

Прапануецца і свая версія прычын смерці цывільных асоб. Згодна са справаздачай паліцыі, у горадзе Шадэган 30-гадовы мужчына загінуў з-за таго, што нейкія кепскія людзі схаваліся ў натоўпе і адкрылі агонь па сілах бяспекі. У выніку сілавікам давялося таксама ўжыць зброю. Пры гэтым куля выпадкова трапіла ў згаданага небараку. «Стральбу адкрылі правакатары, яны затрыманыя і будуць прыцягнуты да адказнасці», — паведамляе іранская паліцыя.

У прыватнасці, сярод вінаватых у гібелі людзей называюць «Арабскі рух барацьбы за вызваленне Ахваза». Гэтая сепаратысцкая групоўка шмат гадоў выступае за аддзяленне Хузістана ад Ірана на падставе таго, што ў правінцыі пражывае досыць вялікая група этнічных арабаў. Менавіта Хузістан стаў адной з прычын васьмігадовай вайны паміж Іранам і Іракам у 1980-я гады.

Сінхронна з прамыўкай мазгоў у Хузістан высунуўся Корпус вартавых ісламскай рэвалюцыі — самая эфектыўная і адданая рэжыму структура ў краіне. У правінцыю ўжо прыбылі дзве першыя аўтакалоны вадавозаў, адпраўленых Корпусам з іншых раёнаў. Чакаецца, што дапамогу жыхарам акажуць і рэгіянальныя штабы па забеспячэнні маламаёмасных.

Зрэшты, мала хто ў Іране разлічвае на здольнасць дзеючай адміністрацыі Хасана Рухані выправіць сітуацыю, паколькі яму засталося займаць пасаду прэзідэнта нядоўга. 5 жніўня адбудзецца інаўгурацыя новага прэзідэнта краіны Ібрахіма Раісі.

Напэўна, самае непрыемнае для ўладаў — тое, што дэфіцыт вады простыя іранцы часта звязваюць з наступствамі знешнеэканамічных санкцый. Ірану не хапае рэсурсаў для наладжвання інфраструктуры пастаўкі вады ў той жа Хузістан з-за рэжыму эмбарга.

Такі стан рэчаў лагічна падштурхоўвае Тэгеран быць больш падатлівым на перамовах у рамках так званай «Ядзернай здзелкі» — паслабленне санкцыйнага ціску ў абмен на адмову ад ядзернай праграмы. Але саступкі Захаду ў народзе могуць расцаніць як дэманстрацыю слабасці рэжыму, не кажучы ўжо пра тое, што гэта ўдарыць па прэстыжу Ібрахіма Раісі, які мае імідж архікансерватара.

Таму можна пагадзіцца з тымі экспертамі, якія кажуць, што Тэгеран трапіў у вельмі няпростую сітуацыю. Асабліва калі прыгадаць эвалюцыю лозунгаў папярэдніх буйных пратэстаў у 2019–2020 гадах. Усё пачыналася з-за незадаволенасці павышэннем коштаў на бензін, а скончылася патрабаваннямі змены палітычнага рэжыму.

# Нашто дыктатарам Канстытуцыя?

Алег НОВІКАЎ

**«Фіктыўны дакумент, каб штучна стварыць хоць нейкую легітымнасць уладзе», — звычайна так шмат хто ставіцца да Канстытуцыі, якая прымаецца і дзейнічае ў аўтарытарных краінах. На справе ж гэты феномен больш складаны, і самае цікавае, што тыя Канстытуцыі таксама небяспечныя для ўладаў.**



Фота www.kommersant.ru

Быў такі стары добры савецкі анекдот пра мужчыну, які заходзіць у рэстаран і праглядае меню. «Я вазьму курыцу», — кажа ён. У адказ афіцыянт тлумачыць, што ў рэстаране няма курыцы. Мужчына просіць прынесці рыбу, якая таксама пазначаная ў меню. Яму адказваюць, што і рыбы няма. Гэта тычыцца ўсіх страў, якія просіць кліент. У выніку засмучаны мужчына кажа: «Я думаў, што ў вас меню, а не Канстытуцыя!»

Жарт адлюстроўвае звычайнае ўспрыманне Канстытуцыі ў аўтарытарных краінах — як бессэнсоўнага кавалку паперы, які не мае ніякай іншай функцыі, акрамя як стварыць ілюзію легітымнасці дзеючай адміністрацыі. Аднак пры гэтым ёсць адна відавочная супярэчнасць. Абсалютна фармальныя канстытуцыйныя акты прымаюцца часам вельмі доўга і старанна. Напрыклад, вайсковаму рэжыму ў Бірме (цяперашняя М'янма) спатрэбілася 17 гадоў (!), каб скласці тэкст Асноўнага закона. Прычына вельмі простая: бірманскія генералы абяцалі, што прыняцце Канстытуцыі стане пачаткам вяртання краіны да грамадзянскага кіравання. Не дзіўна, што яны асабліва не спяшаліся.

Так ці інакш, гэты прыклад даводзіць, што Канстытуцыя ў аўтарытарных краінах — пры ўсёй фармальнасці напісаных у ёй артыкулаў — таксама важны палітычны інструментарый.

Натуральна, такая Канстытуцыя перш за ўсё з'яўляецца сродкам хоць нейкай легітымацыі — у тым ліку на знешнепалітычным кірунку. Напрыклад, у 2005 годзе пад ціскам Захаду егіпецкі прэзідэнт Хосні Мубарак прапісаў у тэксце Асноўнага закона пункт пра свабодныя выбары кіраўніка дзяржавы.

Заходнія дэмакраты пляскалі ў ладкі, пакуль тую канстытуцыйную папраўку Каір не дэталізаваў дадатковым законам. Паводле яго, кандыдатамі ў прэзідэнты маглі быць толькі прадстаўнікі палітычных партый, якія мелі больш за пяць працэнтаў дэпутатаў у кожнай палаце парламента. Гэтаму патрабаванню адпавядала толькі адна партыя — натуральна, партыя Хосні Мубарака. У выніку ён быў зноў вылучаны — і, паколькі адсутнічалі канкурэнты, лёгка атрымаў на выбарах «элегантную перамогу».

Напэўна, з той жа оперы папраўка ў Канстытуцыю Кітая ў 2004 годзе, калі туды былі ўнесеныя змены, датычныя прынцыпу тых, хто можа стаць актывістам Камуністычнай партыі. У новай рэдакцыі гаворыцца, што Кампартыя Кітая таксама з'яўляецца партыяй бізнесменаў. Гэтая папраўка была відавочным сігналам для замежнай прадпрымальніцкай аўдыторыі.

Яшчэ адзін важны момант — такія Канстытуцыі дапамагаюць скаардынаваць працу інстытутаў і надаць ім нейкую субардынацыю. Гэтая функцыя можа стаць надзвычай важнай у выпадку крызісу аўтарытарных рэжымаў. Канстытуцыя прадухіляе выхад канфлікту з-пад кантролю над базавымі ўстановамі. Прасцей кажучы, калі з дыктатарам нешта здарылася, усе паўнамоцтвы пераходзяць — згодна Канстытуцыі — да прэм'ера, спікера парламента ці кагосьці яшчэ. Гэта неяк стабілізуе сітуацыю.

Так, напрыклад, было ў Тунісе ў 2011-м. Пасля таго, як пад ціскам вуліцы з краіны збег прэзідэнт Бен Алі, яго фатэль заняў кіраўнік парламента. Праўда, каб утрымацца на пасадзе, новы прэзідэнт быў вымушаны абяцаць і правесці вольныя выбары.

Але найбольш парадаксальна — тое, што аўтарытарныя Канстытуцыі з'яўляюцца мінамі пад сістэмай. Не толькі таму, што працэс прыняцця не выключае непрадказальных хібаў.

Абсалютна нечакана многім грамадзянам СССР у 1977-м не спадабалася тагачасная канстытуцыйная рэформа. Не таму, што там нешта моцна змянілася. Якраз наадварот — у новай версіі амаль усё засталося, як было і раней. Незадаволенасць на кухнях і ў курылках выклікала тое, што адначасова з рэформай са святочнага календара на тры гады знік выходны — Дзень Канстытуцыі.

Як сведчыць гісторыя, аўтарытарныя Канстытуцыі вельмі часта дапамагаюць аб'яднаць рэсурсы апазіцыйных партый. Практычна ўсім апанентам улады на пэўным этапе патрэбная новая Канстытуцыя. На гэтай глебе правадыры апазіцыі могуць лёгка знаходзіць кансэнсус.

Але самае цікавае — тое, што Канстытуцыі ў аўтарытарных краінах былі і застаюцца нейкай негалоснай рэкламай дэмакратычных каштоўнасцяў. Шмат дысідэнтаў ва Усходняй Еўропе ў 70–80-я гады мінулага стагоддзя патрабавалі ад уладаў рэалізацыі напісаных у Канстытуцыі артыкулаў, якія фармальна гарантавалі грамадзянскія правы і свабоду слова. І нездарма ў цяперашняй звышцэнтралізаванай пуцінскай Расіі папулярны жарт, што Канстытуцыя РФ, якая дэкларуе федэратыўныя прынцыпы расійскай дзяржавы, — гэта самы крамольны тэкст.

Такі парадокс: навязваючы людзям свае Канстытуцыі, аўтакратычныя лідары часта матывуюць думаць пра новае, альтэрнатыўнае грамадства.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Пітэр Бутыджыч



Мяркуючы па ўсім, менавіта міністр транспарту ЗША будзе прадстаўляць краіну на саміце ініцыятывы «Крымская платформа» — новай пляцоўцы для перамоў па вяртанні Крыму ў склад Украіны, якая павінна пачаць працаваць 23 жніўня ў Кіеве.

Украінскія ўлады надаюць гэтай ініцыятыве вялікае значэнне — і на першы погляд Бутыджыч годны такой місіі. Ён з'яўляецца даволі ўплывовай палітычнай фігурай у амерыканскіх урадавых колах. Але Бутыджыч таксама вядомы тым, што стаў першым міністрам у гісторыі ЗША, які адкрыта заявіў пра сваю гомасексуальнасць. Сексуальная арыентацыя магчымага прадстаўніка амерыканскай дэлегацыі выклікала шквал абурэння ўкраінскай, традыцыйна вельмі кансерватыўнай, грамадскасці. Некаторыя нават заяўляюць, што, улічваючы дадзеныя абставіны, уся «Крымская платформа» ператвараецца ў прафанацыю.

Ухапілася за тэму і прарасійская апазіцыя. Яе спікеры сцвярджаюць, што, пасылаючы ў Кіеў міністра-гея, Вашынгтон паказаў сваё грэблівае стаўленне да «Крымскай платформы».

Відавочна, што ніякага асаблівага намеру ў тым, што Бутыджыч паедзе ў Кіеў, няма. Але на ўспрыманне мерапрыемства яго ўдзел, відавочна, паўплывае. Асабліва, калі амерыканскі міністр заявіцца на мерапрыемства са сваім партнёрам.

### Захар Прылепін



Пайшлі чуткі, што пісьменнік і сустаршыня левапатрыятычнай прапуцінскай партыі «Справядлівая Расія — За Праўду» (СРЗП) можа вылучыць сваю кандыдатуру на прэзідэнцкіх выбарах у 2024 годзе. Сам Прылепін, як чакалася, хутка абверг сваё магчымае вылучэнне ў 2024 годзе.

Казаць у Расіі пра пераемніка Пуціна публічна можа толькі сам Пуцін. Крамлёўскіх куратараў СРЗП лепш не злаваць. Тым не менш, па-за ўвагай сцэнар з кандыдатурай Прылепіна не застаўся. На дадзены момант сур'ёзна ў якасці кандыдата ў прэзідэнты ён не разглядаецца, але ў будучыні можа многае памяняцца. СРЗП, як чакаецца, можа адабраць галасы ў КПРФ, і нават у будучыні стаць паглынальнікам гэтай структуры. Адначасова Крэмль відавочна рыхтуе перафарматаванне партыйнай канфігурацыі пасля думскіх выбараў. Жырыноўскі, Зюганаў, Міронаў паступова адыдуць на другі план. Ім на замену прыйдзе новае пакаленне палітыкаў.

Пры гэтым на іх фоне Прылепін здольны сапраўды выглядаць перспектыўным палітыкам: ён удзельнічаў у войнах у Чачні і на Данбасе, мае жыццёвы вопыт, да таго ж — літаратар і нядрэнны прамоўца.

### Эліза Лонсан



Прафесарка, старшыня Канстытуцыйнай Асамблеі Чылі 26 ліпеня адкрыла першы сход Асамблеі, прачытаўшы сваю прамову на мове індзейскага племя мапучы.

Мапучы — гэта адзіны індзейскі народ у Паўднёвай Амерыцы, які не быў заваяваны ні інкамі, ні іспанцамі. Аднак у лацінаамерыканскіх дзяржавах, якія ўзніклі на руінах іспанскай імперыі, яны аказаліся сацыяльнымі маргіналамі. 400 тысяч мапучы, што жывуць у Чылі, — не выключэнне. Выступ Лонсан, якая таксама паходзіць з індзейцаў мапучы, у прэсе разглядаюць як сапраўдны прарыў. Фактычна гэта пачатак прызнання правоў індзейцаў, у тым ліку і прызнанне іх мовы. Назіральнікі не выключаюць, што прынцып білінгвізму будзе замацаваны ў праекце новай чылійскай Канстытуцыі.

Наогул, праект гэтай Канстытуцыі абяцае быць вельмі незвычайным. Улады пагадзіліся перапісаць Асноўны закон, які дзейнічае з часоў Пінaчэта, пасля маштабных народных пратэстаў восенню 2019 года. Па выніках выбараў чальцоў Канстытуцыйнай Асамблеі большасць у ёй атрымалі прадстаўнікі вельмі левых і прагрэсіўных партый, якія абяцаюць прыняць Канстытуцыю, што перафарматуе краіну.

# Беларусь пераможа, калі яе не кінуць яе ваяры

Ігар ЗЛАТАГУРСКІ

**Гэты ліст мы атрымалі ад вязня Глыбоцкай калоніі напачатку чэрвеня 2020 года. Але тады чарга на яго публікацыю так і не дайшла. Нам падалося, што цяпер ён набывае асаблівую актуальнасць.**




Цяпер добра бачна, што палітыкум суседніх Беларусі дзяржаў спрабуе скарыстацца з сітуацыі і падштурхоўвае нас зрабіць канчатковы геапалітычны выбар. Шматлікія беларусы гэтаксама лічаць, што нашая краіна раней ці пазней мусіць далучыцца альбо да Расіі, альбо да Еўрасаюза.

Разам з тым няма сумневу, што ўсе гэтыя людзі на пытанне, ці магчыма ўладальніку невялічкай крамкі з гадавым абаротам у некалькі дзясяткаў тысяч долараў стварыць такі сумесны бізнес з мільярдэрам першай сотні «Форбса», дзе ён мецьме роўнае з апошнім права ўплываць на прыняцце рашэнняў, адкажуць адмоўна.

Парадаксальна, але калі вядзецца аб хаўрусе паміж краінамі, колькасць насельніцтва і ВУП якіх адрозніваюцца ў дзясяткі разоў, то бальшыня гэтых жа самых людзей даюць веры, што між гэтымі дзяржавамі магчымы раўнапраўны саюз.

Карысць ад канчатковага далучэння Беларусі да аднаго з бакоў відавочная хіба што для таго з іх, каму гэты крок дадасць геапалітычнай вагі. Уласна для самой Беларусі не ўсё так адназначна, як вынікае з яе гісторыі, дзе маецца досвед і еўрапейскай, і еўразійскай «інтэграцый».

### ВКЛ — Рэч Паспалітая — Расійская імперыя — Краіна Саветаў

Еўрапейская інтэграцыя была першай, і працэс яе падрыхтоўкі расцягнуўся больш чым на паўтара стагоддзя: ад Крэўскай уніі, якая запачаткавала дынастычны хаўрус паміж Вялікім Княствам Літоўскім і Каронай Польскай, да Люблінскай уніі 1569 года, калі была створаная Рэч Паспалітая — Рэспубліка Абодвух Народаў.

Паводле ўмоваў Люблінскай уніі, Падолле (землі сучаснай Украіны) і этнічна роднаснае ліцвінам-беларусам Падляшша (абшар на захад ад Брэста) перадаваліся палякам наўзамен дапамогі ў вайне з Іванам Жахлівым, які, — таксама «інтэгруючы» нашых продкаў у Маскоўскае царства, — заліў крывёю палову ВКЛ.

Беларусам варта памятаць, што Лівонія, з-за якой і распачалася тады вайна, ратуючыся ад маскоўскага захопу, прасіла дапамогі менавіта ў Кароны Польскай. Але польскі кароль і адначасова вялікі князь літоўскі па намове польскіх магнатаў аддаў Лівонію пад пратэкцыю ВКЛ. Што і ўсклала на нашых продкаў увесь цяжар Лівонскай вайны ды прысцпешыла іх «еўрапейскую» інтэграцыю.

Адбіць маскоўскую агрэсію палякі тады дапамаглі. Але скарачэнне на іх карысць тэрыторыі і насельніцтва пацягнулі за сабой і скарачэнне напалову выстаўленага ліцвінскай шляхтай войска. Надалей супрацьстаяць маскоўцам самастойна, без польскай дапамогі, яно было не ў стане.

Цікава, што перадачу Рускага княства Польшчы тады дзейсна падрыхтавала русінская (украінская) шляхта. Нашчадкі якой праз палову стагоддзя зазналі такі гвалт польскіх магнатаў, што мусілі спрычыніцца да казацкіх антыпольскіх паўстанняў.

У сувязі з гэтым варта аддаць належнае сучасным палякам: падчас свайго прэзідэнцтва Аляксандр Кваснеўскі ад імя польскага народа выбачыўся перад украінцамі за сваіх продкаў, падаўшы гэтым прыклад шляхетнасці ў міжнароднай палітыцы.

Але ў часы пасля Люблінскай уніі яшчэ адным вынікам «еўрапейскай інтэграцыі» нашых продкаў сталася паланізацыя ліцвінскіх магнатаў і шляхты. Беларусы засталіся народам без уласнай эліты амаль на тры стагоддзі, і наступствы гэтага адчуваюцца ў нашым грамадстве і сёння.

Звычайна лічыцца, што ВКЛ спыніла сваё існаванне ў выніку падзелу Рэчы Паспалітай між Расіяй, Прусіяй і Аўстрыяй. Але мала хто ведае, што ініцыятарам падзелаў была еўрапейская дзяржава Прусія, а Вялікае Княства Літоўскае канчаткова знікла з палітычнай мапы свету яшчэ да апошняга, трэцяга з іх. Знікла ў выніку прыняцця Травеньскай Канстытуцыі 1793 года, якая скасоўвала асобныя Карону Польскую і Вялікае Княства і абвяшчала ўнітарную Рэч Паспалітую адзінай польскай нацыі. Няма сумневу, што калі б гэтая дзяржава працягнула сваё існаванне, сёння беларусы былі б сапраўдным еўрапейскім народам — палякамі.

Але было б памылковым лічыць, што згаданыя падзелы выратавалі нашых продкаў і нас ад паланізацыі. У іх выніку беларусы трапілі ў працэс, які можна назваць першай «еўразійскай» інтэграцыяй — яны сталі падданымі Расійскай імперыі. І месца паланізацыі заступіла русіфікацыя. «Вызваленыя ад польскага прыгнёту» сяляне-беларусы атрымалі ўзмацненне прыгону і рэкрутчыну — дваццаціпяцігадовую службу ў расійскім войску, чаго дагэтуль яны ўвогуле не ведалі.

Бадай, першым абавязкам кожнай дзяржавы ёсць абарона сваіх межаў і насельніцтва ад знешніх нападаў. У 1812 годзе расійскія войскі амаль без супраціву саступілі беларускія землі арміі Напалеона. Пасля той вайны нашым продкам засталіся абрабаваныя і згалелыя вёскі і мястэчкі і сотні тысячаў памерлых ад голаду і хваробаў.

Праз стагоддзе, у 1914, руская армія аддала ўжо нямецкім войскам палову Беларусі, папярэдне сагнаўшы казакамі ў бежанства да 80% насельніцтва.

Дзве расійскія рэвалюцыі, Першая сусветная, Грамадзянская і савецка-польская войны напачатку XX стагоддзя сталіся сапраўднай катастрофай для беларусаў і аддалі іх пад уладу таго, што можна назваць другой «еўразійскай» інтэграцыяй. Створаная ў межах Савецкай Расіі квазі-дзяржаўная БССР улучыла ў сябе толькі невялікую частку этнічных беларускіх тэрыторый.

Савецкі бальшавіцкі ўрад дзеля ўратавання сваёй улады не толькі ахвяраваў Заходняй Беларуссю на карысць адноўленай Польшчы. Населеныя беларусамі раёны адышлі наваствораным Літве, Латвіі і Украіне. Не была абдзеленая і Савецкая Расія, якая атрымала этнічныя беларускія Смаленшчыну, вялікія часткі Пскоўшчыны і Браншчыны. Да мільёнаў загінулых у войнах і рэвалюцыях беларусаў далучыліся мільёны гвалтам адарваных ад свайго народа.

Гісторыя паўтарылася і ў трэці раз, у часы Другой сусветнай вайны — савецкая армія аддала Беларусь пад фашысцкую акупацыю, што прывяло не толькі да жахлівага разбурэння гаспадаркі нашай Бацькаўшчыны і гібелі кожнага чацвёртага (трэцяга) жыхара. Па заканчэнні вайны Беларусь зноў зазнала тэрытарыяльныя і людскія страты — беларускую Беласточчыну аддалі Польшчы, а Віленшчыну падаравалі Літве.

Ці ўяўляем мы, сучасныя беларусы, разважаючы пра Беларусь як «кавалак зямлі», пра сабе як «невялікі народ», што нас пазбавілі мільёнаў квадратных кіламетраў этнічнай тэрыторыі і блізу дзесяці мільёнаў чалавек, якія, калі б гэтага не здарылася, сёння вызначалі б сябе беларусамі? Што «малодшымі братамі» мы сталіся адно дзякуючы еўразійскім — спачатку царска-рускай, а пасля і руска-савецкай — інтэграцыям?

Ці ўсведамляем мы, што ўся тая шматмільярдная наўпроставая і ўскосная дапамога Рэспубліцы Беларусь з боку Расійскай Федэрацыі цягам апошніх трох дзесяцігоддзяў — у першую чаргу плата за нашу адмову здзейсняць беларусацэнтрычную нацыянальную палітыку? Мэта ўсіх гэтых выдаткаў, усіх палітыка-эканамічных і культурніцка-прапагандысцкіх захадаў РФ — не толькі сталае ўтрыманне нашай краіны ў сферы ўплыву «рускага міру». Галоўная задача — не дазволіць Беларусі стацца цэнтрам прыцягнення для роднага па крыві беларусам насельніцтва заходніх расійскіх абласцей.

### Пагроза для Крамля

У некаторым сэнсе нацыянальная і незалежная Беларусь уяўляе для Крамля большую пагрозу, чым Украіна. Руйнуецца не толькі міф аб «триедином русском народе», гаворка ідзе пра захаванне цэласнасці ўласна рускага народа. Масква не можа дазволіць раптоўнага абуджэння генетычнай памяці насельніцтва Пскоўшчыны, Смаленшчыны і Браншчыны. Бо тады ўзнікае рызыка, што пра свае карані ўзгадае блізкае да эстонцаў і фінаў насельніцтва вакол Ноўгарада Вялікага. Жыхары Уладзіміра і Растова адчуюць роднаснасць з Мардовіяй. А заснаваная некалі марыйцамі-эрзя Эрзянь, што звыкла лічыцца старажытнарускай Разанню, пацягнецца да аўтаномнай рэспублікі Марый-Эл.

Што тады застанецца ад «славянскага» ядра Расіі і пазіцыянавання Масквы як збіральніцы «рускіх» земляў?

Якой бы фантастычнай ні падавалася магчымасць менавіта гэткага развіцця падзеяў, але зразумела, што Крэмль не можа дапусціць нават гіпатэтычнага шанцу з'яўлення якіх-кольвечы памкненняў у гэтым кірунку.

Адзіным сродкам для Расіі гарантавана прадухіліць гэтую небяспеку ёсць канчатковая інтэграцыя Беларусі. І мы, беларусы, мусім цвёрда гэта ўсведамляць.

Было б глупствам вінаваціць суседнюю краіну ў тым, што яна кіруецца ўласнымі дзяржаўнымі інтарэсамі. Самы час паспрабаваць адкінуць ментальныя ком-

плексы «краіны — малодшага брата Вялікай Расіі» і «краіны — ахвяры драпежніцкай Масквы». Нам варта пачаць нарэшце ўсведамляць сябе народам з патэнцыялам набыць з часам для сваёй дзяржавы нашмат большыя вагу і ўплыў ва Усходняй Еўропе.

Гэта не азначае, што Беларусь праз прызму расійскіх гістарыяграфіі і прапагандысцка-палітычнага наратыву, дзе цэнтрам ёсць адвечнае супрацьстаянне Расіі і варожага Захаду. Але гэтая варажнеча — толькі знешні бок расійска-еўрапейскіх стасункаў. Іх гісторыя ўтрымлівае ў сабе шмат прыкладаў зусім іншага характару ад даўнейшых часоў і да нашых дзён.

Маскоўскі Крэмль і іншыя абарончыя збудаванні стваралі італьянскія дойліды. Генуэзцы ўзбройвалі самастрэламі (арбалетамі) яшчэ войска Дзмітрыя Данскога. І амаль ніхто не задаецца пытаннямі, адкуль у Івана Жахлівага з’явілася магутная артылерыя, якая ўшчэнт разнесла муры Полацка. І з чыёй дапамогай ён здолеў стварыць мадэрнае для таго часу стралецкае войска, узброенае найноўшай агнепальнай зброяй. Як у арміі Аляксея Міхайлавіча Цішайшага з’явіліся палкі іншаземнага ўзору, гэтак званых «царскіх немцаў». А пра тое, што без еўрапейскай дапамогі Пётр Першы не мадэрнізаваў бы армію і не збудаваў ад нуля флот, не ведае адно невук.

Чамусьці беларусы мала звяртаюць увагі, што хаўруснікамі Масквы ў шматлікіх войнах супраць нашых продкаў, апроч крымскіх татараў, выступалі аўстрыйскія імператары, уладары нямецкіх дзяржаў, датчане і шведы.

Памятаючы пра гэта, нам варта разумець, што еўрапейскія хаўруснікі Расіі збольшага імкнуліся паслабіць уласна Польшчу, а нашым продкам даставалася праз «шчыльную інтэграцыю» з ёй.

Нельга забываць, што адным з важных чыннікаў правалу праекта пабудовы Беларускай Народнай Рэспублікі ў 1918 годзе было адмоўнае стаўленне да яе з боку Нямеччыны, пад чыёй акупацыяй на той час была палова Беларусі з Мінскам улучна. Немцы не толькі не падтрымалі БНР, але і перашкодзілі дзейнасці па стварэнні яе інстытуцыяў. Рабілася гэта праз дамову нямецкага і бальшавіцкага ўрадаў, паводле якой Беларусь вызначылася зонай расійскага ўплыву.

### Месца Беларусі і развітанне з ілюзіямі

Найвялікшая хіба — лічыць, што нібыта ў наш час нешта істотна памянялася ў сутнасці расійска-еўрапейскіх дачыненняў і месца Беларусі ў іх. Загінулы колькі гадоў таму ўплывовы чалец «кагорты крамлёўскіх тэлекілераў» Сяргей Дарэнка пісаў: «Правільнае разуменне Беларусі заключаецца ў тым, што яна ўсё-такі мяжуе з NATO і канцэптуальна гэта ўсё-ткі лішнія 600–700 км да мяжы з NATO... З іншага боку, з нашага пункту гледжання, і тут беларусам варта было б разумець гэта, Расія мяжуе наўпрост з Германіяй... Гэтыя два велізарныя хартленды, калі дазволіце, германскі і рускі, мяжуюць праз нейкія “пралівы”, пралівы цалкам сухапутныя. І Польшча, і Чэхія, і Славакія, і ўжо відавочным чынам Беларусь адносяцца да тэрыторыі “праліваў”, праз якія мы мяжуем з Германіяй. Таму любое слова з боку Германіі рускія ўспрымаюць як слова пра дыялог. Любое слова з боку Беларусі рускія не могуць успрымаць як частку дыялогу».





Памылковым з’яўляецца меркаваць, што ў адрозненне ад Расіі Германія больш схільная лічыцца з Беларуссю. Магчыма як заўгодна ставіцца да асобы Зянона Пазьняка, але вось што ён сказаў на гэты конт у размове з Лявонам Баршчэўскім: «Аднойчы, калі мы (партыя КХП-БНФ) ужо аб’явілі Ханса Георга Віка персонай нон-грата і раскрылі ягоную антыбеларускую ролю, ён прыслаў да мяне ў Варшаву свайго пасланца, з якім я меў доўгую гутарку. З падтэксту ўсёй інфармацыі вынікала, што, маўляў, пэўныя немцы зацікаўленыя, каб межы Расіі прысунуліся б пад Буг. Гэта напружыць Варшаву і прымусіць яе нервавацца наконт асвоеных нямецкіх тэрыторыяў. Беларусь тут — натуральны буфер, і немцам толькі замінае».



Каб паставіць кропку што да ілюзіяў наконт «Захад нам дапаможа», варта звярнуць увагу на словы Аляксандра Абуховіча: «В этом плане важна инициатива RAND Corp. и Фонда Эберта: образовать из Беларуси, Украины, Молдовы, Грузии, Армении и Азербайджана “нейтральную полосу” под совместным управлением РФ, США и ЕС. По крайней мере, чтобы избежать стрельбы в этой полосе. Им не до этих стран... Не существует внешнеполитической силы, которая могла бы помочь нам выбраться из тупика. В любом случае, выбираться придётся самим».

І адэптам еўразійскай інтэграцыі Беларусі, і прыхільнікам шляху Беларусі ў Еўропу належыць нарэшце ўсвядоміць, што і ў першым, і ў другім выпадках нашай краіне гарантаваная вельмі спецыфічная роля аднаго гумовага вырабу, які ўсцягвалі і працягнуць усцягваць на свае геапалітычныя інтарэсы і Усход, і Захад.

Самім беларусам любы выбар паміж гэтымі бакамі нясе толькі раскол у грамадстве, якім заўжды будуць карыстацца знешнія гульцы.

Шэсць стагоддзяў запар мы, беларусы, ніколі — падкрэсліваю, ніколі! — не былі поўнымі гаспадарамі на сваёй зямлі і мусілі калі не кіравацца інтарэсамі іншых дзяржаў і народаў, дык узгадняць з імі свае. І нашы нацыянальныя інтарэсы заўжды былі другаснымі.

Ці не прыйшоў час паспрабаваць нарэшце жыць сваім уласным розумам? Голасна артыкуляваць недалучэнне да якіх-кольвечы палітычных блокаў і аб’яднанняў і закласці ў Канстытуцыю непадробны нейтральны статус Беларусі. Гэта аніяк не перашкодзіць усталяваць роўныя і ўзаемакарысныя дачыненні з усімі без выключэння суседнімі дзяржавамі. Зрабіць Беларусь такой, каб яны самі імкнуліся захоўваць наш нейтралітэт.

Але стварыць гэткую краіну нашмат цяжэй за далучэнне да Усходу ці Захаду. Гэта шлях да праўдзівых сыноў і дачок беларускай зямлі, асобаў з вялікай літары, якія не баіцца ісці сваім уласным курсам.

Сапраўды, калі асобныя людзі ці якая суполка заявяць, што бачаць Беларусь у шчыльным саюзе з Расіяй альбо ўвогуле ў яе складзе, то адшукаюць і палітычную, і маральную, і фінансавую дапамогу.

Не застануцца самотнымі і тыя, хто падасць голас за далучэнне Беларусі да Еўразвязу.

Разуменне і падтрымку маюць шанец займець прыхільнікі фемінізму і мульцікультуралізму, анархісты і эколагі, абаронцы правоў сексуальных меншасцяў і іншых на любы густ грамадска-палітычных плыняў сучаснасці.

### Разлічваць на сябе

І толькі тыя, хто паспрабуе пабудаваць Беларусь, якая будзе пільнавацца не інтарэсаў і трэндаў Масквы, Брусэля ці Вашынгтона, а ўласных, маюць разлічваць адно на сябе. Гэта шлях сапраўдных мужных людзей.

Гэта шлях ахвярнасці, стратаў і непаразуменняў. Бо першым крокам на ім ёсць пастанова заставацца ў Беларусі не зважаючы на ўсе неспрыяльныя варункі. Гэта азначае адкладанне на доўгі час альбо ўвогуле нездзяйсненне асабістых планаў у бізнесе ці творчасці, адукацыі ці ўлюбёнай справе. Наўпрост у прыватным жыцці. Усё гэта можа не стацца ў Беларусі. Шмат з гэтых асабістых мэтаў можа здзейсніцца за яе межамі.

Дык навошта заставацца ў краіне, дзе цябе не надта часам разумеюць не тое што чужыя людзі, а знаёмыя, сябры і нават сваякі?

У фільме «Мужнае сэрца» ёсць эпізод, у якім шараговыя шатландскія ваяры, бачачы шматлікасць і моц англійскага войска, што прыйшло іх скарыць, пачынаюць сыходзіць з поля бою яшчэ да бітвы. Маўляў, уцячэм і застанемся жывымі.

І тады нацыянальны герой Шатландыі Уолес, ролю якога выдатна выканаў у стужцы Мел Гібсан, спыніў уцёкі прыкладна гэткімі словамі: «Так, вы ўцячэце і застанецеся жывымі. Пражывеце доўгае жыццё. Але потым, калі будзеце паміраць на схіле веку ў сваіх ложках, вы будзеце прагнуць толькі аднаго — вярнуцца сюды, на гэтае поле, адкуль вы збеглі, і загінуць на ім нясхкоранымі! Але ўжо не здолееце...»

Шатландцы засталіся — і перамаглі. Пераможа і Беларусь. Калі яе не кінуць яе ваяры.

# ДЗЕНЬ НАРОДЗІНАЎ ЗА КРАТАМІ

**Павіншуйце палітвязняў паштоўкай ці тэлеграмай або адпраўце грашовы перавод да свята. А яшчэ ў вас ёсць магчымасць даслаць віншаванне ў рэдакцыю, а мы яго надрукуем. Працягваем знаёміць вас з тымі, у каго дзень народзінаў у жніўні.**

## 3 жніўня



**26-годдзе сустрэне Аляксей Мікалаевіч Караткоў** — CEO-распрацоўшчык стартапа MakeML. Быў затрыманы 27 жніўня на плошчы Незалежнасці каля Чырвонага касцёла.

Спачатку Аляксея Караткова асудзілі на 8 сутак па артыкуле 23.34 КаАП за ўдзел у несанкцыянаваным масавым мерапрыемстве. 4 верасня пры вызваленні з Жодзіна мужчыну адразу затрымалі як падазраванага па ч. 3 арт. 293 КК (Навучанне ці іншая падрыхтоўка асобаў для ўдзелу ў масавых беспарадках). Пазней Аляксею Караткову было прад'яўлена абвінавачанне.

Аляксей Караткоў і Аляксандр Карцаў распрацавалі IDE, у якой любы распрацоўшчык — і не толькі распрацоўшчык — можа трэніраваць нейронную сетку «без кода».

*«Я ведаю Лёшу як чалавека з абвостраным пачуццём справядлівасці і велізарнай эмпатыяй,* — напісаў яго сябра Міхаіл Румянцаў. — *Ён проста не мог сядзець дома склаўшы рукі, ведаючы, што яго сяброў і калегаў збіваюць, катуюць і гвалцяць у засценках КДБ ці на Акрэсціна. Ён не мог "праглынуць" татальную несправядлівасць і хлусню, якая адбывалася падчас выбарчай кампаніі.*

*Аляксей і іншыя вязні сумлення цяпер ахвяруюць сваёй свабодай, для таго каб пашырыць прастору свабоды для ўсіх беларусаў. Лёшу трэба падтрымаць. Напішыце яму ліст».*

У судзе Першамайскага раёна Мінска 25 траўня суддзя Максім Трусевіч асудзіў аднаго з распрацоўшчыкаў стартапа MakeML Аляксея Караткова **да двух гадоў калоніі агульнага рэжыму.**

Адрас для лістоў: СІЗА-6. 225413, г. Баранавічы, вул. Брэсцкая, 258 В.

**36-годдзе адзначыць у зняволенні Дзмітрый Эдуардавіч Юркойць** асуджаны судом Навагрудскага раёна на **1 год і 6 месяцаў абмежавання волі** з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу за абразу суддзі (**арт. 391 КК**).



Юркойця прызналі вінаватым у тым, што ён на вуліцы абразіў лідскага суддзю Філатава, які вядомы тым, што асудзіў вялікую колькасць людзей па палітычна матываваных справах.

З 19 сакавіка адбывае пакаранне ў папраўчай установе №45. Дзмітрыя паставілі на ўлік як схільнага да экстрэмізму. На волі ў яго засталіся двое непаўналетніх дзяцей.

Адрас для лістоў: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №45. 225073, Брэсцкая вобл., Камянецкі р-н., в. Сушкі.

## 5 жніўня

**46 гадоў споўніцца Аляксандру Фёдаравічу Троцкаму.** Яго абвінавацілі ў **замаху на забойства супрацоўніка органаў унутраных** спраў (арт. 14, арт. 362 КК). Паводле абвінавачання, ён наехаў 12 жніўня на сваёй машыне на нагу супрацоўніка ДАІ. У той вечар каля стэлы машыну Аляксандра спынілі ўзброеныя людзі, калі ён адмовіўся выходзіць да іх з машыны, то выбілі шыбы, дасталі яго з салона і моцна збілі.



З чэрапна-мазгавой траўмай пад канвоем і ў кайданках ён правёў у шпіталі тры тыдні. Затым Аляксандра Троцкага перавялі ў СІЗА-1 па крымінальнай справе за гвалт у дачыненні да міліцыянта (арт. 364 КК). Але перад перадачай справы ў пракуратуру следчыя перакваліфікавалі абвінавачанне на больш жорсткае — замах на забойства супрацоўніка органаў унутраных спраў (арт. 14 арт. 362 Крымінальнага кодэкса). Акрамя гэтага, 22 студзеня суд Цэнтральнага раёна асудзіў Аляксандра на 15 сутак за непадпарадкаванне супрацоўніку АМАПу 12 жніўня.

Крымінальную справу супраць Троцкага разглядаў Мінскі гарадскі суд. Паводле абвінавачання, ён правёз 12 жніўня на капоце сваёй машыны супрацоўніка ДАІ Юрава, у выніку чаго той атрымаў цялесныя пашкоджанні, якія не пацягнулі за сабой кароткачасовага расстройства здароўя. Па словах Троцкага, яго машыну беспрычынна спынілі людзі ў цёмным і балаклавах, а калі той, баючыся за сваё жыццё, адмовіўся выйсці з машыны, супрацоўнік ДАІ *«дастаў баявую зброю і накіраваў у яго бок, прыцэліўся прама ў галаву».*

5 сакавіка суддзя Сяргей Хрыпач прызнаў Аляксандра вінаватым па арт. 14 арт. 362 КК і вырашыў, што ў Троцкага сапраўды быў намер на забойства супрацоўніка ДАІ, ды пакараў яго **10 гадамі пазбаўлення волі ва ўмовах узмоцненага рэжыму.**

Адрас для лістоў: ПК №17. 213004, г. Шклоў, вул. 1-я Заводская, 8.



**24 гады** споўніцца **Арцёму Мядзведскаму** — фігуранту крымінальнай справы, распачатай пасля акцый пратэсту ў жніўні ў Мінску.

Спачатку яму прад'явілі абвінавачанне па артыкуле аб удзеле ў масавых беспарадках (ч. 2 арт. 293 КК), затым справу перакваліфікавалі на арт. 342 КК (Групавыя дзеянні, што груба парушаюць грамадскі парадак).

Затрыманы 19 кастрычніка на працы. Падстава — Арцёма пазналі па відэа з пратэстаў каля ГЦ «Рыга».

Знаходзіўся пад вартай у СІЗА-1 у Мінску да суда.

12 студзеня пачаўся разгляд яго справы. 15 студзеня быў агучаны прысуд: **3 гады абмежавання волі з накіраваннем у папраўчую ўстанову («хімія»).** Мядзведскага вызвалілі ў зале суда — пакаранне мусіла ўступіць у сілу ў выпадку, калі прысуд не будзе зменены вышэйшай інстанцыяй.

20 красавіка Арцём Мядзведскі паехаў адбываць пакаранне.

Адрас для лістоў: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №45. 225073, Брэсцкая вобл., Камянецкі р-н., в. Сушкі.

## 6 жніўня

**26-годдзе сустрэне ў няволі Эміль Габіл аглы Гусэйнаў** — фігурант крымінальнай справы, распачатай пасля акцыі пратэсту 23 верасня, калі ў Мінску прайшла інаўгурацыя Аляксандра Лукашэнкі. Супраць Гусэйнава, а таксама яго сябра Паўла Аўчарава была распачата справа па трох артыкулах КК: **ч. 2 арт. 293** (Удзел у масавых беспарадках), ч.1 арт. 342 (Актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, што груба парушаюць грамадскі парадак), ч. 1 арт. 363 КК (Супраціў супрацоўнікам органаў унутраных спраў).



Аўчарава і Гусэйнава прызналі вінаватымі ў тым, што 23 верасня з 21.00 да 23.00 яны заклікалі да ўдзелу ў масавых беспарадках, якія загадзя былі спланаваныя пад выглядам масавых мерапрыемстваў, а таксама блакавалі камунікацыі. Гэта пацягнула парушэнне работы «Мінсктранса». Таксама — «*абмяжоўвалі права добрапрыстойных грамадзян на спакойны адпачынак і свабоднае перамяшчэнне*», аказалі супраціў супрацоўнікам МУС.

Абодва мужчыны віну не прызналі. Павел Аўчараў і Эміль Гусэйнаў атрымалі па **5 гадоў пазбаўлення волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму.**

Адрас для лістоў: Турма №4. 212011, г. Магілёў, вул. Крупскай, 99А.

## 7 жніўня



**34 гады** споўніцца **Дар'і Аляксандраўне Данілавай** — менеджарцы праекта TAM.BY, дырэктарцы RocketData.

Яна была затрыманая 18 траўня ў рамках крымінальнай справы, распачатай супраць навінавага парталу TUT.BY за ўхіленне ад выплаты падаткаў у асабліва буйным памеры **(ч. 2 арт. 243 КК).**

Адрас для лістоў: СІЗА-1. 220030, г. Мінск, вул. Валадарскага, 2.

**34-годдзе** адзначыць **Ігар Анатольевіч Лаптановіч** — будаўнік і актывіст з Пружанаў, фігурант крымінальнай «справы карагодаў», распачатай пасля акцыі 13 верасня.



Ігар пэўны час знаходзіўся на волі ў статусе падазраванага па гэтай справе (па арт. 342 КК — Актыўны ўдзел у групавых дзеяннях, якія груба парушаюць грамадскі парадак). 24 сакавіка яму змянілі меру стрымання і змясцілі пад варту ў СІЗА-7 да суда.

Жонка Ігара — таксама фігурантка «справы карагодаў», яна пад падпіскай аб нявыездзе. У сям'і трое дзяцей.

Адрас для лістоў: СІЗА-7. 224030, г. Брэст, вул. Савецкіх памежнікаў, 37.



23 гады споўніцца Іллю Смольскаму. Суд Ленінскага раёна Брэста 6 лістапада вынес прысуд па крымінальнай справе **Іллі Андрэевіча Смольскага**, якога абвінавацілі ў знявазе дзяржаўнага сцяга паводле артыкула артыкула 370 КК.

Суддзя Грушко прызнаў Іллю Смольскага вінаватым і прызначыў пакаранне ў выглядзе **1 года абмежавання волі з накіраваннем ва ўстанову адкрытага тыпу.**

Адрас для лістоў: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №26. 231724, Гродзенскі раён, в. Гіновічы, 1.

## 8 жніўня

31 год споўніцца **Канстанціну Васільевічу Сінкевічу** — жыхару Віцебска, бацьку трох маленькіх дзяцей. Асуджаны на **2 гады абмежавання волі** з накіраваннем у папраўчую ўстанову адкрытага тыпу («хімія»).

Падставай для крымінальнага пераследу па артыкуле 369 КК (Абраза прадстаўніка ўлады) стаў каментар у сацыяльнай сетцы «Вконтакте», пакінуты Канстанцінам пад фота міліцыянта.

Адбывае пакаранне ў папраўчай установе адкрытага тыпу ў Гомелі.

Адрас для лістоў: Папраўчая ўстанова адкрытага тыпу №17. г. Гомель, вул. Барысенка, 13, к. 2.

Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (с) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 17 347-52-81; +375 29 625-57-51,
novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А.
ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №1276

Падпісана да друку 29.07.2021. 8.00.
Наклад 5500 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.